ПРОЛ… …ВОЗДВИЖЕ… КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!
НАПОЛН, …

# САВЕЦКАЯ КРАЇНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

…істапад
№ 11
1932

# ЗЬМЕСТ



## РЭЦЭНЗІЯ



## ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ



## ХРОНІКА

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся.*





# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ЛІСТАПАД

№ 11 (25)



МЕНСК — 1932

В. Серафімаў

# За разгортваньне савецкага і колгаснага гандлю

*(Да ўдзелу краязнаўчых організацый у разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю)*

Дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю выцякаюць з указаньняў Маркса, Леніна, Сталіна, з гістарычных рашэньняў XVII партыйнай конфэрэнцыі, з тых вялізарнейшых перамог, якіх мы дабіліся за XV год пролетарскай дыктатуры ў соцыялістычным будаўніцтве. „Для забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў уздыму ўсёй народнай гаспадаркі і лепшага задавальненьня запатрабаваньняў шырокіх мас гораду і вёскі ў адносінах тавараў шырокага спажываньня першаступовае значэньне мае разгортваньне таваразвароту. Разгортваньне таваразвароту—перш за ўсё раздробненага—і правядзеньне прынцыпу гаспадарчага разрахунку ва ўсёй гаспадарчай рабоце зьяўляецца важнейшым стымулем для выяўленьня вялізарных і ўсё яшчэ ня выкарыстаных нутраных рэсурсаў, якія ёсьць у нашай гаспадарцы, якія спрыяюць паскарэньню росту соцыялістычнага накапленьня і тым самым узмацняюць матар'яльную базу ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва. Разам з тым толькі на аснове разгортваньня таваразвароту можна забясьпечыць далейшае шпаркае палепшаньне забесьпячэньня рабочых і працоўных вёскі прамысловымі таварамі і продуктамі сельскае гаспадаркі, для чаго ў сваю чаргу неабходна ўсямернае пашырэньне сеткі магазынаў, крам, усёй гандлёвай сеткі з правядзеньнем неабходнай тэхнічнай яе рэконструкцыі. Толькі на гэтай аснове можна падрыхтаваць адмену нормаваньня водпуску тавараў і замяніць сыстэму цэнтралізаванага разьмеркаваньня разгорнутым савецкім гандлем“ (з рэзолюцыі XVII партыйнай конфэрэнцыі). Рашэньнямі пленумаў партыі з ўсёй яскравасьцю падкрэьслена, што разгортваньне савецкага і колгаснага гандлю зьяўляецца рашаючым пытаньнем у соцыялістычным будаўніцтве і што ад пасьпяховага і хутчэйшага вырашэньне разгортваньня савецкага і колгаснага гандлю залежыць далейшае разгортваньне таваразвароту паміж горадам і вёскай, організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў і „ўздым вытворчай актыўнасьці колгасьнікаў і працоўнага аднаасобніка і стварэньне гэтым самым вялізарных рэсурсаў для палепшаньня забесьпячэньня рабочых і працоўных вёскі“ (з пастаноў ліпнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б).

Верасьнёўскі пленум ЦК УсеКП(б) падкрэсьліў, што далейшае ўмацаваньне змычкі рабочае клясы з сялянствам і палепшаньне матар'яльнага становішча працоўных мас патрабуюць разгортваньня савецкага і колгаснага гандлю і гандлю колгасьнікаў і аднаасобных працоўных мас.

На аснове рашэньняў партыі і рашучай барацьбы за ажыцьцяўленьне гэтых рашэньняў перадавых партыйных організацый, саветаў, профсаюзаў, лепшых зьвеньняў коопэрацыі мы на сёньня маем значныя дасягненьні ў разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю. На працягу 1932 г. па лініі Цэнтрасаюзу адчынена 13.100 магазынаў, з якіх 5.400 адчынена ў горадзе, а 7.700 ў вёсцы. У гэтым-жа годзе адчынена ларкоў і палатак 22.500. Гандлёвая сетка па лініі спажывецкай коопэрацыі вырасла на 20%. Па лініі Наркамснабу на працягу 1932 г. адчынена 7.700 магазынаў, з якіх у гарадзкіх мясцовасьцях 2.800 і ў сельскай мясцовасьці 4.080, новых ларкоў і палатак адчынена 5.900. Па БССР мы маем таксама зрух у разгортваньні гандлёвай сеткі. Па колгаснаму гандлю ў 1932 г. на 1 кастрычніка адчынена 42 магазыны і 402 ларкі. Аднак, намечаны плян у разгортваньні гандлёвай сеткі па БССР яшчэ ня выкананы: па адчыненьню магазынаў плян выкананы на 90% (не адчынена яшчэ 5 магазынаў), па адчыненьню ларкоў плян выкананы толькі на 50% (не адчынена 403 ларкі). Аднак-жа, гэты зрух на сёньня застаецца, бязумоўна, нездавальняючым, асабліва гэта характэрна ў параўнаньні сучаснага становішча з 1928 годам, калі мы мелі на 1 краму 86 пакупцоў і цяпер, калі мы маем на 1 пункт 342 пакупцы, што, бязумоўна, стварае чаргу. Бязумоўна, мы рашуча ажыцьцяўляем лінію партыі на вышыбаньне прыватніка з нашага таваразвароту, аднака-ж, тэмпы па разгортваньню савецкага і колгаснага гандлю ў нас яшчэ невыстарчальныя. Якія суадносіны гэтых лічбаў? Калі параўнаць дзяржаўныя гандлёвыя пункты з прыватнымі, то атрымаецца такі малюнак: 1928 г.—дзяржаўных гандлёвых пунктаў было 736, а ў 1932 г. 941; коопэрацыйных адпаведна—3.188 і 5.941; прыватных у 1928 г. было 8.619, а ў 1932 г.—82. Аднак-жа, калі ўзяць абсолютную лічбу, характарызуючую становішча разгортваньня гандлёвай сеткі ў пэрыод першай пяцігодкі, то мы маем значнае скарачэньне: у 1928 годзе было 12.543 гандлёвых пункты, а ў 1932 г—6.994 гандлёвых пункты.

Рашэньне верасьнёўскага пленуму ЦК УсеКП(б), як ранейшыя дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б падкрэсьліваюць, што далейшае палепшаньне забесьпячэньня рабочае клясы і працоўных мас гораду павінна разгортвацца побач з поўным выкананьнем плянаў цэнтралізаваных загатовак, па лініі дэцэнтралізаваных загатовак коопэрацыі, сталовых іншых гандлёвых організацый, разгортваньня колгасных базараў і організацыі ўласных харчовых баз пры фабрыках, заводах і іншых прадпрыемствах. Сваёй пастановай верасьнёўскі пленум ЦК ставіць як важнейшую задачу фабрык, заводаў—мець свае харчовыя прадпрыемствы: гароды, малочныя гаспадаркі, сьвінагадоўлю, рыбную гаспадарку, трусагадоўлю, птушкаводства і інш.

Рашэньне партыі аб разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю з усёй катэгорычнасьцю ставіць пытаньне перад коопэрацыйным і гандлёвым апаратам аб перабудове работы. Побач з коопэрацыйнасьцю работы, барацьбой з бюрократызмам, барацьбой з злачынствамі, барацьбой з зладзействам і інш., ва ўсю шырыню павінна быць пастаўлена задача штодзеннай барацьбы за дадатковыя тавары, сталае вывучэньне спажыўца, яго запатрабаваньняў. Рашэньне ліпнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае ленінскае паказаньне „зьбіраць распыленыя таварныя каштоўнасьці і выклікаць да жыцьця новыя“ (Ленін) і патрабуе ад спажыўсыстэмы ня толькі гандляваць дэфіцытнымі таварамі, якія завозяцца з цэнтру, а выклікаць новы паток тавараў на мясцох. Таксама рашэньні ліпнёўскага пленуму ў мэтах паляпшэньня асортымэнту, у мэтах пашырэньня вырабаў тавараў шырокага спажываньня патрабуюць ад коопэрацыі вывучэньня запатрабаваньняў спажыўца і, выходзячы з гэтага, адпаведных заказаў прамысловым прадпрыемствам.

Разгортваньне савецкага і колгаснага гандлю непадзельна зьвязана з вырабам тавараў шырокага спажываньня нашай прамысловасьцю. Цяпер мы для гэтага маем усе магчымасьці, „новае ў разьвіцьці нашай прамысловасьці заключаецца, між іншым, у тым, што мы маем цяпер магчымасьць разьвіваць паскораным тэмпам і цяжкую і лёгкую індустрыю“ (тав. Сталін). Мы маем значныя посьпехі ў разгортваньні лёгкай прамысловасьці і ў вытворчасьці тавараў шырокага спажываньня; рост продукцыі лёгкае прамысловасьці ў параўнаньні з 1928 годам вырас на 71%. Бязумоўна, гэты рост мы мелі на аснове рашучага ажыцьцяўленьня лініі партыі ў разгортваньні цяжкой індустрыі. Згодна дырэктывы ліпнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б прадпрыемствы БССР звыш пляну ў 1932 г. павінны даць тавараў шырокага спажываньня на 30.605.480 руб.

У разгортваньні вырабаў шырокага спажываньня і савецкага і колгаснага гандлю набывае вялікае значэньне прамысловая коопэрацыя. Трэба зжыць тыя нядбайныя адносіны, якія маюцца да саматужных арцеляў на мясцох. Характэрным прыкладам гэтай нядбайнасьці можна лічыць Чырвонапольскі раён. Там на сёньня, пасьля рашэньняў ліпнёўскага пленуму яшчэ ні адна організацыя належна не займалася саматужнымі арцелямі, ня гледзячы на тое, што ў раёне маецца рад прамарцеляў: ткачоў, шаўцоў, шапавалаў, краўцоў, ня гледзячы на тое, што, за выключэньнем ільназаводу, ніякіх іншых прамысловых прадпрыемстваў у мястэчку няма. Абураючыя факты грубага неразуменьня дырэктыў партыі дае мясцовая коопэрацыя. Калі арцель шапавалаў у адказ на рашэньне партыі блізка падышла да яго ажыцьцяўленьня і згатовіла для рынку 23 пары валёнак, дык ні адна крама іх ня ўзяла; гэтага галавацяпства не адмянілі і гора-кіраўнікі коопэрацыі. Шапавалам прышлося на вуліцы організаваць продаж валёнак Да рэчы трэба падкрэсьліць і ігнараваньне вышэй адзначанага паказаньня Леніна і ЦК аб вышуку тавараў на мясцох.

Трэба рашуча зламаць опортуністычнае супраціўленьне ў ажыцьцяўленьні дырэктыў партыі, якія патрабуюць ад партый-

ных і савецкіх арганізацый на мясцох і забясьпечыць ім рэальную дапамогу ў пашырэньні вырабу прадметаў шырокага спажываньня на аснове выкарыстаньня мясцовага сырцу.

Толькі на аснове непрымірымай барацьбы з правым опортунізмам партыя дабілася перамогі ў справе замацаваньня вытворчай змычкі рабочае клясы з сялянствам, якая „ня толькі ня зьнімае, але высоўвае з асаблівай сілай задачу ўмацаваньня на гэтай базе гандлёвай змычкі гораду з вёскай“ (з пастановы верасьнёўскага пленуму ЦК). Рашучая барацьба з правым опортунізмам, з кулацкімі элемэнтамі, якія будуць імкнуцца разьвязаць рыначную стыхію, зьяўляюцца галоўнейшай задачай у разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю. Адначасна ЦК УсеКП(б) патрабуе рашучага адпору антыпартыйнай „лявацкай“ недаацэнцы разгортваньня савецкага гандлю. „Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя, гаспадарчыя і профсаюзныя органы даць бязьлітасны адпор „лявацкай“ анты-ленінскай недаацэнцы значэньня савецкага гандлю, з аднаго боку, і лібэральна-буржуазнаму тлумачэньню задач разгортваньня савецкага гандлю з боку правых опортуністаў,—з другога“ (з пастаноў верасьнёўскага пленуму ЦК). Выкрыцьцё і выключэньне з радоў партыі групы асьпірантаў (Шапашнікаў, Гэльфман, Швэйдаль), агентаў трацкізму—контррэволюцыйнага авангарду сусьветнай буржуазіі, якая дыскутавала рашэньне партыі аб колгасах і колгасным гандлі, патрабуе асаблівай пільнасьці і непрымірымасьці ў барацьбе з малейшымі праявамі ворага „падвяргаць сумненьню“ рашэньні партыі.

Дырэктывы партыі аб разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю патрабуюць актыўнага ўдзелу на гэтым адказьнейшым участку социялістычнага будаўніцтва навукі, навукова-дасьледчых установ, масавых навукова-дасьледчых арганізацый, краязнаўчых арганізацый. На сёньня, ня гледзячы на дырэктывы партыі, мы не далі належнай продукцыі, якая-б шырока популярызавала ў масах рашэньні партыі, указаньне Маркса-Леніна-Сталіна па гэтаму пытаньню. Трэба лічыць, што гэты недапушчальны прабел у бліжэйшы час будзе ў значнай ступені ліквідаваны. У гэтым артыкуле я хачу каротка затрымацца на разгортваньні масавай навукова-дасьледчай работы вакол савецкага гандлю, на ўдзеле нізавых зьвеньняў краязнаўчых арганізацый у барацьце за савецкі і колгасны гандаль, на тых пытаньнях, якія павінны быць пакладзены ў аснову работы. Першае і асноўнае, што трэба ўсвоіць і які трэба зрабіць вынік з рашэньняў партыі, гэта барацьба за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў у сетцы работы краязнаўчых организацый. Побач з вывучэньнем прыродных багацьцяў раёнаў, выяўленьне сыравінных рэсурсаў БССР павінна займаць адно з галоўнейшых месц: пытаньне організацыі работы ў колгасе, пытаньне ажыцьцяўленьня зьдзельшчыны, брыгада, социялістычныя мэтоды работы, пытаньні спэцыялізацыі колгасаў, пытаньні падняцьця ўраджайнасьці колгасных палёў, пытаньні клясавай барацьбы зьяўляюцца важнейшай задачай барацьбы за разгортваньне савецкага і колгаснага гандлю. Побач з гэтым нельга ўпусьціць рад спэцыфічных задач у краязнаўчай

рабоце, якія зьвязаны непасрэдна з разгортаванем савецкага і колгаснага гандлю.

Удзел краязнаўчых організацый, краязнаўчых музэяў у разгортваньні масавай работы. Правядзеньне масавых дакладаў з жывой ілюстрацыяй мясцовых матар'ялаў, організацыя выстаўкі, лёзунгаў, плякатаў, якія-б жыва характарызавалі рашэньне партыі па пытаньню савецкага і колгаснага гандлю, організацыя і папулярызацыя мерапрыемстваў мясцовых партыйных і савецкіх установ.

Організацыя масавага вывучэньня, дасьледваньне мясцовых прадпрыемстваў, прамысловых арцеляў, як імі ажыцьцяўляюцца дырэктывы партыі па вырабу тавараў шырокага спажываньня. Скарыстаньне дасьледванага матар'ялу для шырокага абмену практыкай праз мясцовы і цэнтральны друк. Паказаць лепшыя прадпрыемствы, лепшых організатараў, лепшых ударнікаў, паказаць і шырока папулярызаваць мэтоды барацьбы, якія далі найбольшы эфэкт у вырабе тавараў шырокага спажываньня. Праз дасьледваньне і вывучэньне прадпрыемстваў, арцеляў трэба дапамагчы самім прадпрыемствам адшукаць патрэбную сыравіну, уціль, організаваць збор уцілю. Краязнаўчы музэй павінен наглядна ілюстраваць актыўную барацьбу за шырпатрэб прадпрыемстваў свайго раёну. Музэй павінен даць разгорнуты, жывы малюнак, паказаць перадавікоў, паказаць адстаючых, прычыны адставаньня. Для выкананьня гэтай работы краязнаўчы музэй (куток) скарыстоўвае дасьледчы матар'ял краязнаўчых організацый, завадзкі друк (шматтыражкі, насьценгазэты), цэнтральны друк, матар'ялы мясцовых організацый, установ. Зусім відавочна, што музэй, разгортваючы барацьбу за савецкі і колгасны гандаль, за шырпатрэб, гэтым самым перабудоўвае сваю работу, актыўна змагаецца за ажыцьцяўленьне лініі партыі. Мы ўжо мелі прыклады правільнай барацьбы музэю (Віцебск) за выкананьне прамфінпляну, калі музэй організаваў выстаўку прамысловасьці за тры гады першай пяцігодкі.

У разгортваньні савецкага гандлю краязнаўчыя організацыі павінны сваёй дасьледчай работай дапамагчы мясцовым організацыям у плянаваньні мясцовай сеткі (магазынаў, ларкоў). Дасьледчая работа краязнаўчых організацый павінна абагуліць і паказаць практыку лепшых барацьбітоў у разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю, паказаць работу лепшых сельпо, лепшых крам, лепшых загадчыкаў крам, работнікаў прылаўку, паказаць мэтоды работы, якімі дабіліся організатары, кіраўнікі тэй ці іншай гандлёвай установы, крамы, ларка. Найлепшым прыкладам гэтай работы можа служыць рад невялічкіх артыкулаў у „Праўде". Напрыклад, у „Праўде" ад 7 лістапада (№ 309) тав. Сьмірноў, загадчык крамы, у артыкуле „Мастацтва гандляваць па-савецку" расказвае, якімі мэтодамі ён дабіўся таго, што яго магазын стаў перадавым магазынам. Тав. Сьмірноў расказвае пра барацьбу за організацыю работы магазыну, пра мобілізацыю работнікаў на перабудову работы, на збор уцілю, пра атрыманьне трох тысяч пар новых галёш. Як організавалася гаспадарчая разрахунковая брыгада і якімі мэтодамі дабіўся магазын павялічэньня

тавара звароту з 40.000 руб. да 300.000 руб. у месяц. Гэтыя прыклады „Правды“ павінны быць шырока скарыстаны нашымі краязнаўчымі організацыямі. Прычым організацыя гэтай работы павінна прыцягнуць новых людзей у краязнаўчую сетку, даць новых корэспондэнтаў краязнаўчым організацыям, краязнаўчым часопісам.

Савецкі і колгасны гандаль—адказьнейшы ўчастак соцыялістычнага будаўніцтва і патрабуе ня меншай увагі ў сваёй сыстэме як любая галіна нашага будаўніцтва. Барацьба за правільную організацыю работы ў савецкім гандлі—першачарговая задача як работнікаў гандлёвай сыстэмы, так і нізавых навукова-дасьледчых організацый. На якіх пытаньнях павінна быць сконцэнтравана ўвага ў гэтай галіне, у галіне барацьбы за якасныя паказчыкі савецкага гандлю? Ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду аб скарачэньні адміністрацыйных выдаткаў на апарат, як уведзена і організавана заробчая плата, якая стымулявала лепшую работу гандлёвай сыстэмы. Організацыя соцыялістычных форм работы, організацыя гаспадарча-разрахунковых брыгад. Організацыя работы гандлёвага апарату на аснове рашучага ўкараненьня сапраўднага гаспадарчага разрахунку. Разгортваньне таваразвароту за кошт самазагатовак. Разгортваньне савецкага таваразвароту ў другую пяцігодку ставіць пытаньне аб разгортваньні мэханізацыі работы работнікаў савецкага гандлю і ўтварэньне матар'яльна-тэхнічнае базы для ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства (організацыя папярэдняй развескі, замест ручнога спосабу работы ў той ці іншай меры спэцыяльнымі мэханізацыямі і г. д.). Важнейшым фактарам росту вытворчасьці работы ў савецкім гандлі, бязумоўна, будзе зьяўляцца шырокае распаўсюджаньне новых форм гандлю, як, напрыклад, дастаўка тавараў на дом, пасылачны гандаль і г. д. Разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, шырокі ахоп гандлёвых работнікаў гаспадарча-разрахунковымі брыгадамі, перавод усіх гандлёвых работнікаў на зьдзельную і заахвочваючую аплату работы, палепшаньне матар'яльна-бытавога становішча гандлёвых работнікаў зьяўляюцца важнейшымі ўмовамі, забясьпечваючымі рост вытворчасьці работы ў максымальным разгортваньні савецкага таваразвароту.

Побач з організацыяй работы ў савецкім гандлі важнейшым пытаньнем зьяўляецца плянаваньне ў організацыі масавага руху тавараў. Мы, бязумоўна, маем вялікія дасягненьні ў гэтым кірунку, наш таварны рух усё больш і больш набывае характар організаванага руху тавараў ад вытворчасьці да спажыўцца. Аднак-жа, побач з гэтым мы маем яшчэ грубое скажэньне дырэктыў партыі ў дастаўцы тававаў: адсутнасьць опэрацыйнасьці, дыфэрэнцыяваны падход падмяняецца мэханічным, утварэньне лішніх пунктаў пры руху і павялічэньне, у сувязі з гэтым, накладных выдаткаў і г. д. Організацыя прыёму і выкананьне тэрмінаў чыгункай у перавозцы грузаў, бязумоўна, зьяўляецца рашаючым фактарам у хутчэйшай дастаўцы таварных мас да спажыўца. Усе гэтыя паказаныя моманты з усёй яскравасьцю сьведчаць аб тым, што савецкі гандаль, як важнейшы ўчастак соцыялістычнага будаўніцтва, патрабуе падрыхтаваных кадраў, патрабуе лепшых сваіх рацыяналізатараў,

патрабуе вынаходзтва і вынаходнікаў, патрабуе лепшых спэцыялістаў сваёй справы і, бязумоўна, патрабуе адказьнейшага ўдзелу навукі і яе бальшавіцкай барацьбы за ажыцьцяўлельне дырэктыў партыі і ўраду.

Наша дасьледчая работа павінна дапамагчы коопэрацыйным і гандлёвым організацыям вышукаць дадатковыя тавары на мясцох, павінна дапамагчы ў організацыі і ў вывучэньні спажыўца, яго запатрабаваньняў у тавары і ў організацыі заказу гэтых тавараў прамысловым прадпрыемствам, у організацыі і плянаваньні завозу тавараў у тую ці іншую мясцовасьць, каб хутчэй задаволіць спажыўца патрэбнымі таварамі шырокага спажываньня. Дасьледчая работа павінна дапамагчы колгасам у організацыі і выяўленьні ўсіх наяўных рэсурсаў, каб болей выкінуць сельска-гаспадарчых тавараў на колгасны рынак. Таксама паказаць перадавыя колгасы і колгасьнікаў у справе організацыі колгаснага гандлю. Шырока папулярызаваць перадавыя колгасы ў організацыі і барацьбе за разгортваньне колгаснага гандлю. Клясавай пільнасьцю і непрымірымай барацьбой з варожымі анты-бальшавіцкімі ўстаноўкамі і кулацкай практыкай дасьледчая работа і масавая работа краязнаўчых організацый павінна дапамагчы партыйным, савецкім і коопэрацыйным організацыям выкрываць кулацкіх агентаў і варожыя элемэнты, якія будуць імкнуцца зрываць ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі, шкодзіць у сыстэме гандлёвага апарату. Разгортваньне навукова-дасьледчай работы павінна быць накіравана на барацьбу за выкананьне цэнтралізаваных загатовак, паказаць перадавыя колгасы, працоўныя аднаасобныя гаспадаркі, своечасова выконваючыя свае абавязательствы перад дзяржавай, выкрыць кулацкую авантуру, якая будзе імкнуцца зрываць цэнтралізаваныя загатоўкі, дапамагчы парторганізацыі савету выкрыць перад шырокімі масамі манэўры ворага ў барацьбе партыі за хлеб, у барацьбе за выкананьне плянаў пролетарскай дзяржавы.

---



В. Самцэвіч

# Аб формах і мэтодах пропаганды і папулярызацыі савецкага краязнаўства сярод працоўных мас

Савецкае краязнаўства, як форма масавай навукова-дасьледчай работы, мае надзвычайна вялікае значэньне ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, у вырашэньні вялізарнейшых задач II-й пяцігодкі. Праз краязнаўчыя організацыі шырокія працоўныя масы павінны прыняць актыўнейшы ўдзел у вывучэньні энэргетычных і сыравінных рэсурсаў нашай краіны, вывучэньне дзікарастучых і лекавых расьлін, новых сельска-гаспадарчых культур, экономікі і гаспадарчай спэцыялізацыі раёнаў, у вырашэньні проблемы падвышэньня ўраджайнасьці і г. д. Аднак, да гэтага часу задачы савецкага краязнаўства ў належнай меры яшчэ не популярызаваны сярод шырокіх працоўных мас. Рабочыя фабрык і заводаў, колгасьнікі, гаспадарнікі, комсамольцы яшчэ ня ведаюць добра, якія задачы ставяцца перад краязнаўствам і якую ролю могуць адыграць краязнаўчыя організацыі ў соцыялістычным будаўніцтве таго або іншага прадпрыемства, саўгасу, колгасу, раёну. Аднэй з прычын слабога разгортваньня краязнаўчага руху зьяўляецца вельмі слабая і зусім недастатковая пропаганда і популярызацыя савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас. Краязнаўчыя організацыі яшчэ ня вышлі на шлях шырокай масавай сыстэматычнай і плянавай работы, падпарадкаванай конкрэтным задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Аднэй з неадкладных чарговых задач усіх краязнаўчых організацый зьяўляецца шырокая і сыстэматычная пропаганда ідэй савецкага краязнаўства сярод працоўных мас і організацыя масавай дасьледчай работы на прадпрыемствах, у саўгасах, МТС, колгасах, школах.

Пастаноўка дакладаў на сходах да гэтага часу была амаль выключнай формай пропаганды і популярызацыі краязнаўства. Адзначаючы значэньне лекцый і дакладаў, як вельмі важных спосабаў у популярызацыі і пропагандзе краязнаўства, мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на скарыстаньне і іншых форм і мэтодаў пропаганды і популярызацыі савецкага краязнаўства.

У мэтах пропаганды ідэй краязнаўства і популярызацыі вынікаў краязнаўчай работы трэба ў шырокай меры выкарыстаць цэнтральны і мясцовы пэрыодычны друк, шматтыражкі і насьцен-

газэты. Паведамленьне праз газэты аб выяўленых карысных выкапнях, новых будаўнічых матар'ялах, аб дасягненьнях лепшых прадпрыемстваў, саўгасаў і колгасаў у справе організацыі працы і павялічэньня яе продукцыйнасьці, ініцыятыўнае высоўваньне новых задач перад гаспадарчымі організацыямі на падставе вынікаў дасьледчай работы зьявіцца найлепшай популярызацыяй краязнаўчай работы і пакажа грамадзкасьці значэньне савецкага краязнаўства ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. Зусім нездавальняюча да гэтага часу выкарыстоўваецца краязнаўчымі організацыямі радыё. Краязнаўчыя організацыі павінны выкарыстаць радыё, як магутны сродак перадачы шырокім масам дасягненьняў навукі і тэхнікі ў розных галінах будаўніцтва, а разам з тым і як сродак популярызацыі задач савецкага краязнаўства.

Краязнаўчыя зьлёты і вечары на фабрыках і заводах, у саўгасах і колгасах павінны заняць віднае месца. Краязнаўчыя зьлёты трэба праводзіць у мэтах жывога абмену практыкай праведзенай работы, інструктаваньня, выяўленьня дасягненьняў і выпраўленьня недахопаў у рабоце. Зусім зразумела, што зьлёты павінны быць належным чынам падрыхтаваны і не павінны займаць многа часу. Краязнаўчыя зьлёты трэба праводзіць таксама і для абгаварэньня пытаньняў удзелу краязнаўчых ячэек у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній, для азнаямленьня і абмену практыкай у рабоце, для організацыі масавых мерапрыемстваў і для падагульненьня вынікаў дасьледчай работы.

Організацыя краязнаўчых вечароў мае вялікае значэньне ў справе організацыйнай і популярызацыйнай работы краязнаўчых організацый. Краязнаўчы вечар праводзіцца прыкладна такім чынам. Краязнаўчая організацыя (ячэйка) падрыхтоўвае даклад аб выніках праведзенай дасьледчай работы, дыяграмы, колекцыі, фотоздымкі і організуе краязнаўчую выстаўку. На вечар запрашаюцца рабочыя, колгасьнікі, вучні (у залежнасьці ад таго, дзе праводзіцца вечар). На вечары ставіцца даклад аб выніках дасьледчай работы і яе значэньні ў соцыялістычным будаўніцтве, дэмонструюцца адпаведныя экспонаты, фотоздымкі, дыяграмы, прылады, якія ўжываліся ў часе дасьледчай работы і г. д. Рабочыя і колгасьнікі, якія прымалі непасрэдны ўдзел у дасьледчай рабоце, у сваіх выступленьнях адзначаюць свае посьпехі ў аўладаньні мэтодамі і тэхнікай дасьледчай работы. Праводзіцца агляд выстаўкі, даецца консультацыя па пытаньням організацыі дасьледчай работы. Краязнаўчы вечар павінен популярызаваць краязнаўчую работу, даць удзельнікам вечару належную зарадку для пашырэньня і паглыбленьня краязнаўчай работы.

Важнае месца ў рабоце краязнаўчых організацый павінна заняць справачна-консультацыйная работа. Трэба організаваць сыстэматычную консультацыю па разгортваньню дасьледчай работы для пачынаючых краяведаў і наогул для працоўных мас. Консультацыя павінна праводзіцца ў цьвёрда вызначаныя дні і гадзіны і ў пэўным месцы. Вельмі важна організаваць консультацыю непасрэдна на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах. Консультацыя можа праводзіцца ў форме індывідуальнай і групавой

консультацыі (парады, адказы). Для гэтага можна організаваць і спэцыяльныя краязнаўчыя гадзіны пытаньняў і адказаў. У ячэйках на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах можна таксама завесьці спэцыяльны сшытак для запісу пытаньняў, на якія павінны давацца пісьмовыя, а лепш вусныя адказы маючымі адпаведную кваліфікацыю краяведамі (якія могуць спэцыяльна вылучацца для гэтай мэты краязнаўчымі організацыямі).

Добра організаваныя краязнаўчыя выстаўкі зьяўляюцца адным з найбольш эфэктыўных форм популярызацыі і пропаганды краязнаўчай работы. Асабліва трэба рэкомэндаваць удзел краязнаўчых організацый у раённых і куставых прамысловых і сельскагаспадарчых выстаўках. Напрыклад, краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім пэдтэхнікуме ў гэтым годзе прыняла актыўны ўдзел у раённай сельска-гаспадарчай выстаўцы. Кіраўнік ячэйкі аб значэньні выстаўкі піша: „Асаблівую ўвагу выклікалі соя, клешчавіна, сарго. Ад школ і настаўнікаў прыродаведаў паступіла звыш дзесяці запросаў аб гэтых расьлінах з просьбай забясьпечыць іх насеньнем. Ячэйка мяркуе прадаставіць насеньне з умовай, што будуць праведзены адпаведныя досьледы па ўказаньню ячэйкі". Аднак, трэба асабліва падкрэсьліць, што краязнаўчыя выстаўкі, як і інш. формы работы па пропагандзе савецкага краязнаўства, павінны зьяўляцца неразрыўнай часткай актыўнага ўдзелу краязнаўчых організацый у барацьбе за соцыялістычнае будаўніцтва, за падвядзеньне навуковай базы пад работу кожнага прадпрыемства, саўгасу, МТС, колгасу, раёну.

У мэтах шырокага азнаямленьня з посьпехамі і дасягненьнямі ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва (прамысловасьць, сельская гаспадарка і інш.) і ў прыватнасьці ў галіне навукова-дасьледчай работы трэба шырока разгарнуць і праводзіць краязнаўчыя экскурсіі на прамысловыя прадпрыемствы (асабліва на новастройкі), на МТС, у найбольш паказальныя саўгасы, колгасы, на дасьледчыя станцыі, на месцы заляганьняў і распрацовак торфу, мінэральнай сыравіны і г. д. Добра організаваныя і належным чынам праведзеныя краязнаўчыя экскурсіі зацікавяць рабочых, колгасьнікаў, комсамольцаў, вучняў, піонэраў пытаньнямі дасьледчай работы і ў значнай меры дадуць магчымасьць стварыць новыя кадры савецкіх краяведаў.

Тут паказаны толькі некаторыя формы пропаганды і популярызацыі савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас і ўцягненьня іх у дасьледчую работу. Зусім зразумела, што мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны выкарыстаць і іншыя формы популярызацыі і разгортваньня савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас. Пры гэтым неабходна, каб мясцовыя краязнаўчыя організацыі праз часопіс „Савецкая Краіна" наладзілі шырокі абмен сваёй практыкай у справе пропаганды і разгортваньня краязнаўчага руху і ў справе свайго непасрэднага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

С. Б-кі

# Фосфарыты вышнявіны ракі Сажа і значэньне іх для гаспадаркі БССР

*(Па даным Белгеолёгаразьведкі)*

Для завяршэньня тэхнічнай рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, што зьяўляецца асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі, будзе мець асабліва важнае значэньне стварэньне энэргетычнай базы, а ў тых галінах народнае гаспадаркі, дзе мы маем справу са зьменай матэрый, аграмаднае значэньне набудзе рэконструкцыя хэмізму вытворчых процэсаў.Ператварэньне матэрыі і энэргіі ў хэмічных процэсах павінна ісьці з максымальным скарыстаньнем іх потэнцыяльнай (нутраной) энэргіі.

Праведзеная ўлетку гэтага году па ініцыятыве Дзяржпляну БССР усебеларуская нарада па хэмізацыі народнае гаспадаркі БССР у другой пяцігодцы распрацавала асноўныя пытаньні хэмізацыі прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, пытаньні падрыхтоўкі хэмічных кадраў і г. д.

У сельскай гаспадарцы хэмізацыя адыгрывае выключна важную ролю. XVII партыйная конфэрэнцыя ставіць „цэнтральнай задачай другой пяцігодкі рашучае падвышэньне ўраджайнасьці колгасных і саўгасных палёў і бальшавіцкае вырашэньне пытаньня аб барацьбе з засухай“. Перад сельскай гаспадаркай пастаўлена задача давесьці зернавую продукцыю канца другой пяцігодкі ня менш чым да 1.300 мільёнаў цэнтнераў, па хлапку і ільну забясьпечыць ня менш, як у два разы, па цукровым буракам у тры разы, у галіне жывёлагадоўлі дабіцца такога павялічэньня стада і таварнай продукцыі, якое ў асноўным вырашала-б жывёлагадоўчую проблему ў СССР. Гэтыя аграмаднейшыя задачы, якіх ня ведае і ня можа ведаць капіталістычны сьвет, могуць быць вырашаны толькі на аснове, з аднаго боку—перадавой машыннай тэхнікі, з другога,—з найбольш удасканаленай сыстэмай хэмічных угнаеньняў.

У разьвіцьцё гэтай галоўнай дырэктывы партыі і ўраду другая пяцігодкі БССР проектуе шырокае разьвіцьцё хэмічнай прамысловасьці, у прыватнасьці тукавы выраб складаных і комбінавых угнаеньняў, на базе мясцовага сырцу (фосфарыты, доломіты, крэйда, сапропэлі, торф і г. д.). У сувязі з гэтым вызначана пабудова магутнага хэмічнага комбінату на нашай разьведанай сыравіне—у раёнах Прапойскім—Быхаўскім, па вырабу прэцыпітату, сульфа-амонію, аміячнай салетры, лейна-салетры і г. д. Разам з фосфарытамі, выяўленыя запасы якіх складаюць

даволі значную лічбу, гэта дасьць цэлую суму складаных і камбінаваных тукаў для нашае соцыялістычнае сельскае гаспадаркі.

Фосфарытавы завод у гор. Крычаве выпрацоўвае фосфарытную муку на пакладах фосфарытаў Бахраўка-Гразь (вярхоўе р. Сажа), прамысловыя запасы гэтых месцараджэньняў перавышаюць мільён тон. Сыравіннай базай для намечанага будаўніцтва комбінату будуць служыць поруч з запасамі пакладаў фосфарытаў на ўчастках Стайкі-Раманек-Кажуховічы, і тыя вялізарнейшыя паклады крэйды, мэргеляў і г. д., што маюцца ва ўсходняй частцы БССР. А наяўныя тут запасы карысных выкапняў, што могуць скарыстоўвацца непасрэдна для мэт вапнаваньня, вылічаюцца, мільенамі тон.[1] Фосфарыты як па наяўным у нас запасам іх, так і па іх значэньню ў сельскай гаспадарцы зоймуць адно з галоўных месц.

У БССР заляганьне фосфарытаў упяршыню было знойдзена проф. Г. Ф. Мірчынк на Мсьціслаўшчыне, каля в. Рэзанцы, у 1920 г. у часе праваджімай ім тут маршрутнай геолёгічнай здымкі. Пазьней досьледы фосфарытавых адкладаў ў ваколіцы гор. Мсьціслава праводзілі акад. Бліодухо і проф. Мажароўскі. У летні сэзон 1927 г. дэталёвае дасьледваньне раёну в. Гразь праводзілася па заданьню Навуковага інстытуту па ўгнаеньню (Масква) разьведвацельнай партыяй пад кіраўніцтвам проф. Касьцюковіч-Тызэнгаўзэна. Прамысловыя паклады фосфарытаў былі выяўлены на поўнач-усход ад гор. Мсьціслаўля ў вышнявінах ракі Сажа, у ваколіцах в. в. Стайкі-Гразь ва ўроч. Скала. Тады-ж на іх была зьвернута і належная ўвага нашых гаспадарчых органаў.

Паклады фосфарытаў гэтага раёну цягнуцца ў кірунку Заходняй вобласьці РСФСР—Хіславіцкі р-н. Месцараджэньне фосфарытаў у гэтым раёне распаложана па абодвум берагам вышнявін р. Сож—сожаўскае месцараджэньне. Ахоплівае яно ўчасткі Стайкі—Раманек—Чэрнікава—Лука—ур. Зубаўшчына—в. в. Бахраўка—Гразь, і цягнецца з перарывамі на працягу 15 км. Месцараджэньне гэта знаходзіцца недалёка ад г. Мсьціслаўля, прадастаўлена яно ў распараджэньне БССР (Белстомтрэсту) былою цэнтральнаю горнаю акругаю РСФСР для дасьледваньня і эксплёатацыі. Дасьледуецца яно пачынаючы з 1927 г. фосфарытнай партыяй былой Горнай групы ВСНГ БССР (цяпер Белгеоразьведка), пад кіраўніцтвам горных інжынэраў А. М. Розіна, І. Шарішнёва і В. Пудоўкіна.

Фосфарыты тут залягаюць у гольт-сэноманскіх адкладах крэйдавай формацыі і прыўрочаны да зялёных гляўконітавых пяскоў пад крэйдаю ў тых мясцох, дзе крэйда не размыта і не замешана пяскамі і іншымі адкладамі. Адклады гэтыя падымаюцца разам з крыльлямі Палеска-ўкраінскай крэйдавай мульды выходзяць на паверхню ў вышнявінах р. Сажа ў Хіславіцкім

[1] Так, паводле даных разьведачных работ асобных партый Белгеолёгаразьведкі на 1/I-1932 г. запасы вапняковых парод на тэрыторыі БССР выражаюцца ў наступных колькасных лічбах: крэйды—запасы па групе А+В—74.619 тыс. тон., запас па групе С—279.479 тыс. тон; вапнякоў і долёмітаў—3.493 і 1.717; мэргаляў—5.356 і 230. З прыведзеных лічбаў запасаў крэйды на ўсходнюю частку БССР прыпадае каля 80%.

раёне, на мяжы БССР з РСФСР, паступова паніжаючыся ў бок БССР к аснаваньню мульды, якая праходзіць у кірунку Гомель—Горадня. У сувязі з гэтым, у пунктах БССР фосфарытавыя пліты, верхнія і ніжнія зоны гляўконітавых пяскоў з фосфарытавымі конкрэцыямі, апускаюцца на значную глыбіню і прадстаўляюць некаторыя цяжкасьці для здабычы. Гэта, уласна, і прымусіла БССР зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўчастак пакладаў фосфарытаў Сожаўскага фосфарытавага месцараджэньня ў вышнявінах р. Сажа, на прасторы ад в. Бахраўка да в. Стайка і вышэй, па абодвум берагам р. Сож. Дасьледваньнем была ахоплена плошча звыш 2.000 га, прычым фосфарытаносных каля 1.000 га.

Пры агульнай характарыстыцы заляганьня фосфарытавага пласта трэба перш за ўсё падкрэсьліць яго нявысокае палажэньне над роўнем р. Сажа. У в. Стайкі, дзе пласт распалагаецца на самым высокім роўні, гэта перавышэньне раўняецца ўсяго якім-небудзь 6 м. К поўначы-захаду—пласт падае. Пад в. Бахраўкай (або пад в. Грязь) пласт ляжыць ад 1 да 3 м над Сажом, а пад Жавінкай уходзіць ужо пад яго ўрэз. Увогуле, глыбіня заляганьня фосфарытавага пласту на тэрыторыі БССР—у сярэднім 14 м, а ўжо праз 4-5 км ад нашай мяжы, на тэрыторыі РСФСР—гэты пласт ляжыць на глыбіні ад 2 да 35 м.

Фосфарытавы пласт падзяляецца на тры зоны: 1) зона магутнасьцю да 25 см зьяўляецца гляўконітавай масаю са згруджанымі ў ёй фосфарытавымі конкрэцыямі рознай велічыні, 2) зона—фосфарытавая пліта, магутнасьцю ад 5 ад 30 см—шчыльная, сцэмантаваная, у некаторых выпадках яна паддаецца толькі ўдарам кіркі і лому і 3) зона—магутнасьцю да 50—60 см у пэтрографічных адносінах зьяўляецца поўнаю аналёгіяю першай зоны. Магутнасьць фосфарытавага пласта, як можна бачыць з падаваных лічбаў па асобным зонам яго, даволі значна вагаецца (ад 5 да 60 см, а ў некаторых мясцох магутнасьць фосфарытавай пліты даходзіць да 1,15 м). Аддзяленьне конкрэцый ад пяшчаністай масы адбываецца даволі лёгка. У прамысловым маштабе гэта аддзяленьне можа быць зьдзейсьнена прамыўкай на грохатах: плоскіх, цыліндрычных і г. д. Неаднолькавая магутнасьць моцна ўплывае на продукцыйнасьць зоны. Фосфарыт па свайму характару належыць да пяшчаністай адмены—курскі самарод.

Азначэньне продукцыйнасьці сожаўскіх фосфарытавых адкладаў было праароблена яшчэ ў 1927 г. у часе палявых досьледаў А. В. Касьцюковіч-Тызэнгаўзэнам, [1] на падставе 4 шурфаў: у балцы „Камяжны Роў", каля в. Стайкі; ва ўроч. „Чэрнікава Лука", паўночней был. фальварку „Клюкіна"; у абрыве ўроч. Скала, каля в. Гразь; у луга Шляхтуноўка, каля в. Бахраўка. Узбагачэньне руды праводзілася з дапамогаю сіта з прабітымі ў ім круглымі дзіркамі ў 10 мм дыямэтрам. Лічбы палявога азначэньня продукцыйнасьці, а таксама лічбы колькасьці адсеваў (пясок, часткова з прайшоўшым праз сіта дробным фосфарытам) у кг на 1 $м^2$ для

[1] А. В. Костюкович-Тизенгаузен. Басейн верхнего течения р. Сожа, Рославльского района. Сбор. „Фосфоритные руды СССР", т. IV „Фосфорыты Зап. Области." М.—Л. 1931 г., стар. 20.

ўсяе фосфарытаноснай часткі і „галоўнага“ пласту прыводзіцца ў ніжэйпаданай табліцы.

| Уся фосфарытаносная частка тоўшчы сэномана (па пункт. з поўначы на поўдз.) | | | | Продукцыйнасьць кг./м² „галоўны“ фосфарытаносны пласт. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | На пл. 1 м² | |
| ШУРФЫ | Магутн. у м | Фосф. кг. 1 кв м. | Адсеў кг. 1 кв. м. | Магутнасьць у м | Фосфар. кг 1 кв м | Адсеўкі 1 кв м |
| В. Стайкі „Камяжны Роў“ | 1,59 (няпоўная) | 1481 | 2102 | 0,85 (у т. л. пліты 0,40) | 1251 | 778 |
| ф. Клюкіна „Чэрнікава Лука“ . . . | 1,86 | 895 | 2687 | 0,32 („0,26“) | 599 | 271 |
| в. Гразь „Скала“ . . | 1,90 | 773 | 2941 | 0,73 („0,13“) | 657 | 1024 |
| в. Бахраўка „Шляхтуноўка“ . . . | 1,35 | 678 | 1989 | 0,43 (з асобнымі плітkамі) | 445 | 530 |

Азнаёмімся з хэмічнымі і мінэралёгічнымі ўласьцівасьцямі сожаўскіх фосфарытаў. Хэмічныя аналізы былі праароблены ў лябораторыі былога ВСНГ БССР (цяпер Інстытут прамысловасьці) у 1928 г. над узорамі з розных участкаў, якія браліся для гэтага з розных праслояў горызонту. Ня маючы магчымасьці прывесьці цалкам усе даныя аналізаў, мы падамо ніжэй сумарныя лічбы аналітычных даных. А цяпер спынімся на літаратурных крыніцах.

Хэмічныя аналізы пліты плотнага фосфарыту і жаўлакоў з масы гляўконітавых пяскоў з уроч. Скала падаюцца ў працы проф. Мажароўскага[1], былі атрыманы наступныя вынікі:

Узоры ўзяты з абгаленьня ва ўроч. Скала № 11.

| | Узор № 1 коркавы слой плотнага пластавога фосфарыту (слой d) | Узор № 2 коркавы слой фосфарытавага жаўлака (слой e) |
|---|---|---|
| Вільготнасьць | 0,61 % | 0,40 % |
| $P_2O_5$ . . . . | 20,65 % | 20,51 % |
| Нерастворная астача . . | 38,67 % | 38,80 % |

Узор № 3 асноўная маса пластавога фосфарыту (слою d) сярэдняя проба:

Сярэдні процантны склад $P_2O_5$ — 18,48 %
Вільготнасьць . . . 0,8 %

У заключэньне названы аўтар зазначае, што высокі склад $P_2O_5$ для сэноманскіх фосфарытаў прымушае зьвярнуць асаблівую ўвагу на паклады пластавых фосфарытаў ва ўроч. Скала.

[1] Проф. Б. А. Можаровский. Геологическое обследование в окрестностях гор. Мстиславля. „Записки Горецкого Сельско-хозяйственного Ин-та“ 1924 г., т. I, стар. 204.

Поруч з агульным вывучэньнем фосфарытавых пакладаў у вадазборы р. Сажа, значную работу па вывучэньню іх хэмічных асаблівасьцяў правёў і акад. М. Т. Бліодухо[1] ў 1928 г. у часе дасьледчай работы. У яго працы мы знаходзім некалькі дзесяткаў хэмічных аналізаў фосфарытаў узятых ім з уроч. Скала каля в. Гразь і з уроч. Шляхтуноўка каля в. Бахраўка.

Вывучэньне хэмічнае прыроды сожаўскіх фосфарытаў праводзілася з кожнага горызонту паасобку, каб вызначыць тую ролю, якую ён адыгравае ў агульнай масе. У першую чаргу была ўзята сярэдняя проба добра здробненага матар'ялу выключна з фосфарытавае пліты, уключаючы яе паверхневую шчыльную частку, пакрытую зьверху паліваю, і ніжняю наздраватую, складзеную з адросткаў пліты (хэм. аналіз № 13); затым была ўзята сярэдняя проба, галоўным чынам, з буйных цёмнага колеру конкрэцый часткаю пакрытых цёмнаю абалонкаю, часткаю маючых шурпатую паверхню), якія ня былі зьвязаны з плітою фосфарыту і знаходзіліся або вольна паміж адросткамі пліты, або ў зоне трохі ніжэй пліты (хэм. анал. № 28). Для вызначэньня якасьці дробных фосфарытаў, была таксама ўзята сярэдняя проба значнай колькасьці гэтых адсартаваных фосфарытаў, паміж якіх былі конкрэцыі дробныя і зерні з зоны пліты, абкатаныя і неабкатаныя, з паліваю і без яе ад ясна-шэрага да чорнага колеру (хэм. анал. № 29).

Гэтыя колькасныя хэмічныя аналізы былі зроблены ў хэмічнай лябораторыі Беларускай Акадэміі Навук (аналітыкі—Кнып, Шапеткіна і Данцоў) і далі наступныя вынікі:

| Хэмічныя колькасн. аналізы: | № 13 | № 28 | № 29 |
|---|---|---|---|
| Гіграскопічная вада | 1,25 | 0,91 | 3,11 |
| Органічныя злучэньні . . . . | 3,65 | 3,49 | 2,45 |
| $CO_2$ . . . . . . | 3,21 | 4,13 | 3,01 |
| $SiO_2$ . . . . . . | 38,71 | 37,60 | 35,66 |
| $Al_2O_3$ . . . . . . | 1,29 | 2,32 | 2,06 |
| CaO . . . . . . | 26,96 | 28,56 | 30,58 |
| MgO . . . . . . | 1,63 | 0,96 | 1,23 |
| $P_2O_5$ . . . . . . | 16,26 | 17,97 | 18,89 |
| $SO_3$ . . . . . . | 1,32 | 1,00 | 1,19 |
| F . . . . . . | 0,03 | 0,31 | 0,52 |
| $Ka_2O+Na_2O$ . . | 2,54 | 1,60 | 1,02 |
| | 100,28% | 100,21% | 100,25% |
| Страта ад прапальваньня . . . | 8,11% | 8,53% | 8,58% |
| Нерастворная астача . . . . . . . | 39,63% | 38,20% | 35,26% |

[1] Проф. М. Т. Бліодухо. Матар'ялы па геолёгічнаму вывучэньню вадазбору р. Сажа ў межах Беларусі.—„Матар'ялы для геолёгічнага і глебазнаўчага вывучэньня Беларусі" Т. II-гі, Менск, БАН, 1931, стар. 25-26.

На падставе хэмічных аналізаў акад. М. Т. Бліодухо прыходзіць да вываду, што фосфарыты вадазбору р. Сажа належаць да прамыслова-каштоўных фосфарытаў. Параўнаньне паміж сабою вынікаў паасобных вызначэньняў паказвае, што значнае розьніцы паміж імі ва ўсіх гэтых аналізах няма, атрыманыя лічбы даволі блізкія. Некалькі зьменшаная пескаватасьць дробных фосфарытаў ($SiO_2$=35,66%) адпавядае павялічэньню колькасьці цэманту і дае некалькі павялічаную лічбу $P_2O_5$—18,89%. Ва ўсіх паданых аналізах вызначаецца даволі значная колькасьць органічных злучэньняў, што для фосфарытаў гэтага тыпу трэба лічыць звычайным.

Вынікі-ж палявых і лябораторных работ па апрацоўцы руды відны з наступнай сумарнай характарыстыкі:

| Атрымана | | | Продукцыйнасьць сырой масы кг м² | Хэмічны аналіз на сухую матэрыю | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Фрак. мм | % па вазе | % вільготнасьці | | $P_2O_5$ (фосф. ангід.) | Нерастворная астача | $R_2O_5$ (палутарн. вокіс.) |
| > 5 | 32 | 5 | 540 | 17,6 | 34 | 5 |
| 5—2 | 8 | 8,5 | 180 | 18,5 | 32 | 4 |
| 2—0 (адкід.) | 60 | 21 | — | — | — | — |

Такім чынам, мы бачым, што пасьля першаіснай апрацоўкі атрымліваецца продукт са складам $P_2O_5$—18%, пры палутарных вокіслах ня вышэй 5%. Можна з упэўненасьцю лічыць, што пры пастаноўцы досьледу па мэханічнаму ўзбагачэньню павысіцца процантнае ўтрыманьне $P_2O_5$ і зьнізіцца склад палутарных вокіслаў.

Пробны памол сожаўскіх фосфарытаў (3,5 тоны) на Сешчынскім фосфарытавым заводзе ў 1928 г. даў у сярэднім $P_2O_5$ да 19% пры велічыні зярна да 5 м/м. Той ці іншы выхад концэнтрату залежыць ад фракцый. Значна нізкі процант фосфарнага ангідрыду мае сырая руда (6—9%)[1]. Усё гэта высоўвае пытаньне аб абавязковай патрэбе ўзбагачэньня сожаўскіх фосфарытаў. Работы ў гэтым кірунку праводзіліся Ленінградзкім Ін-там мэханічнай апрацоўкі карысных выкапняў, дасьледчай станцыяй Белгеолёгаразьведкі і інш.—дасьледваньні гэтыя паказалі на некаторыя разыходжаньні ў вызначэньні якасьці дробных фракцый. Склад $P_2O_5$ рэзка падае ў конкрэцыях буйнасьцю менш 2 м/м.

[1] Калі зьвярнуцца да параўнаньня аналізаў фосфарытавай мукі з іншымі месцараджэньнямі, то ўбачым, што сожаўскія фосфарыты па складу фосфарнага ангідрыду займаюць далёка не апошняе месца: Ягораўскае месцараджэньне, фракцыя >10 м/м да—20%; <10 м/м—19,7%; <5 м/м—11,7%; Бранскае месцараджэньне—<1/4 дм.—5,4%; <1/4 дм. 4,9%; >½ дм.—15,52%; >½ дм.—12,8%; Ізюмскае месцараджэньне, генэральная проба—18,2%; Сешчынскае месцараджэньне (орыентовачна) каля 17%.

А адсюль выцякае магчымасьць значнага ўзбагачэньня руды, шляхам вылаленьня матар'ялу меней 2 м/м з агульнай здабытай руданоснай масы, пры дапамозе простага адсеву, або грахачэньнем з прамыўкай. Работа па ўзбагачэньню фосфарытаў' вялася таксама і ў адшуканьні мэтодаў узбагачэньня конкрэцый з мэтай атрымаць больш багатыя концэнтраты для вырабу концэнтраваных угнаеньняў для сельскае гаспадаркі.

У апошнія часы сэкцыя мінэральных угнаеньняў Ін-ту прамысловасьці займалася гэтым пытаньнем, якое зьвязана з хэмічнай апрацоўкай сожаўскіх фосфарытаў. Ужо закончана работа па атрыманьню прэцыпітату ды вапеню фосфату з беларускай сыравіны. Прэцыпітат зьяўляецца фосфатным тукам. Атрымліваецца ў выглядзе белага парашку, які зьмяшчае каля 35% $P_2O_5$ пры пераліку на сухую матэрыю амаль цалкам у форме, усваяльнай для расьлін. Апрача фосфарытнай кіслаты ў прэцыпітаце зьмяшчаецца каля 30% вапны. Такім чынам, для кіслых глеб прэцыпітат зьяўляецца падвойным угнаеньнем, з якім уводзіцца ў глебу два карысных элемэнты—фосфар і вапень. Таксама праводзіцца той-жа сэкцыяй работа па атрыманьню падвойнага і ўзбагачанага супэрфосфату з мясцовай сыравіны, работа гэта ня скончана і будзе хутка праведзена ў паўзаводзкім маштабе.

Мінэралёгічны аналіз фосфарытавых конкрэцый быў прароблены тым-жа Ленінградзкім ін-там па апрацоўцы карысных выкапняў у яго мінэралёгічным габінэце ў 1929 г. Прычым мінэралёгічнаму аналізу падлягалі ўзоры з усіх трох пластоў і пры гэтым было знойдзена, што руда адносіцца да пяшчанага тыпу фосфарытаў.

Першая фосфарытавая зона (фосфарыты ў гляўконітавай масе) уяўляе пяшчана-гляўконітавую масу, у якой згруджаны фосфарытавыя конкрэцыі бяз усякіх сьлядоў сцэмантаванасьці. Згруджанасьць і разьмеры конкрэцыі паступова павялічваюцца зьверху ўніз. Аддзяленьне конкрэцый ад пяшчаністай масы адбываецца даволі лёгка. Вылзеленыя асобныя фосфарытавыя конкрэцыі ў большасьці цёмна-карычневыя, часамі чорныя з матавай акругленай паверхняю, у размоле чорна-бурыя, з шараватымі гнёздамі гляўконітавага пяску. Другая асноўная фосфарытаносная зона зьяўляецца шчыльна сцэмантаванай масай фосфарытавых конкрэцый рознай буйнасьці. Паверхня пліты бугрыстая, глянцаватая, падошва шарахаватая з западзінамі і вуглаватымі выступамі. Паміж асобнымі сцэмантаванымі конкрэцыямі невялікія гнёзды шараватага гляўконітавага пяску. Ніжэй пліты, фосфарыты не сцэмантаваны, але ўяўляюць такую-ж згруджанасьць, што дазваляе зрабіць уяўленьне аб гэтай зоне, як аб фосфарытавай пліце, але больш рыхлай. Апрацоўка гэтай зоны не прадставіць перашкод, бо названыя вышэй невялічкія гнёзды гляўконітавага пяску, лёгка будуць выдаляцца шляхам простай прамыўкі.

Трэцяя фосфарытавая зона ўяўляе ў пэтрографічных адносінах поўную аналёгію з першай зонай, яна можа быць пушчана ў апрацоўку разам з першай.

Запасы фосфарытаў, выяўленыя з дапамогай дэталёвай прамысловай разьведкі з закладкай таксама і падземных выпрацовак, як штольня, партыямі Белгеолёгаразьведкі за час 1927—1931 гг. відны з прыведзенай намі ніжэй табліцы на 1/I—32 г. Запасы гэтыя па ўсяму сожаўскаму фосфарытнаму месцараджэньню выражаюцца ў наступным:

| №№ п./п. | Назва ўчастку | Плошча прамысл. пакладаў у га | Запасы руды (А+Б) у тыс. тон | Запасы концэнтрату фосфарытаў у тыс. тон |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Раманёк—Чарнікава Лука . . | 127,49 | 3.380 | 1.190 |
| 2 | Стайкі . . . . . . . | 206,17 | 7.376 | 2.467 |
| 3 | Зубаўшчына . . . . . . | 126,88 | 2.132 | 748 |
| 4 | Бахраўка . . . . . . . | 61,58 | — | 462 |
| 5 | Гразь . . . . . . . . | 55,84 | — | 424 |
| 6 | Жавінка . . . . . . . | 21,53 | — | 166 |
| | Усяго . . . . | — | 12.888 | 5.457 |

Запасаў руды па ўсім участкам мы ня можам даць з прычыны адсутнасьці па некаторым з іх такіх вестак. Сярэднюю продукцыйнасьць пласту можна прыняць па даным прыведзенай вышэй табліцы А. В. Касьцюковіч-Тызэнгаўзэна ў 770 кг на 1 м².

З усіх запасаў концэнтрату як сапраўдных, так і магчымых свабодных запасаў, г. зн. запасаў непасрэдна прыгодных за вылічэньнем цалкам страт і інш. 10% пры здабычы, застанецца— 4.911.000 тон сапраўдных прамысловых концэнтратаў. Што тычыцца магчымых запасаў „С“, то яны выражаюцца ў колькасьці 25.000.000 тон у намечанай дэталёвым дасьледваньнем у 1932 г. плошчы Кажухоўскага ўчастку і працягу ўчастку Рамянёк. Неабходна зазначыць, што намечаныя запасы фосфарытаў гэтымі лічбамі далёка не абмяжоўваюцца ў намечаных пунктах, яны маюць таксама распаўсюўжанасьць і за іх межамі.

Апісаньні асобных участкаў сожаўскага фосфарытнага месцараджэньня па наяўным матар'ялам у Белгеоразьведцы прадстаўляюцца ў наступным выглядзе:

В. Бахраўка, у адлегласьці 12 км ад г. Мсьціслаўля на левым беразе р. Сож, Хіславіцкага р-ну (Заходняя вобласьць— РСФСР). Дасьледвана фосфарытнай партыяй у 1927—31 гг.

Прамысловая плошча пакладу—61,58 га; зьём ад 2,6—12,75 м.

Дасьледваныя запасы концэнтрату фосфарыту—462 тыс. тон.

В. Гразь, урочышча Скала, у адлегласьці 11 км ад г. Мсьціслаўля, на правым беразе р. Сож, Хіславіцкага р-ну. Дасьледвана фосфарытнай партыяй у 1927—31 гг.

Плошча прамысловага пакладу—55,84 га. Магутнасьць ускрышы ад 1,5 да 15,5 м.

Дасьледваныя запасы концэнтрату фосфарыту—424.190 т.

В. Зубаўшчына, у адлегласьці 20 км ад г. Мсьціслаўля, Хіславіцкага р-ну. Дасьледвана фосфарытнай партыяй у 1927—1931 гг.

Плошча прамысловага пакладу—126,88 га. Ускрыша ад 2,5 да 16 м.

Сярэдняя магутнасьць:

1) Верхніх фосфарытаносных гляўконітавых пяскоў—0,22 м.

2) Фосфарытнай пліты—0,23 м.

3) Ніжэйшых фосфарытаносных гляўконітавых пяскоў—0,29 м.

Продукцыйнасьць пласту—0,8 тоны на 1 м².

Дасьледваныя запасы концэнтрату фосфарытаў—748.000 т.

В. Жавінка, у адлегласьці 10 км ад г. Мсьціслаўля, у паўночна-ўсходнім кірунку, Хіславіцкага р-ну. Дасьледвана фосфарытнай партыяй у 1927—31 гг.

Прамысловая плошча пакладаў—21,53 га. Магутнасьць зьёму ад 3,6—11 м.

Продукцыйнасьць пласту—770 кг на 1 м².

Дасьледваныя запасы концэнтрату фосфарытаў—165.780 тон.

В. Стайкі, у адлегласьці 25 клм ад г. Мсьціслаўля, у паўночна-ўсходнім кірунку Хіславіцкага р-ну. Дасьледвана фосфарытнай партыяй—1927—31 гг.

Прамысловая плошча пакладаў—206,17 га. Магутнасьць ускрышы ад 2,5 да 3,1 м.

Сярэдняя магутнасьць:

1) Верхніх фосфарытаносных гляўконітавых пяскоў—0,30 м.

2) Фасфарытаноснай пліты—0,45 м.

3) Ніжэйшых фосфарытаносных гляўконітавых пяскоў—1,05 м.

Сярэдняя продукцыйнасьць у адносінах чыстага фосфарытнага концэнтрату на 1 м²: 1) верхні фосфарытаносны пясок—0,068 м, 2) пліта—0,892 м, 3) ніжейшы фосфарытаносны гляўконітавы пясок—0,403 м.

Дасьледваныя запасы концэнтрату фосфарытаў—2.467.090 тон.

Ур. Раманёк—Чэрнікава Лука, у паўночна-ўсходнім кірунку, ад г. Мсьціслаўля ў адлегласьці 20 клм Хіславіцкага р-ну. Дасьледвана фосфарытнай партыяй—у 1927—31 гг.

Прамысловая плошча пакладаў—127,49 га. Магутнасьць ускрышы 1,5—19,5 м.

Продукцыйнасьць пласту—0,8 тон на 1 м².

Дасьледваныя запасы концэнтрату фосфарытаў—1.190.187 т.

---

Фосфарыты, галоўным чынам, ужываюцца ў якасьці ўгнаеньня, часьцей за ўсё ў выглядзе супэрфосфату, у меншай меры—у выглядзе фосфарытнай мукі. Ужываньне фосфарытнай мукі патрабуе знаёмства з глебамі.

Калі паглядзець на схэматычную карту глеб БССР, складзеную акад. Я. Н. Афанасьевым („Глебавыя раёны БССР". Менск, выд. Бел. Акад. Навук. 1931 г.), то можна ўбачыць, што БССР у адносінак глеб характарызуецца наяўнасьцю бедных на гумус глеб,

пяскоў і супесяў, морэнных, лёсападобных, моцна ападзоленых суглінкаў. Глебы падзолістыя якраз у Беларусі пераважаюць, г. зн. тыя глебы, якія патрабуюць наогул найбольш угнаеньняў. Ня гледзячы на спрыяючыя кліматычныя ўмовы, ураджай галоўных хлябоў у БССР атрымліваецца даволі нізкі. Тут многа залежыць ад ступені ўгнаеньня. Практыкаванае ў нас угнаеньне глебы гноем далёка ня можа задаволіць патрэбу; дзе-ні-дзе ўжываецца зялёнае ўгнаеньне, яно таксама значнага ўплыву не аказвае. Тым болей цяпер, калі сельская гаспадарка БССР рэконструюецца на новых колектыўных пачатках—шырокае будаўніцтва колгасных гаспадарак, савгасаў і г. д., проблема ўгнаеньня нашых палеткаў ставіцца, як адна з першачарговых задач. З гэтага поваду прымаўся цэлы рад практычных прапаноў і рашэньняў.

Як мы паказалі вышэй, у БССР пераважаюць падзолістыя глебы, якія надзвычайна бедны на спажыўныя матэрыі, яны патрабуюць значных мінэральных тукаў, прычым для нашай глебы асабліва важнае значэньне маюць фосфарна-кіслыя ўгнаеньні. Так, напрыклад, у даваенныя часы мінэральныя ўгнаеньні, якія ўвозіліся з-за мяжы ў былую Расію, каля 70% спажываліся ў беларускіх губэрнях і Прыбалтыцкім краі.

Усё гэта гаворыць за патрэбу скарыстаньня ў нас сваіх мясцовых сыравінных рэсурсаў для мэт угнаеньня і ў першую чаргу, зразумела, паклады фосфарытаў, запасы якіх, як паказалі прыведзеныя вышэй намі лічбы, даволі значныя.

Нашы глебы надзвычайна рэзка рэагуюць на фосфарна-кіслыя ўгнаеньні, для іх даволі толькі фосфарытавай мукі, без пераводу ў супэрфосфат, як адразу атрымліваюцца наглядныя вынікі. Усё гэта мае вялізарнае практычнае значэньне. Для пацьверджаньня гэтага мы дазволім падаць толькі тры прыклады з работ дасьледчых станцый на Беларусі, якія ўжывалі сожаўскія фосфарыты для непасрэдных мэт угнаеньня на полі. У літаратуры можна сустрэць многа прыкладаў ужываньня фосфарытаў наогул для беларускіх глеб [1]. Наша мэта больш сьціслая, пазнаёміць з выкарыстаньнем сожаўскіх фосфарытаў у сельскай гаспадарцы на Беларусі. Вэгетацыйныя і палявыя досьледы былі праведзены ў 1928-29 гг. на дасьледных палетках наступнымі сельскагаспадарчымі станцыямі:

1. Горацкая сельска-гаспадарчая дасьледчая станцыя падае наступныя даныя па аўсу (ураджай на га ў ц):

Без угнаеньня: сухой масы—23,52, зярна—8,29
З дадаткам $P_2O_5$—90 кг—39,41 „ —11,51
Прыбаўка—сухой масы — 15,38 „ — 3,22

[1] У гэтых адносінах можна паказаць на цікавую працу проф. О. К. Зіхман-Кедрава і О. Э. Зіхман „Некаторыя даныя аб узаемадзейнасьці фосфарытаў з падзолавай глебай“ (Працы Горы-Гарэцкага навуковата таварыства па вывучэньню Беларусі, т. I), у якой на аснове досьледаў лябораторнага характару высьвятляецца, як адбіваецца ўнясеньне фосфарыту ў падзолавую глебу. Досьледы былі праведзены на глебах Стэбутаўскага дасьледчага поля Горацкай Акадэміі. Досьледы гэтыя праводзіліся як з сешчынскімі фосфарытамі, так і з фосфарытамі беларускімі (калінінскімі і мсьціслаўскімі).

2. Палеская Дасьледчая станцыя правяла досьлед з грэчкай, вынікі наступныя (у двайным ц):

Без угнаеньня: зярна—2,5, саломы—15,5
З дадаткам $P_2O_5$—90 кг зярна 8,5, „ —28,33
Прыбаўка зярна—6,0, „ —13,28

3. Менская дасьледчая станцыя правяла досьлед над канюшынай—цімафеечнай мяшанкай, вынікі наступныя:

Без угнаеньня:

Па фонду нэўтральнаму: абсолют.—5374, аднос.—100
„ „ кісламу . . „ —5771, „ —100

З дадаткам (Сожаўск.) фосфар.:

Па фонду нэўтральн.: абсолют.—9359, аднос. 174
„ „ кісламу: . „ —8148, „ 141

Узрост, як можна бачыць, даволі значны.

Значная работа ў гэтых адносінах праведзена і Энгельгардтаўскай сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыяй на глебах Смаленшчыны, якія многа маюць супольнага з беларускімі.

Так, па даным гэтай станцыі за 1920—24 гг. [1] маем наступныя цікавыя даныя:

| | | Ураджай жыта | Канюшыны |
|---|---|---|---|
| Фосфарыт $P_2O_5$—90 кг | | 103,5 п. | 302,7 п. |
| Контрольная | — | 79,5 п. | 271,8 п. |
| Прыбаўка | — | 24 п. | 30,9 п. |

Досьледы гэтай станцыі, як і беларускіх, пацьвердзілі мэтазгоднасьць ужываньня фосфарыту ў сырым выглядзе—у выглядзе мукі. Усюды мы бачым значнае падвышэньне ўраджаю.

Паданых прыкладаў даволі, каб пераканацца ў мэтазгоднасьці ўжываньня фосфарыту. Усюды, як мы ўжо адзначалі, яны ўжываліся выключна ў сырым выглядзе—мукі. Прыбаўка на ўраджай, што атрымалася ў выніку досьледаў па ўсім сельска-гаспадарчым станцыям, даволі значная, а калі прыняць пад увагу, што ўплыў фосфарытавай мукі трывае яшчэ на працягу 3-4 гадоў, то стане зразумелым рэнтабельнасьць ужываньня такога ўгнаеньня. Шырокае ўжываньне фосфарытавай мукі ў Заходняй вобласьці (Смаленшчына), а таксама ўсё ўзрастаючае ўжываньне яе ў межах БССР гаворыць за посьпех і далейшае пашырэньне тэрыторый ужываньня фосфарытавай мукі ў БССР, гэта пацьвярджаюць і даныя дасьледчых станцый, якія свае досьледы праводзілі, якраз на глебах падзолістай паласы, да якой належыць і Беларусь. Рэконструкцыя сельскае гаспадаркі, будаўніцтва колгасных гаспадарак, шырокае будаўніцтва савгасаў, МТС і г. д. пашырае попыт на фосфарна-кіслыя ўгнаеньні, а з другога боку стварае неабмежаваныя мажлівасьці скарыстаньня фосфарытаў на соцыялістычных палетках. Задача, пастаўленая перад сельскай гаспадаркай БССР аб падвышэньні ўраджайнасьці на 35% ня будзе вырашана без ужываньня ў шырокіх разьмерах штучных угнаеньняў і ў першую чаргу фосфарна-кіслых. Да месц, якія асабліва

[1] Справочная книга агронома. Под ред. Латиса и проф. Слезкина М. 1927 г.

адчуваюць патрэбу па глебавым умовам у такіх угнаеньнях, належаць плошчы, як мы ўжо адзначалі, з падзолавымі і ападзоленымі глебамі, гэта, у першую чаргу, усходняя БССР—Крычаўскі, Клімавіцкі, Мсьціслаўскі і інш. раёны. Тут скарыстаньне фосфарытавай мукі можа выразіцца лічбай звыш 25.000 тон.

На рэшце тэрыторыі БССР, якая пакрыта больш як на $^{1}/_{3}$ падзолістымі глебамі—у першую чаргу поўнач, ужывалася фосфарна-кіслае ўгнаеньне больш чым ў іншых мясцох; у меншай меры яно можа ўжывацца ў сярэдняй паласе БССР і на апошнім месцы стаіць паласа БССР, што пакрыта балотамі і тарфянікамі—Палесьсе.

Патрэбнасьць сельскай гаспадаркі БССР у мінэральных угнаеньнях па даным бюро пяцігодкі НКЗ БССР па гадох, паводле існуючых стандартаў у мінэральных угнаеньнях выразіцца ў наступных лічбах (у тыс. тон):

| | 1933 | 1934 | 1935 | 1936 | 1937 | Усяго па пяцігодцы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Раствораныя фосфарыты | 200 | 400 | 617 | 832 | 1106 | 3155 |
| 2. Фосфарытная мука. | 74 | 84 | 130 | 130 | 130 | 548 |
| | 274 | 484 | 747 | 962 | 1236 | 3703 |

Найбольш важнай часткай проблемы ўздыму ўраджайнасьці глеб зьяўляецца пытаньне аб фосфарытах, якое мае інтарэс на сёньня для ўсяго Савецкага саюзу, незалежна ад таго ці ідзе гутарка аб ападзоленых глебах нячорназемнай паласы, ці аб багатых на гумус глебах паласы чорназему. Нашы глебы значна зьбяднелі на фосфар. Беларусь у гэтых адносінах не зьяўляецца выключэньнем. Проблема павышэньня ўраджайнасьці ня можа быць вырашана без узбагачэньня глебы на фосфар. Якім-жа чынам гэта пытаньне можа быць вырашана для БССР? Тут мы ня можам стаць на шлях, на які стала Заходняя Эўропа, вырашыўшая яго, галоўным чынам, ужываючы супэрфосфат і тамашляк. Цяпер, пакуль што, гэта пытаньне мы можам вырашаць, скарыстоўваючы фосфарыты ў выглядзе мукі, як мы бачылі вышэй, практыка цалкам апраўдала такое ўжываньне яе. У далейшым мы, зразумела, ня можам адмовіцца ад складаных комбінаваных угнаеньняў. Гэта прадугледжваецца і другой пяцігодкай, якая намячае будаўніцтва хэмічнага комбінату.

Вось чаму тыя выяўленыя запасы фосфарытаў сожаўскага месцараджэньня, іх уплыў на ўраджайнасьць, умовы здабычы і інш. павінны для народнай гаспадаркі БССР набыць важнае практычнае значэньне. Эксплёатацыя гэтага месцараджэньне пачалася даволі рана, толькі ў 1929 годзе, калі былі адпушчаны былым ВСНГ БССР неабходныя сродкі як на організацыю разьведак, так і на пабудову фосфарытнага заводу ў гор. Крычаве, вытворчая магутнасьць якога намячалася звыш 30.000 тон фосфа-

рытавай мукі штогод, з разьлікам звыш як на 20 год. Работа названага заводу з часу яго заснаваньня, у галіне вырабаткі ім фосфарытавай мукі відна з паданай табліцы па весткам, атрыманым намі ў Белхэмпраме (завод гэты знаходзіўся ў яго веданьні толькі да мая месяца 1932 году, а потым перайшоў да Саюзфосфарыту):

| Гады | Здабыта фосфар. руды ў тон. | Выпрацав. фосф. м. ў тон. | Кошт | |
|---|---|---|---|---|
| | | | 1 тоны руды | тоны мукі |
| 1930 г. | 12.473 | 10.625 | 19,46 | 22,85 |
| 1931 | 24.880 | 19.139 | 15,70 | 20,41 |
| 1932 (да мая м-ца) | 6.494 | 5.030 | 23,68 | 30,78 |
| 43.847 | 34.794 | | | |

Што кідаецца ў вочы з паданай табліцы, гэта што завод ў Крычаве далёка ня выконвае плянавых намётак. І, па-другое, што тая продукцыя, што ім выпускаецца, ніякім чынам ня можа задаволіць нашы колгасныя і савгасныя палеткі фосфарытнай мукой. Вышэй мы прывялі лічбы патрэбнасьці ў гэтай муцэ на другую пяцігодку.

На базе наяўных запасаў сыравіны ў другой пяцігодцы намячаецца пабудаваць у тым-жа Крычаве другі фосфарытны завод, сыравіннай базай для якога будуць зьяўляцца запасы на ўчастках Стайкі-Раманек, звыш 3,5 міл. тон фосфарытавага концэнтрату, а таксама меркаваныя запасы Кажухоўскага ўчастку, што складаюць 25 міл. тон.

Таксама паклады сожаўскіх фосфарытаў будуць скарыстоўвацца і ў намечаным будаўніцтве хэмічнага комбінату ў Прапойскім—Быхаўскім раёнах, на якім намячаецца выпрацоўка каштоўнага комбінаванага ўгнаеньня, як: прэцыпітату, супэрфосфату, сульфат-амонію, тамашляку, аміячнай салетры і г. д. Разгортваньне тут хэмічнай прамысловасьці па скарыстаньню і пераапрацоўцы фосфарытаў, крэйды і інш. мае бясспрэчна вялікае значэньне для социялістычнай сельскай гаспадаркі БССР, асабліва ўсходняй і паўднёва-ўсходняй яе частак, глебы якіх маюць параўнаўча большую патрэбу ў фосфары.

### Літаратура па фосфарытам сожаўскага месцараджэньня


1. Басова М. В. К минералогии фосфоритов Мстиславского месторождения БССР. „Материалы по обогощению неметалл. полез. ископаемых“, ч. I, Л. 1930.
2. Проф. М. Т. Бліодухо. Рэгістрацыйны сьпіс карысных выкапняў БССР. Менск, выд. БАН 1931 г.
3. Проф. М. Т. Бліодухо. Матар'ялы па геолёгічнаму вывучэньню вадазбору ракі Сажа ў межах Беларусі. (Справаздача па досьледам 1928 г.)—„Матар'ялы да геолёгічнага і глебазнаўчага вывучэньня Беларусі“. т. II. Менск. Выд. БАН. 1931 г.
4. Вернацкий В. И. О фосфорытах Смоленской губ. „Труды вольно-экономического о-ва“. 1888 г. № 11.

5. Гурэвіч Л. Да пытаньня разьвіцьця фосфорна-тукавай прамысловасьці ў БССР. „Тэхніка ў масы“ 1932 г., № 2.
6. Жирмунский А. Фосфоритовые залежи Сещинского района Зап. области. „Труды научного института по удобрению“.
7. Зіхман-Кедраў О. К. проф. і Зіхман О. Э. Некаторыя даныя аб узаемадзейнасьці фосфарытаў з падзолавай глебай (ёсьць і аб беларускіх фосфарытах).—„Працы нав. тав. па вывуч. Беларусі пры Бел. Дз. Ак. с/г у Горках“ т. I, 1926 г.
8. Иванов А. П.—Фосфоритовые отложения Рославльского уезда Смоленской губ. „Труды Ком. Моск. с/х инст.“ 1915 г., т. VII.
9. Костюкович-Тизенгаузен А. В.—Бассейн верхнего течения р. Сож, Рославльского района. Сб. „Фосфоритные руды СССР“ т. IV,—„Фосфориты Зап. обл“. М.—Л. 1931 г.
10. Мирчинк, Г. Ф. Исследование фосфоритовых залежей в Могилевской губ.—„Отчет по геологическому исследованию фосфоритовых залежей. М. 1918 г., т. VII.
11. Можаровский, Б. Геологическое обследование в окрестностях г. Мстиславля (аб фосфарытах і крэйдзе).—„Записки Горецкого с/х. инст.“, т. I, 1924 г.
12. Праца горна-дасьледчых партый ВСНГ БССР у 1927 г. (папярэднія вынікі) Менск, 1928 г.
13. Рыбникова, Е. Отчет о поисковых работах на фосфориты в районе 36—74 планшета международной нарезки, с двумя прилож. 1929-1930 гг. (Рукапіс захоўваецца ў Белгеоразьведцы).
14. Шанцер, Е. В. Геологическое строение планшета 36—64 и результаты поисковых работ на фосфориты. 1929 год. (Рукопіс захоўваецца ў Белгеоразьведцы).

В. К. Шчарбакоў

# Савецкае Палесьсе[1]

## Захворванасьць у Палесьсі і арганізацыя аховы здароўя

Група мэдыкаў палескай экспэдыцыі складалася з трох чалавек і была вылучана пры актыўным удзеле Чырвонага крыжу БССР і органаў Народнага камісар'яту аховы здароўя, у прыватнасьці Інстытуту социяльнай гігіены. У склад яе ўваходзілі: спэцыялісты па вэнэрычным хваробам, вочным і соцыяльнай гігіене. Задачы гэтай групы былі даволі вялікія. Яна павінна была вывучыць ня толькі гісторыю мэдыцынскіх установаў у Палесьсі і арганізацыю аховы здароўя ў сучасны момант, але і высьветліць спэцыфіку захворванасьці Палесься, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на такія хваробы, як сыфіліс, хваробы вачэй, каўтун і іншыя. Асобна стаяла пытаньне адносна санітарнага стану населеных пунктаў Палесься і пытаньне адносна знахарства. Упор у рабоце мэдыцынскай групы быў зроблены асабліва на вывучэньне асобных населеных пунктаў Палесься—мястэчак, найбольш буйных прамысловых прадпрыемстваў, найбольш адсталых і закінутых вёсак, населеных пунктаў, якія зьяўляюцца асяродзьдзем сыфілітычных хвароб. Вынікі работ мэдыцынскай групы экспэдыцыі і сабраны ёю матар'ял заслугоўваюць вялікай увагі. Ён дасьць магчымасьць напісаць нарыс па гісторыі мэдыцынскай справы ў Палесьсі, паказаць, на колькі вырасла Палесьсе ў галіне аховы здароўя параўнальна з дэрэволюцыйным мінулым яго, выявіць усе дасягненьні і недахопы ў пастаноўцы мэдыцынскага абслугоўваньня Палесься ў сучасны момант, канчаткова паставіць пытаньне аб рэштках каўтуну ў Палесьсі, аб мерах барацьбы з ім.

Вядома ўжо, што Палесьсе, будучы ў мінулым самым адсталым экономічным, палітычным і культурным раёнам, будучы прыгнечаным у нацыянальных адносінах—зьяўлялася ў той-жа час і самаю адсталаю часткаю Беларусі ў мэдыцынскіх адносінах.

Глеба тут для разьвіцьця ўсялякага роду хвароб, каўтуну, гразі, а разам з гэтым рознага роду знахарства, чараўніцтва і павер'яў была вельмі спрыяючай.

Царскі ўрад ня мог зьвяртаць і не зьвяртаў ніякае ўвагі на насельніцтва гэтага раёну. Эпідымічныя захворваньні, распаўсюджанасьць такога роду зьявішч як каўтун, вялізарная сьмяротнасьць, галеча і адсталасьць мала турбавалі царскую, дваран-

[1] Гл.—Савецкая краіна № 9, 10.

скую Расію. У другой палове XIX стагодзьдзя ў Палесьсі на ўвесь былы Мозырскі павет быў толькі адзін доктар і сем фэльчароў. Зразумела, для сялянскіх мас вёскі гэты мэдыцынскі пэрсонал ня быў даступным і яна жыла, змагалася з хваробамі сваімі ўласнымі сродкамі. Наяўны пэрсонал абслугоўваў дваранска-буржуазныя групы насельніцтва і чыноўніцтва. Перад вайной у чатырох абсьледваных раёнах земская мэдыцына мела толькі чатыры больніцы. На аднаго доктара прыпадала да 40.000 чалавек. У часе вайны і гэтая малая сетка мэдыцынскіх установ была зьнішчана.

З таго часу Палесьсе нельга пазнаць у мэдыцынскіх адносінах. Мы маем цяпер у Пятрыкоўскім раёне апрача добра абсталяванай з спэцыяльным акушорска-геніколёгічным аддзяленьнем больніцы ў самым раённым цэнтры, 3 ўчастковыя больніцы і 11 доктарскіх і фэльчарскіх пунктаў. Усяго ў раёне працуе 9 дактароў, 14 лекарскіх памочнікаў, 10 сясьцёр, 2 зубных дактары і 7 акушорак. У Лельчыцкім раёне значна пашырана і папоўнена ранейшая земская больніца. Будуецца новая больніца ў 8 карпусоў. Маецца асобная аптэка і лябораторыя. У Жыткавіцкім і Тураўскім раёнах таксама значна пашыраны і перабудаваны былыя земскія больніцы, адчынены дзіцячыя і жаночыя консультацыі. У раённых цэнтрах Жыткавіцкага і Тураўскага раёнаў нанова пабудаваны больніцы. І калі раней на 1 доктара прыпадала да 40.000 чалавек насельніцтва, дык цяпер на 1 доктара прыпадае толькі 5-6 тыс. чалавек. Гэта лепшы паказчык дасягненьняў Палесься ў галіне мэдыцыны.

Рост культурнага роўню мас, разгорнутая работа ў галіне санітарыі, значнае павялічэньне сеткі мэдыцынскіх установ і колькасьці мэдыцынскага пэрсоналу, паляпшэньне матар'яльнага быту насельніцтва—усё гэта павінна было адбіцца і на санітарным становішчы населеных пунктаў Палесься. У хатах стала куды чысьцей і сьвятлей, замест цагляных падлог цяпер мы паўсюды сустракаем драўляныя, пабудавана многа новых сялянскіх дамоў, ужо зусім непадобных да былых курных хат. У мястэчках Палесься праведзена вялікая рэконструкцыйная работа і асобныя раёны мястэчак сталі зусім не падобнымі да былых гразкіх, згруджаных з касымі дзьвярыма і вокнамі ў дамох, вуліц. Ува многіх мясцох пабудаваны бані, зьявілася электрычнасьць, рад месц забрукаваны, пракладзены тротуары. У Тураве, напрыклад, пабудавана прыгожая каменная баня, заканчваецца артэзыянскі калодзеж.

У сувязі з усім гэтым з кожным годам зьмяншаецца ў Палесьсі колькасьць шаптух-бабак, чараўнікоў, знахароў. Зьмяншаюцца эпэдымічныя захворваньні. Трахома, напрыклад, сустракаецца рэдка. Зьмяншаецца агульная сьмяротнасьць і асабліва сьмяротнасьць дзяцей. Палесьсе падцягваецца і ўжо падцягнулася ў гэтых адносінах да роўню агульнага становішча нараджэньня і сьмяротнасьці па БССР. Паводле даных за 1930 год мы маем па Савецкай Беларусі на кожну тысячу чалавек усярэднім 37,3 нарадзіўшыхся, 14,9 памершых і прырост на 22,4 чала-

века. Па асобным раёнам Палесься мы маем наступныя лічбы на 1000 чал.

| | Нарадзіўшыхся | Памершых | Прырост |
|---|---|---|---|
| 1. Жыткавіцкі раён. . . . | 35,5 | 14,0 | 21,5 |
| 2. Лельчыцкі . . . . . . | 33,8 | 15,3 | 18,5 |
| 3. Пятрыкоўскі . . . . . | 38,0 | 12,3 | 25,7 |
| 4. Тураўскі . . . . . . | 41,4 | 16,3 | 25,1 |

Мэдыцынская брыгада найбольш дасканала абсьледвала і вывучыла асобныя населеныя пункты ў раёнах дзейнасьці палескай экспэдыцыі—па Пятрыкоўскаму раёну—Пятрыкоў, Курыцічы, Камаровічы і завод „Зьвязда", па Тураўскаму раёну—Тураў, Рычаў, Танеж, Букча, Дзяржынск, па Жыткавіцкаму раёну—Жыткавічы, Пухавічы, Людзяневічы. У радзе гэтых населеных пунктаў быў праведзены пагалоўны мэдыцынскі агляд. Ён паказаў наяўнасьць некалькіх пунктаў з вэнэрычнымі захворваньнямі. Аказалася, што на 4.729 чал. знойдзена толькі 12 выпадкаў сыфілісу і 12 выпадкаў ганорэі. Сыфіліс маецца ў тых пунктах, у якія гэтая хвароба была занесена яшчэ ў старыя часы і ў прыватнасьці ў часы імпэрыялістычнай вайны. У Пятрыкоўскім і Жыткавіцкім раёнах ёсьць толькі паасобныя выпадкі захворваньня. Лельчыцкі раён быў абсьледваны ў пачатку 1932 г. работнікамі скурна-вэнэрычнай клінікі. Усе захворваньні і ў гэтым раёне згрупаваны ў некалькіх асобных пунктах.

Савецкая мэдыцына прыняла ўсе меры для таго, каб ня даць магчымасьці хваробе распаўсюджвацца з гэтых пунктаў у іншыя месцы, а таксама захаваць здаровае насельніцтва ў саміх гэтых пунктах ад заразы і ліквідаваць гэтыя асяродкі захворваньня. Праводзяцца сыстэматычныя работы па вылечваньню насельніцтва гэтых пунктаў. Дзякуючы ўжытым мэдычным мерам і правадзімай культурна-асьветнай рабоце, мы ня маем ніякага росту захворваньня, а наадварот мы маем вялікае зьменшэньня з кожным годам гэтых захворваньняў. Самі хворыя, згодна ўказаньням мэдыцыны, лечаць сваю хваробу, хаця назіраецца некаторыя нядбайнасьць з боку паасобных хворых у гэтых адносінах. Толькі ў некаторых вёсках і на прадпрыемствах мы знаходзілі паасобныя выпадкі распаўсюджваньня сыфілісу. Больш захворваньяў і асабліва ў мястэчках на трыпэр. Але, паўтараем, што распаўсюджаньне вэнэрычных хвароб у Палесьсі слабое. Напрыклад, пры правядзеньні масавага пагалоўнага мэдычнага агляду рабочых і служачых лесапільна-фанернага заводу ў Капцэвічах у колькасьці 800 чал., выкрыты толькі адзін выпадак сыфілітычнага захворваньня і адзін трыпэрнага.

Гэта красамоўна гаворыць аб дасягненьнях савецкай мэдыцыны ў справе барацьбы з вэнэрычнымі хваробамі.

Не малое дасягненьне мы маем у Палесьсі ў адносінах зьнішчэньня каўтуну. Калісьці побач са сваёй экономічнай адсталасьцю, цемрай, невуцтвам і забітасьцю, Палесьсе славілася і масавым распаўсюджваньнем каўтуну. Цяпер мы маем іншае становішча. У Палесьсі няма ўжо ранейшага распаўсюджваньня каўтуну. Але было-б грубейшай памылкай лічыць, што яго там зусім няма.

Рэшткі каўтуну ў Палесьсі ёсьць. У шмат якіх вёсках і нават у мястэчках мы можам спаткаць адзін ці некалькі выпадкаў нашэньня каўтуну. Экспэдыцыя не магла, зразумела, пакончыць з гэтым злом, шляхам правядзеньня адпаведнай работы—зьняцьця каўтуну, хаця з 40 выпадкаў знойдзеных мэдыцынскай брыгадай каўтуноў было зьнята 28, але ня ў гэтым заключалася наша задача. Мы павінны былі перш за ўсё ўстанавіць, наколькі распаўсюджаны каўтун і што ляжыць у аснове гэтага распаўсюджваньня. Праведзеная работа ў гэтых адносінах зьяўляецца вельмі каштоўнай. Каўтун—гэта рэшткі цемры, невуцтва, гразі і забабонаў, насаджаных былым царскім урадам. У меру росту культуры, сьвядомасьці і чыстаты, у меру росту разьвіцьця будаўніцтва новага быту, у меру разгортваньня соцыялістычнага будаўніцтва гіне і каўтун, таксама як гіне рэлігія і іншая спадчына царскай Расіі. Каўтун сам па сябе не параджаецца, каўтун не эпідэмічная хвароба, а зьявішча, якое выклікаецца невуцтвам, забабонамі і някультурнасьцю. Думка аб тым, што каўтун забясьпечвае чалавека ад захворваньня, захоўвае організм, ачышчае яго нібы ад усякіх зол і напасьцяў карэнніца іменна ў цемры і забітасьці. Калі каўтун нараджаецца забабонамі і цемрай, дык ён у сваю чаргу падтрымлівае гэтыя забабоны і невуцтва, харчуе рэлігію, перашкаджае культурнаму росту працоўных мас. З каўтуном трэба змагацца мэтодамі культурнага парадку, мерамі адукацыі і агітацыі, мерамі паскораных тэмпаў новага будаўніцтва. Канчатковую пагібель нясе каўтуну разгорнуты процэс соцыялістычнага будаўніцтва, рост нашай пролетарскай культуры.

Не малую, само па сабе зразумела, ролю ў змаганьні з каўтуном адыгрываюць і павінны адыгрываць нашы мэдычныя ўстановы. Прыйсьці своечасова на дапамогу да захварэўшага селяніна, аказаць яму мэдычную дапамогу,—гэта азначае перасьцерагчы яго ад каўтуну. Ёсьць у Палесьсі яшчэ вельмі многа недахопаў у справе пастаноўкі мэдыцынскае справы. У раёнах маецца многа незапоўненых мэдыцынскіх пасад—не хапае мэдыцынскага пэрсоналу; назіраецца значная цякучасьць дакторскага пэрсоналу; слаба ўвогуле разгорнута работа па абслугоўваньню асобных вёсак, аддаленых ад раённых цэнтраў і абкружаных лясамі і балотамі; недастатковая сетка дзіцячых ясьляў і пабудова бань таксама ня мае здавальняючых тэмпаў. Наперадзе яшчэ надзвычайна вялікая работа па зьнішчэньню ўсіх гэтых недахопаў.

## Рэлігійныя настроі і антырэлігійная пропаганда

Разгорнуты процэс соцыялістычнага будаўніцтва, рост колектывізацыі, пабудова новых фабрык і заводаў з перадавой і навейшай тэхнікай машынізацыі сельскае гаспадаркі—усё гэта забівае рэлігію, падрывае карэньні яе ў Савецкім саюзе. Рэзкае зьніжэньне рэлігійнасьці мас пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі і асабліва ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі—агульна прызнанае зьявішча. Гэтае падзеньне рэлігійных настрояў сярод працоўнага насельніцтва Савецкага саюзу ў тым ліку і сярод насельніцтва Савецкай Беларусі выражаецца *ў масавым зачыненьні дамоў рэлігійнага культу па запатрабаваньню працоўных мас*

*у значным* зьніжэньні наведваньня цэркваў і ў адмове насельніцтва ад выкананьня рэлігійных абрадаў, *правядзеньня рэлігійных сьвят і г. д.* Заместа рэлігійнага дурману мы назіраем паўсюды нябывалы рост культурнасьці мас, разьвіцьцё соцыялістычнай культуры. Такога роду зьявішча мы назіраем і ў Палесьсі. Некалі ў Палесьсі разам з цемрай, невуцтвам і павер'ямі квітнела даволі высокая рэлігійнасьць мас. Гэтая ралігійнасьць мела пад сабою вельмі спрыяючую глебу. Адсталасьць тэхнікі, адсутнасьць буйной машыннай індустрыі, рэдкае насельніцтва, адарванасьць населеных пунктаў аднаго ад другога, страшэнная эксплёатацыя і нацыянальна-політычны ўціск—усё гэта ствarала спрыяючыя ўмовы для росту рэлігійнасьці мас, усё гэта пашырала рэлігію і папоўшчыну.

Цяпер і ў Палесьсі мы маем іншыя ўмовы. І тут працэс соцыялістычнага будаўніцтва пабівае рэлігію і падымае культурнасьць мас. І тут шырока разгорнутая работа ў галіне культурнага будаўніцтва выціскае рэлігію, забівае яе. Возьмем хаця-б наяўнасьць ў Палесьсі дамоў рэлігійнага культу. *Калісьці ў Палесьсі, асабліва такія пункты, як Пятрыкоў, Тураў і інш., вызначаліся сваёй рэлігійнасьцю і сваімі цэрквамі. У мястэчку Петрыкаве раней было пяць сынагог, цяпер 4 з іх ужо зачынены і скарыстоўваюцца для іншых мэт: у аднэй—дом работнікаў асьветы, у другой Політэхнічная станцыя, адна занята пад майстэрні. Па ўсяму Пятрыкоўскаму раёну было 8 сынагог, цяпер функцыянуе толькі адна, рэшта зачынены і скарыстоўваюцца для культурных патрэб. Настаўнік з в. Колкі паведамляе, што „пакінулі рэлігію да 80% насельніцтва. Большасьць рэлігійных старыя. Царкву ніхто не наведвае і яна аддана пад клюб; папа няма“.*

*Вось другое характэрнае паведамленьне настаўніка з Мехадавіч: „Моладзь на 90% адмовілася ад рэлігіі. Старыя—на 70—75%. Рэлігійна настроены больш заможныя групы. Царкву як гэткую зачынілі“.*

*Ва ўсім Тураўскім раёне засталася толькі адна царква пры адным папу.* Царква гэтая знаходзіцца ў самым Тураве. *У Жыткавіцкім раёне не засталося ніводнае царквы.* Усё гэта даволі буйныя паказчыкі падзеньня рэлігійнасьці, адміраньня рэлігіі ў Палесьсі. *Асабліва вялікі ўдар рэлігія адчула пад уплывам колектывізацыі. Там, дзе колектывізаваны найбольшы процант* сялянскіх гаспадарак, дзе колгасы найбольш узмоцнены, там менш усяго яе мы назіраем. Колгасьнікі ў масе сваёй вельмі хутка адыходзяць ад рэлігіі, пакідаюць і ўжо пакінулі яе. Але было-б вялікай памылкай лічыць, што з рэлігіяй у Палесьсі ўжо справа скончана, што рэлігійныя праявы тут адсутнічаюць, што рэлігія і рэлігійнікі не падрываюць ужо нашай работы па соцыялістычнаму будаўніцтву. Такое сьцьверджаньне было-бы ня верным, глыбака памылковым і шкодным. Мы маем яскравую і пэўную тэндэнцыю ў зьніжэньні рэлігійнасьці і падрыве яе асноў. Рэлігія адмірае, але адмірае супраціўляючыся, адмірае пад ўплывам нашага штодзеннага соцыялістычнага будаўніцтва. *У радзе населеных пунктаў найбольш адсталых, у пунктах, дзе мы слаба разгарнулі ятчэ работу, дзе слаба разьвіваецца колектывізацыя,*

*дзе ёсьць антысавецкія элемэнты—там рэлігійнасьць найбольш разьвіта.*

Прычым характэрна адзначыць, што ўсякага роду недагляды і памылкі мясцовых організацый у галіне колектывізацыі і савецкага гандлю і г. д. моцна сказваюцца на рэлігійных настроях мас. *У Пятрыкоўскім раёне мы маем вясной і летам бягучага году сур'ёзныя скажэньні ў галіне гандлю, у савецкім будаўніцтве. Гэтыя скажэньні скарыстоўваліся кулацтвам і ўсякімі іншымі антысавецкімі элемэнтамі,* у прыватнасьці, *у бок падвышэньня рэлігійнасьці мас. Недарма мы маем у гэтым раёне яшчэ цяпер 15 дзейнічаючых цэркваў з 20, якія існавалі раней, і наадварот у Жыткавіцкім раёне, дзе партыйная і савецкая работа пастаўлена непараўнальна лепш, чым у Пятрыкоўскім раёне, мы ня толькі зусім ня маем цэркваў, але і наглядаем надзвычайна вялікі рост бязбожжа, масавы адыход насельніцтва ад рэлігіі.*

З прычыны цэлага раду акалічнасьцяў і слабой культурнай і палітычнай работы, адсутнасьці анты-рэлігійнай пропаганды, недастаткова разгорнутай работы ў галіне колектывізацыі, дапушчаных памылак у радзе населеных пунктаў Палесься, асабліва ў такім раёне, як Пятрыкоўскі, Тураўскі, Лельчыцкі—назіраецца яшчэ вельмі высокая рэлігійнасьць сярод насельніцтва. Прыводзім прыклады. Ў самым Пятрыкове захавалася яшчэ дзьве царквы, прычым наведваньне іх, асабліва ў вялікія рэлігійныя сьвяты, даволі высокае. На сёмуху ў аднэй з цэркваў прысутнічала да 300 чалавек, галоўным чынам, жанчын, былі сярод наведвальнікаў і дзеці ў колькасьці 25 чалавек, падросткі; у другой было да 270 наведвальнікаў, сярод іх таксама было нямала дзяцей і падросткаў. Адна з зачыненых цэркваў у Петрыкове да самага апошняга часу занята была пад склад і гэта мела вельмі адмоўнае значэньне для росту бязбожжа. З 22 абсьледваных двароў у Пятрыкове—сярод іх былі саматужнікі, мясцовыя рабочыя, сяляне,—ня сустрэлася ніводнае сям'і, якая-б у тым ці іншым выглядзе яшчэ ня прытрымлівала-б рэлігіі, у якой ня было-б ніводнага рэлігійнага члена сям'і. Наогул належыць адзначыць, што такое мястэчка, як Пятрыкоў і Тураў, па складу свайго насельніцтва—мяшчанскія, дробна-буржуазныя цэнтры, яшчэ вельмі рэлігійны і консэрватыўны. Настаўнік з вёскі Чалюшкавічы Пятрыкоўскага раёну ў анкеце піша: „Рэлігійны настрой за апошнія тры месяцы ўзрос. Больш рэлігійна настроены заможнікі і жанчыны. 30% насельніцтва толькі формальна рэлігійны. Наведваюць царкву да 80% жанчын і да 40% мужчын. Матар'яльныя затраты на рэлігію раўняюцца 10—15 руб. на гаспадарку". У радзе вёсак Пятрыкоўшчыны і іншых раёнаў рэлігійнасьць, паўтараем, яшчэ вельмі высокая. Моцна рэлігійным цэнтрам зьяўляецца і мястэчка Тураў з прылягаючай да яго вёскай Запясочча. Прычым тут гэтая рэлігійнасьць моцна, як сярод яўрэйскага дробна-буржуазнага насельніцтва—былыя гандляры і рамесьнікі, таксама і сярод беларускага насельніцтва. У суботу звычайна мастэчка набывае сьвяточны выгляд,—на вуліцах яўрэйскае насельніцтва; у нядзелю вуліца, плошча, тротуары запаўняюцца іншым насельніцтвам — беларусамі, галоўным чынам, з вёскі За-

пясочча. І ў суботу, і ў нядзелю мястэчка набывае рэлігійна-сьвяточны выгляд. Мяшчанскія і рэлігійныя традыцыі тут захаваліся яшчэ вельмі моцна, прычым яны тут папаўняюць адна другую. Царква, якая тут захавалася, таксама наведваецца яшчэ вельмі значна. У часе вячэрняе, напрыклад, службы ў нядзелю ў царкве было да 200 чалавек. У некаторых населеных пунктах, у прыватнасьці ў той-жа вёсцы Запясочча каля Тураву, заўважаецца за апошні час ўзмоцненае выкананьне рэлігійных абрадаў, асабліва хрэсьбіны дзяцей.

Усе гэтыя зьявішчы рэлігійнага парадку гавораць аб тым, што рэлігія канчаткова яшчэ не памерла, што побач з агульнай тэндэнцыяй зьніжэньня рэлігійнага настрою і ўзросту бязбожжа пад уплывам соцыялістычнага будаўніцтва, колектывізацыі вёскі, правадзімай культурна-асьветнай работы, маюцца яшчэ асобныя праслойкі насельніцтва і асобныя населеныя пункты, дзе рэлігія яшчэ моцна трымаецца. Прычым застаўшыяся рэлігійнікі—кулацтва і іншыя варожыя нам элемэнты—імкнуцца ўсямерна падтрымліваць рэлігію, выкарыстоўваючы яе, як сілу, як сродак, накіраваны супроць савецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва.

Пры такім становішчы, здавалася-б, нашы культурныя організацыі, партыйныя і комсамольскія ячэйкі павінны былі-б разгарнуць шырокую антырэлігійную пропаганду. Між тым, з гэтай пропагандай у Палесьсі, таксама, як відаць, і па ўсёй Беларусі, справа стаіць вельмі і вельмі дрэнна. Няма сур'ёзнай сыстэматычнай работы ў гэтай галіне. Работа дзе-ні-дзе і праводзіцца, але праводзіцца хаотычна і кампанейскі, а часьцей за ўсё яна зусім закінута. Організацыі ваяўнічага саюзу бязбожнікаў на мясцох не адчуваюцца, яны мёртвыя, а часта іх зусім няма. У Пятрыкоўскім раёне лічыцца 24 ячэйкі бязбожнікаў з 891 членам, але адчуваюцца яны вельмі слаба і аб іх мала хто ведае. Раённыя партыйныя організацыі таксама слаба зьвяртаюць увагу на работу гэтых організацый, ня кіруюць імі сыстэматычна, не правяраюць, ня штурхаюць іх. Цэнтральны беларускі савет саюзу бязбожнікаў таксама зьяўляецца мёртвай організацыяй, ён не паставіў сваёй работы на належную вышыню, не мобілізаваў пролетарскай грамадзкасьці навокал гэтай справы. Яго работа носіць таксама кампанейскі характар. Паміж тым, антырэлігійны фронт заслугоўвае да сябе сур'ёзнай увагі. Гэты фронт нельга пакінуць у такім стане, у якім ён знаходзіцца да гэтага часу.

## Задачы вывучэньня грамадзянскай вайны ў Палесьсі

Пытаньне вывучэньня грамадзянскай вайны ў Палесьсі зьяўляецца для нас надзвычайна важным пытаньнем. Як вядома, вывучэньню грамадзянскай вайны на тэрыторыі былой царскай Расіі наша партыя і пролетарская грамадзкасьць аддаюць надзвычайна вялікую ўвагу. Гісторыкі-марксысты, створаныя спэцыяльныя камісіі і аб'яднаньні, навукова-дасьледчыя ўстановы і г. д. праводзяць цяпер вялікую работу па вывучэньню грамадзянскай вайны. Палеская экспэдыцыя таксама не магла абыйсьці гэтае пытаньне ў правадзімай сваёй дасьледчай рабоце. У свой агульны

плян работы яна ўключыла таксама і пытаньне вывучэньня грамадзянскай вайны ў Палесьсі. Гэта тым больш патрэбна было зрабіць, што вывучэньне грамадзянскай вайны ў Палесьсі зьяўляецца самым слабым зьвяном у рабоце аднаведных організацый і гісторыкаў, занятых вывучэньнем грамадзянскай вайны ў Беларусі ў цэлым. Палесьсе ў гэтых адносінах вельмі цікава. Тут грамадзянская вайна праходзіла ў вельмі складаных умовах і мела вельмі многа сваіх спэцыфічных асаблівасьцяў. Палесьсе зьяўлялася ў экономічных і культурных адносінах адной з адсталых частак Беларусі. Калі прамысловасьць Беларусі ў дакастрычнікаўскія часы была адсталай параўнальна з іншымі, найбольш перадавымі раёнамі былой царскай Расіі, дык Палесьсе ў гэтых адносінах было асабліва закінута. Тут зусім амаль адсутнічалі буйныя прамысловыя прадпрыемствы. Самым вялікім прадпрыемствам тут была лесапільна-фанерная фабрыка ў Капцэвічах, дзе раней работала ўсяго толькі 230 рабочых. Але такіх прадпрыемстваў тут было толькі адно на ўсе сучасныя чатыры раёны— Пятрыкоўскі, Лельчыцкі, Тураўскі, Жыткавіцкі. Найбольш характэрнымі прадпрыемствамі тут былі: бровары, лесапілкі, млыны, на якіх работала звычайна па 10—15 рабочых. У Пятрыкоўскім, напрыклад, раёне было раней усяго толькі 21 такое прадпрыемства, на якім лічылася 472 рабочых, уключаючы сюды і Капцэвіцкую лесапільна-фанерную фабрыку з 230 рабочымі. У іншых раёнах і такой колькасьці прадпрыемстваў і рабочых ня было. Пролетарская праслойка тут, выходзіць, у дарэволюцыйны час была вельмі слабая.

У той-жа час у Палесьсі было даволі многа памешчыкаў і значная праслойка буржуазіі, занятай, галоўным чынам, гандлем, лясным промыслам, скупкай жывёлы і г. д. Недарма ў радзе месц Палесься, у прыватнасьці ў такім м., як Пятрыкоў—існавалі даволі моцныя чорнасоценныя монархічныя організацыі.

Беларускае Палесьсе знаходзіцца на рубяжы Польшчы і Украіны. Гэта таксама накладала свой адбітак на грамадзянскую вайну тут. Пролетарскія і паўпролетарскія масы Палесься ў гады грамадзянскай вайны вялі барацьбу пад кіраўніцтвам нашай партыі і яе мясцовых організацый ня толькі з нутраной памешчыцка-афіцэрскай і кулацка-буржуазнай контррэволюцыяй, ня толькі з нямецкімі окупантамі і белапалякамі, але ім прышлося вытрымаць напружанаю барацьбу і з украінскай контррэволюцыяй— гэтманцамі і пятлюраўцамі. У Палесьсі бадай мацней, чым у іншых раёнах Беларусі быў разьвіты бандытызм. Сюды прыходзілі буйныя банды з Украіны і з Польшчы. Тут рабіў сваю крывавую расправу Булак-Балаховіч з Савінкавым, тут бандытызм быў разьвіты і выяўляў сябе не толькі ў канцы 20 і 21 гадоў, але затрымаўся і на 22-23 гады.

Палесьсе было окупавана ў грамадзянскую вайну ня толькі немцамі і белапалякамі, але і гэтманцамі і пятлюраўцамі. Пятлюраўцы, белапалякі і Булак-Балаховіч організоўвалі ў Палесьсі нявіданыя па сваёй лютасьці і маштабу яўрэйскія пагромы.

Усе гэтыя абставіны накладалі свой адбітак на грамадзянскую вайну ў Палесьсі. Вайна гэта вялася тут у асабліва спэцыфіч-

ных і прыродных умовах, у ўмовах вялікай лясістасьці, забалочанай мясцовасьці і рэдкай заселенасьці яе. Стварэньне партызанскіх атрадаў і барацьба іх супроць контррэволюцыі атрымала тут шырокі размах.

На ўсе гэтыя пытаньні экспэдыцыя павінны была зьвярнуць сваю ўвагу.

Экспэдыцыя ня мела магчымасьці вылучыць спэцыяльную брыгаду для вывучэньня грамадзянскай вайны. Прышлося мне аднаму выконваць гэтую работу. Не магу сказаць, што я яе выканаў здавальняюча. Але ўсё-ж многае было зроблена і ў гэтай галіне. Некаторыя з таварышоў аказвалі мне дапамогу ў гэтай справе, зьбіраючы патрэбны матар'ял. Якая-ж конкрэтная работа была праведзена ў галіне вывучэньня грамадзянскай вайны ў Палесьсі? Яшчэ да паездкі экспэдыцыі мною ў архівах рэволюцыі сабраны значны архіўны матар'ял, які адносіцца да грамадзянскай вайны ў Палесьсі. Сярод гэтага матар'ялу маецца да 20-ці вельмі каштоўных архіўных докумэнтаў. Гэтыя апошнія тычацца, галоўным чынам, бандытызму ў Палесьсі, партызанскага руху і контррэволюцыйных выступленьняў. Сабраны папярэдні матар'ял аб становішчы прамысловасьці ў Палесьсі ў дарэволюцыйны пэрыод. Напярэдадні экспэдыцыі падабраны таксама ўспаміны аб грамадзянскай вайне ў Палесьсі. У процэсе правядзеньня самой экспэдыцыі пытаньні грамадзянскай барацьбы вывучаліся амаль выключна па ўспамінам. Непасрэдна ад саміх удзельнікаў грамадзянскай вайны ў Палесьсі запісана 13 успамінаў. Гэтыя ўспаміны тычацца пытаньняў партызанскага руху ў Палесьсі, наступленьня белапалякаў і падзей, якія адбываліся ў часы белапольскай окупацыі, булак-балахоўскіх пагромаў і г. д. Некаторыя з гэтых матар'ялаў маюць асабліва вялікую каштоўнасьць. Больш за ўсё сабраны матар'ял тычыцца падзей, якія адбываліся ў Пятрыкоўскім раёне. У гэтым раёне маецца значная колькасьць удзельнікаў грамадзянскай вайны ў Палесьсі. Усе тыя матар'ялы, якія ўдалося сабраць ў выніку праведзенай экспэдыцыі, даюць магчымасьць асьвятліць пытаньні партызанскага руху, бандытызму і наступленьня белапалякаў у Палесьсі. Мы ня можам сказаць, што праведзеная работа зьяўляецца дастатковай для напісаньня гісторыі грамадзянскай вайны ў Палесьсі. Не, абавязкова трэба правесьці для гэтага яшчэ значную дадатковую работу. Трэба яшчэ правесьці вялікую работу па далейшаму зьбіраньню ўспамінаў ад саміх удзельнікаў, трэба паработаць яшчэ ў архівах, каб сабраць патрэбныя докумэнты. І толькі пры наяўнасьці ўсяго гэтага можна даць каштоўную працу аб грамадзянскай вайне ў Палесьсі.

## Гісторыя Палесься старажытных часоў

У складзе палескай экспэдыцыі работала 3 археолёга. Для археолёгічных досьледаў Палесьсе таксама зьяўляецца вельмі цікавым раёнам. Даволі спаслацца хаця-бы на тое, што тут у Палесьсі, у м. Юравічах на р. Прыпяці, некалькі год таму назад адкрыта стаянка старажытна-каменнага чалавека, якая сваімі рэштками матар'яльнай культуры таго часу зьяўляецца для архео-

лёгаў вельмі цікавым об'ектам дасьледваньня. Раскопкі ў гэтай стаянцы хаця ўжо і вядуцца некалькі год, але далёка яшчэ ня скончаны. Такіх стаянак у Беларусі адкрыта ўсяго пакуль толькі тры (апрача Юравіцкай, адна ў былой Гомельскай, а другая ў Магілеўскай акругах).

Паводле даных, якія знойдзены ў гэтых стаянках, устанаўляецца, што старажытны чалавек пасяліўся ў паўднёвай частцы Беларусі каля 20—25.000 гадоў таму назад. Археолёгі з складу палескай экспэдыцыі павінны былі праводзіць свае досьледы ў галіне адшуканьня помнікаў старажытна-каменнага чалавека ў Палесьсі.

Брыгада археолёгаў павінна была заняцца таксама вывучэньнем эпохі нэоліту і бронзы ў Палесьсі. Перад ёю стаялі і іншыя задачы, у прыватнасьці—вывучэньне эпохі радавога ладу і зараджэньне фэўдалізму па археолёгічным помнікам (гарадзішчам, селішчам, курганом).

Работа гэтай брыгады павінна была разгарнуцца па маршруту абапал берагоў р. Прыпяці. Аддаленыя раёны ад Прыпяці не зьяўляюцца для археолёгаў вельмі цікавымі, маючы на ўвазе іх забалочанасьць і адсутнасьць спрыяючых умоў для жыцьця чалавека ў старажытны пэрыод. Навукова-дасьледчая работа і была разгорнута па берагох старых тэрас шырокай поймы р. Прыпяці. Была абсьледвана тэрыторыя ўздож Прыпяці ад самой мяжы з Польшчай і да мястэчка Юравіч. Трэба адзначыць, што раней гэты раён сур'ёзна археолёгамі не вывучаўся і палеская экспэдыцыя ў гэтых адносінах зьявілася першай у сэнсе глыбокага археолёгічнага дасьледваньня Палесься. Бясспрэчна, вынікі археолёгічных досьледаў будуць зьяўляцца вялікім укладам ў археолёгічную навуку. Яны дадуць вельмі многа для нашых гісторыкаў. У прыватнасьці гэтыя досьледы павінны даць вельмі многа для вырашэньне проблемы аб славянскай колёнізацыі ня толькі Палесься, але і ўсёй тэрыторыі Беларусі. Для гісторыкаў і да гэтага часу пытаньне аб тым, якое насельніцтва жыло ў Палесьсі да расьсяленьня і ў момант самога расьсяленьня тут славян, якая культура была ў гэтага насельніцтва параўнальна з славянскай культурай, калі ўпяршыню зьявіліся тут групы насельніцтва славянскіх плямён, усё гэта такія пытаньні, якія маюць для нас недругараднае навукова-гістарычнае значэньне. Вельмі цікавым таксама зьяўляецца пытаньне ўзаемаадносін славянскіх груп насельніцтва і ствэрыўшыхся пазьней княстваў, якія пасяліліся ў Палесьсі ўздоўж р. Прыпяці з польскімі пляменьнямі. Вынікі палескай экспэдыцыі, судзячы па папярэднім даным, бясспрэчна, адыграюць сваю ролю ў вырашэньні ўсіх гэтых пытаньняў.

Вось як сама археолёгічная брыгада формулявала тыя задачы, якія перад ёю стаялі. У папярэдняй справаздачы яе мы чытаем: „у задачу археолёгічнай брыгады ўваходзіла высьвятленьне: а) часу засяленьня і прыродна-гістарычныя ўмовы краю, б) вывучэньне ўсіх па магчымасьці важнейшых даступных для дасьледваньня рэштак матар'яльнай культуры насельніцтва, пачынаючы ад самых ранейшых часоў побыту чалавека на тэрыторыі сучаснага беларускага Палесься і да пачатку раньняга фэўдалізму. Такімі об'ектамі для вывучэньня зьяўляліся: палеолітычныя стаянкі (эпоха

маманта) у м. Юравічах, стаянкі эпохі нэоліту і бронзы, селішча, гарадзішча, умацаваны цэнтры роду ці радавой сям'і, а таксама і цэнтры фэўдалаў (раньняга фэўдалізму), рэшткі жыльля (зямлянкі і інш.), пахаваньні як групавыя (пераважна трупаспаленьне на дюнах), так і курганныя".

Якія-ж вынікі археолёгічных досьледаў у Палесьсі, праведзеных палескай экспэдыцыяй? Вынікі гэтыя ўжо цяпер вельмі цікавыя. Брыгада, праводзячы досьледы ўжо паказанай намі Юравіцкай палеолітычнай стаянкі, знайшла і дасьледвала 30 стаянак эпохі нэоліту і бронзы, 10 селішчаў, 10 гарадзішчаў, некалькі кургановых груп і групавых месц пахаваньняў, шляхам трупаспаленьня, 3 зямлянкі і іншыя рэшткі эпохі родавага ладу. У выніку гэтых досьледаў здабыты: рэшткі костак жывёлы, крамянёвыя прылады, сельска-гаспадарчыя і іншыя прылады вытворчасьці—кераміка розных часоў. Разам з гэтым вывучаліся тыпы жыльля, будынкі першабытных каменных і глінабітных печаў і ачагоў, будынкі гарадзішчаў, спосабы здабываньня жалеза з балотнай руды і г. д. Усе гэтыя рэшткі матар'яльнай культуры і праведзеная работа па ўстанаўленьню заселеных пунктаў і стаянак насельніцтва першабытнай радавой эпохі дазволяць ужо цяпер рабіць вывады адносна гэтай эпохі. У прыватнасьці археолёгі, прымаючыя ўдзел у экспэдыцыі, робяць заключэньне аб тым, што насельніцтва Палесься эпохі нэоліту і бронзы было даволі рэдкім тут з прычыны няспрыяючых прыродных умоў. Пазьней, пачынаючы з першых вякоў нашай эры, гушчыня насельніцтва павялічваецца, разам з гэтым уздымаецца і матар'яльная культура чалавека таго часу. У першыя вякі нашай эры насельніцтва Палесься ўжо здабывала балотную руду, ачышчала яе ад жужлы, шлякаў і з здабытага жалеза вырабляла розныя прылады вытворчасьці. Сярод знойдзеных экспэдыцыяй рэштак матар'яльнай культуры маюцца рэшткі і жалезных вырабаў (напрыклад, невялікія сярпы). Усё-ж у гэтыя часы насельніцтва Палесься было куды радзей, чым насельніцтва іншых раёнаў Беларусі (напрыклад, па р.р. Дняпры, Сожы і Пуці). Што тычыцца месцазнаходжаньня саміх стаянак эпохі нэоліту і бронзы, гарадзішчаў і селішчаў у пэрыод радавога ладу, дык яны раскіданы па ўсёй прасторы ўздоўж р. Прыпяці, больш за ўсё іх знойдзена каля г. Пятрыкова ў кірунку ад яго да Мозыру. Каля самага Пятрыкова знойдзены тры раньніх зямлянкі з ачагамі ў іх і рэшткамі вытапу жалеза з балотнай руды. Па папярэднім даным гэтыя зямлянкі адносяцца да IV-V стагодзьдзяў нашай эры.

Вельмі каштоўную работу археолёгі палескай экспэдыцыі правялі ў галіне досьледаў месцараджэньня карысных выкапняў: балотнай руды, мэргелю,球рознага роду гліп, торфу і г. д., імі-ж сабраны матар'ялы сямі старажытных жалезатопкіх прылад, у пяці пунктах дасьледвана жалезная руда, у 10 пунктах паклады белай гліны, у адным пункце торф, сабраны таксама матар'ял па тром невялікім цагляным заводам.

Тут трэба адзначыць, што нашы археолёгі за апошні час наогул пачынаюць разгортваць даволі вялікую і вельмі патрэбную і карысную для нашага социялістычнага будаўніцтва работу. Імі,

напрыклад, ужо да сучаснага моманту ўстаноўлена да 50 пунктаў здабываньня і абработкі ў старыя часы жалезнай руды. У гэтым кірунку работа імі праводзілася і ў часе палескай экспэдыцыі. Каштоўнасьць гэтай работы перш за ўсё ў тым, што яна дазваляе нашым геолёгам, гаспадарнікам, горнай разьведцы больш лёгка і хутка знаходзіць запасы балотнай руды, устаноўляе запасы яе, спосабы абработкі ў старыя часы і г. д. Аказваецца, што археолёгі могуць праводзіць карысную і актуальную работу для сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва.

---

**Г. Кернажыцкі**

# Соцыялістычнае будаўніцтва Тураўшчыны да XV-й гадавіны Кастрычніка

Тураўскі раён да Кастрычнікаўскай рэволюцыі прадстаўляў з сябе адсталы сельска-гаспадарчы спажывецкі раён з раздробненай экстэнсыўнай сельскай гаспадаркай, празпалоснай і хутарской формай землекарыстаньня, з надзвычайна нізкім культурным роўнем насельніцтва і поўнай адсутнасьцю прамысловасьці. З агульнай зямельнай плошчы ў 161.054 га да 30% зямель было ў абшарнікаў, цэркваў і кулакоў і 40% былых „казённых лясоў".

Малазямельле ў раёне і нізкі ровень сельскай гаспадаркі прымушалі насельніцтва эміграваць у Сібір, Амэрыку і займацца ў значнай ступені адходным промыслам. Самае мястэчка Тураў прадстаўляла з сябе тыповае дробна-гандлёвае саматужнае мястэчка. Ціха і добра жылося абшарнікам, гандляром, нэпманам, кулаком і іх дапаможнікам, але рабочыя, батрацтва і малазямельнае бядняцкае сялянства стагнала пад ярмом гэтых крывапійцаў, цярпела голад, холад, эксплёатацыю і жыло ў надта цяжкіх умовах. Так сустрэлі вялікі Кастрычнік розныя соцыяльныя праслойкі насельніцтва Тураўшчыны.

Пэрыод грамадзянскай вайны з 1918 па 1921 г. надта адбіўся на народнай гаспадарцы Тураўшчыны і працоўным насельніцтве. Нямецкая окупацыя, польская окупацыя і разгул банды Балаховіча яшчэ больш давялі працоўныя масы да нэндзы і развалу гаспадаркі. Мала засталося такіх рабочых і беднейшых сялян, па сьпіне якіх не пахадзіла-б польская нагайка, многа перадавых сыноў працоўных пала ад рук окупантаў і банды Балаховіча. З таго часу ўжо прайшло 10-11 год. За гэты пэрыод Тураўшчына карэнным чынам зьмяніла свой твар. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, у барацьбе з ухіламі, на аснове ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі працоўныя масы Тураўшчыны 15-ю гадавіну Кастрычніка адзначаюць вялікімі перамогамі і посьпехамі на соцыялістычным фронце.

Так, *у галіне сельскай гаспадаркі:* Замест аднаасобных, карлікавых капіталістычнага тыпу гаспадарак створаны буйныя колгасныя соцыялістычныя гаспадаркі. К 15-й гадавіне Кастрычніка раён колектывізаваны на 38,1% (1.620 гаспадарак). Організавана

32 колгасы і адзін савгас. Колектывізацыя бярэ свой пачатак з паловы 1928 г. Ідзе такім тэмпам:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У 1928 г. | было 2 | колгасы | 24 | двары | 0,6% | да ўсіх | двароў |
| „ 1929 г. | 12 | „ | 54 | „ | 1,3% | „ | „ |
| „ 1930 г. | 27 | „ | 242 | „ | 6% | | |
| „ 1931-32 г. | 32 | „ | 1620 | „ | 38,1% | | |

Найбольш шпаркі тэмп колектывізацыі адносіцца к 1931 г. Разбураны адвечныя ўласьніцкія межы. Пасеўная плошча соцыялістычнага сэктару ў гэтым годзе складае 45% да агульнай плошчы раёну, прычым па асноўным тэхнічным культурам адносная ўдзельная вага соцсэктару яшчэ больш павялічана, па ільну да 50%, кораньплодам 58%, сілосным культурам да 100%.

Раён па спэцыялізацыі зьяўляецца жывёлагадоўчым, пагэтаму і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ў асноўным ідзе па лініі разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Гэтаму спрые наяўнасьць кармовай базы—вялікая плошча сенажаці ў раёне, якая фактычна перавышае пасеўную плошчу ў паўтара разы (18.000 га і 12.000 га). Організавана 11 жывёлагадоўчых таварных колгасных фэрм, 12 сьвінагадоўчых і 14 фэрм вырашчваньня маладняку, адна птушкаводная і адна трусаводная фэрма. Усе гэтыя фэрмы ўжо ў асноўным ўкомплектаваны высокапродукцыйнай малочнай жывёлай, сьвінаматкамі, птушкамі і трусамі, і за 9 месяцаў гэтага 1932 г. далі дзяржаве вялікую карысьць па здачы таварнай продукцыі, аб чым сьведчаць наступныя лічбы:

| | Укомплект. на 1/IX-32 г. | Здана дзяржаве таварнай продукцыі | Увага |
|---|---|---|---|
| 1) М. Т. Ф. К. | 844 шт. кароў | 295 цэнт. мяса | Колгасы таварных фэрм па здачы продукцыі |
| 2) Ф. В. М. К. | 783 цялят | і 155760 літр. малака | |
| 3) С. Т. Ф. К. | 398 сьвінаматак | 154,4 цэнт. мяса | |
| 4) Т. П. Ф. К. | 566 птушак | | |
| 5) Т. Т. Ф. К. | 317 трусоў | | |

Такім чынам, таварныя фэрмы ў г. г. здалі таварнай продукцыі дзяржаве мяса больш 450 цэнт., у той час, калі ў мінулым годзе фэрмы былі яшчэ ў стадыі разьвіцьця і продукцыі дзяржаве здалі зусім мала. Малака-ж у мінулым годзе было здана толькі 94.346 літараў.

Адначасна з гэтым маюцца вялікія дасягненьні ў галіне гаспадарчага будаўніцтва колгасаў па забесьпячэньню жывёлы спэцыяльнымі памяшканьнямі і іншымі будынкамі. Да 15-й гадавіны Кастрычніка пабудавана новых:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| а) Кароўнікаў | 13 | на | 1280 | галоў |
| б) Цялятнікаў | 2 | „ | 200 | „ |
| в) Прыстасавана цялятнікаў | 3 | „ | 300 | „ |
| г) Сьвінарнікаў | 8 | „ | 760 | „ |
| д) Адкормачных пункгаў | 1 | „ | 300 | „ |
| е) Птушнікаў | 4 | „ | 4000 | „ |
| ж) Трусоў | 2 | „ | 600 | „ |

Апрача гэтага пабудавана многа іншых будынкаў—гумен, сьвірнаў, стайняў і г. д. Калі ў мінулым годзе кармавой базай колгасы былі недастаткова забясьпечаны, дык у г. г. будуць у поўнай меры забясьпечаны, ужо заброніравана кармоў 55.642

цэнтнера. Засілосавана сілосу 2.724 тоны, заместа 1.967 тон у мінулым годзе.

Карэнным чынам зьмянілася і тэхнічная ўзброенасьць соцыялістычнай сельскай гаспадаркі раёну. Замест прымітыўных сох, плугоў і барон, сярпоў і кос, якія прогрэсавалі на палёх раёну, цяпер на колгасных і савгасных палёх гудуць трактары. Машынізацыя сельскай гаспадаркі праводзіцца самым шпаркім тэмпам. Узброенасьць сельскай гаспадаркі складанымі машынамі на адзін га па раёну ўвогуле выражаецца ў суме 20 руб., а па колгаснаму сэктару разам з МТС—38 р. 50 кап. на га.

Пабудавана новая машына-трактарная станцыя. Усяго ў раёне цяпер налічваецца 13 трактараў, з іх 11 трактараў сыстэмы „Інтэрнацыянал“, 7 дзіскавых трактарных барон, 2 складаных малацілкі, 10 паўскладаных малацілак, 13 конных і ручных малацілак, больш 20 касілак, 10 трыераў, 12 трактарных плугоў, больш 20-ці жатак, 2 дзіскавыя сеялкі, 8 ільна-церабілак і г. д.

Рост машынізацыі і тэхнічнай узброенасьці раёну спрыяе хутчэйшаму організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў. Эканомічнае і фінансавае становішча колгасаў з кожным годам ўзмацняецца, матар'яльнае становішча колгасьнікаў паляпшаецца, напрыклад: па выбарачнаму абсьледваньню па 5-ці колгасам у 1931 г. выпадала на адзін працадзень 1,9 кг зернавых культур, а ў г. г. 2,2 кг—рост на 70%.

Побач з гэтым, дзякуючы правядзеньню раду агротэхнічных мерапрыемстваў, уздымаецца ўраджайнасьць палёў, павялічваецца забясьпечаньне раёну кадрамі спэцыялістаў сельскай гаспадаркі (зараз маецца 7 агрономаў, 4 вэтработнікі і 7 інш. с/г. спэцыялістаў), з кожным годам пашыраецца пасеўная плошча за кошт неабжытых зямель, цаліны і раскарчовак, паляпшаецца матар'яльны дабрабыт працоўных мас.

Побач з гэтымі посьпехамі ёсьць яшчэ многа дасягненьняў па іншых галінах сельскай гаспадаркі.

Зусім ня так абстаіць справа за мяжой у сумежнай з нашым раёнам фашысцкай Польшчы. Там неабмежаваная ўлада абшарнікаў, капіталістаў і жандараў, нячуваныя зьдзекі над рабочымі і сялянамі, асабліва над нацменшасьцямі (беларусамі, яўрэямі, украінцамі і інш.). Цяжкі падатковы прэс выкачвае з сялян апошнюю маемасьць, усё гэта суправаджаецца ўдарамі бізуноў і прыкладаў.

Там пануе страшэнны крызіс, прыгнечанасьць і эксплёатацыя. Недарма прымежныя сяляне з таго боку дзяржаўнай мяжы выбягаюць глядзець, як на дзіва, калі пачуюць гук трактара на нашых прымежных колгасных палёх, але нядоўга прыходзіцца ім глядзець, бо жандары фашыскай Польшчы прыкладамі і бізунамі хутка прымушаюць іх разыйсьціся.

*Прамысловасьць:* Да рэволюцыі ў раёне ніякай прамысловасьці ня было, ня гледзячы на наяўнасьць надзвычайна вялікай плошчы лясных масываў, карысных выкапняў і прыродных багацьцяў (торфу, гліны і інш.). Толькі ў самым мястэчку Тураве былі дробныя саматужнікі-адзіночкі. Рэконструкцыйны пэрыод унёс вялікія зьмены і зрухі і ў гэтую галіну народнай гаспадаркі.

чаго нельга было зрабіць пры ўладзе капіталістаў, то можна зрабіць пры савецкай уладзе, пры дыктатуры пролетарыяту. Там, дзе былі голыя пустыры, а таксама сярод лясоў вырасьлі новыя заводы. Пабудаваны раённы комбінат з дрэваапрацоўчым, мукамольным і гонтарэзным цэхамі, мэблевая фабрыка, па вырабу школьнай і сялянскай мэблі, дрэваапрацовачны завод па вырабу тары, гонту і інш. Сьпірта-парашковы завод, 2 смалакурна-шпігінарных заводы, адзін дзягцярны завод, адзін буйны і тры дробных цагельных заводы. Усе заводы будуюцца на базе рацыянальнага выкарыстоўваньня масцовай сыравіны. Шпаркім тэмпам разьвіваецца саматужная прамысловасьць. Заместа дробных саматужнікаў-адзіночак створана 7 саматужна-прамысловых вытворчых арцеляў, у якія аб'яднана 177 саматужнікаў.

Павялічылася адносная вага пролетарскага ядра ў раёне. Лік прамысловых рабочых дробнае мясцовае прамысловасьці вырас да 200 чалавек. Валавая выпрацоўка мясцовай і саматужнай прамысловасьці ў бягучым годзе павінна выразіцца ў суме 1.300.000 руб.

Да рэволюцыі аб электрыфікацыі ў раёне ніхто нават і думаць ня мог, бо тады гэта было недасяжна. Цяпер-жа ўжо два гады як пры савецкай уладзе пабудавана электрастанцыя магутнасьцю ў 75 кілёват, якая асьвятляе раённы цэнтр Тураў і адну прамежную вёску. Замест „лучыны", якая гарэла на комінках, і простых лямп у Тураве сьвеціць *„лямпачка Ільліча"*.

У галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва, дзякуючы правільнаму ажыцьцяўленьню партыяй ленінскай нацыянальнай політыкі, Тураўшчына таксама мае грандыёзныя посьпехі. Да рэволюцыі ў раёне было каля паўтара дзесятка так званых „царкоўна-прыхадзкіх школ", якія працавалі пад контролем папоў, і 2-х клясная школа ў Тураве, у якіх навучалася каля тысячы дзяцей, пераважна дзяцей абшарнікаў, папоў, кулакоў, гандляроў і інш. Дзяцей рабочых і бяднейшых сялян тут было мала, ды і далей гэтай школы ходу ім ня было. Цяпер-жа за 11 год міpнага соцыялістычнага культурнага будаўніцтва мы маем ужо 39 школ, або ў тры разы больш чым да рэволюцыі, з ахопам вучняў 4.252 чал. Сярэдніх школ ня было. Цяпер-жа маецца 11 школ сямігодак, частка якіх пераводзіцца ў 10-годкі. Уведзена ўсеагульнае навучаньне. Першым концэнтрам школ ахоплена 98,4% усіх дзяцей, а ў V групах сямігодкі навучаецца 94,9%.

Пасьпяхова праводзіцца політэхнізацыя школ. Ужо цяпер маецца 9 майстэрань. Па раёну існуе 11 хат-чыталень. Праводзіцца суцэльная пісьменнасьць насельніцтва да 45 год. Малапісьменных лічыцца 2.713 чал. і няпісьменных 984 чал., з якіх на сёнешні дзень ахоплена 525 чал., або 53,4%. Далейшая задача заключаецца ў тым, каб гэтая няпісьменнасьць да канца першай пяцігодкі была цалкам ліквідавана.

Побач з ростам школьнае сеткі і ахопам вучняў маюцца колёсальныя зрухі і ў будаўніцтве новых школ. Пабудавана 3 новых сямігодкі, з іх адна мае 3-павярхавы каменны будынак, дзьве 4-комплектныя школы, шэсьць 2-комплектных школ, 3 новых сельскіх дома соцкультуры. Пасьпяхова ажыцьцяўляецца ленін-

ская нацыянальная політыка, на аснове якой адчынена і працуе ўжо некалькі гадоў адна нацыянальная яўрэйская сямігодка. Яўрэйскі дом соцыялістычнай культуры, адна ўкраінская працоўная школа. Ва ўсіх школах раёну вучацца дзеці рабочых і сялян на сваёй роднай мове, многа дзяцей ужо вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах як у БССР, так і іншых брацкіх савецкіх рэспубліках.

Ня так стаіць справа побач з намі, за кардонам, у фашысцкай Польшчы. Там нацменшасьці прыгнечаны. Беларуская нацыянальная культура ў поўным загоне. Беларускія школы зачынены, дзяцей беларусаў і іншых нацыянальных меншасьцяў гвалтам прымушаюць вучыцца на польскай мове, дзецям рабочых і сялян няма доступу ў сярэднія і вышэйшыя школы. У школах палачная дысцыпліна, „бізун". Ахоп дзяцей школай не дасягае 50%.

Палепшылася справа ў раёне і ў галіне аховы народнага здароўя. Замест аднэй больніцы, якая існавала ў дарэволюцыйны час, цяпер маецца раённая больніца, тры доктарска-амбуляторныя пункты, адзін фэльчарскі пункт, два пункты першай дапамогі, пабудавана новая заразная больніца і два новых доктарска-амбуляторных пункты. Раён пакрыты шырокай сеткай соцыяльна-бытавых устаноў, дзіцячых ясьляў, пляцовак, садоў, консультацый і інш.

Разгортваецца комунальнае і жыльлёвае будаўніцтва, пабудавана 3 новых жылых дамы на 16 кватэр. Пабудаваны артэзыянскі калодзеж, лазьні ў раённым цэнтры, і ў с/сав., забрукавана 2 км вуліцы ў Тураве.

Увесь раён тэлефонізаваны і раённы цэнтр радыёфікаваны. Нарсувязьзю ахоплена 100% насельніцтва.

Расьце коопэрацыя. Цяпер налічваецца 11.630 пайнікаў па спажывецкай коопэрацыі. Усе насельныя пункты раёну пакрыты сеткай крам, спажывецкай і лесаробчай коопэрацыі (57). З кожным годам пашыраецца тавараэварот. За 9 месяцаў 32 г. таваразварот спажывецкай коопэрацыі выразіўся ў 1.585.595 руб.

Пашыраецца і паляпшаецца грамадзкае харчаваньне, па раёну маецца 8 сталовак, якімі за 9 месяцаў г. г. адпушчана 128.640 абедаў.

Усе вышэйпералічаныя посьпехі дасягнуты дзякуючы правільнаму кіраўніцтву ленінскай комуністычнай партыі і яе ЦК на чале з тав. Сталіным, дзякуючы правільнай расстаноўцы сіл у раёне, згуртаваньню рабочых, колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў вакол компартыі і органаў пролетарскай дыктатуры саветаў, мобілізацыя працоўных мас на выкананьне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам па соцыялістычнаму будаўніцтву. Агульныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва раёну ў значнай ступені залежалі ад выкананьня політ.-гаспадарчых кампаній у г. г. Калі ў мінулым годзе Тураўскі раён па нарыхтоўкам плёўся ў хвасьце, дык у г. г. к дню сьвяткаваньня Кастрычнікаўскай рэволюцыі маюцца колёсальныя зрухі па ўсім кампаніям, напрыклад:

а) Па збожжанарыхтоўкам на 1/XI гадавы плян выканан на 91,9%.

б) Па сенанарыхтоўкам плян выкананы на 40%, па саломе на 30%, па ільна-насеньню 60%, па бульбе 47%, а па адгрузцы бульбы Ленінграду на 74%, па мобілізацыі сродкаў за першыя тры кварталы разам 108,8%, а за IV-ы квартал 29,7%.

Побач з гэтым мы маем яшчэ многа і недахопаў, якія адбіваюцца на больш пасьпяховым ходзе разьвіцьця соцыялістычнай гаспадаркі раёну, а іменна:

Слабое правядзеньне організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, недастатковае ўкараненьне соцыялістычных форм і мэтодаў працы ў колгасах, савгасах, прадпрыемствах, слабое разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, недастатковая ўвага некаторых колгасаў і ўстаноў да разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, як асноўнай галіны сельскай гаспадаркі, па ўкомплектаваньню таварных фэрм стадам, сваечасоваму выкарыстаньню крэдытаў, маруднасьць тэмпаў будаўніцтва як бюджэтнага, так і колгаснага. Недаацэнка ў некаторых колгасах ролі брыгады, як асноўнага вытворчага зьвяна. Наяўнасьць момантаў абязьлічкі, наяўнасьць парушэньня рэволюцыйнай законнасьці.

У далейшым перад раённымі організацыямі і ўстановамі стаіць задача поўнага выкананьня плянаў 4-га завяршаючага году пяцігодкі. Разгортваньне работы па складаньню плянаў, прапрацоўцы і ажыцьцяўленьню другой пяцігодкі—пяцігодкі бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

---

**А. Кудрын**

# Прыклад соцыялістычных форм працы

*(На сьвінакомбінаце савгасу „Вусьце“ Аршанскага раёну)*

Да Кастрычнікавай рэволюцыі — 15 год таму назад—тут быў абшарніцкі маёнтак. Прыгожыя мясьціны ўмелі выбіраць для свайго жыцьця абшарнікі — у сямі кілёмэтрах ад гораду Воршы і амаль на самым беразе р. Дняпро.

Кастрычнік перадаў абшарніцкі маёнтак „Вусьце“ ва ўладаньне рабочых і сялян. Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі тут стаў савгас „Вусьце“...

Да 1929 году савгас „Вусьце“ быў экономічна слабою зерняаой гаспадаркай, патрабаўшай укладаньня значных сродкаў. Але з гэтага году сілай колектыву рабочых савгасу, пад кіраўніцтвам партыі і пролетарскай дзяржавы, гаспадарка пачала заметна і шпарка расьці і зараз ужо дае прыбытак.

## *Перад цяжкасьцямі не адступілі*

Два гады таму назад савгасу надалі сьвінагадоўчы напрамак. У сувязі з гэтым трэба было перабудаваць усю гаспадарку. Асабліва цяжкой для сьвіней была першая зіма. Памяшканьняў належных і добра прыстасаваных ня было. Догляд і ўтрыманьне сьвіней ня былі наладжаны. У выніку адыход маладняка дасягаў амаль усіх 100%. У студзені мінулага году савгас меў усяго 97 сьвінаматак, 6 кныроў і 28 галоў рамонтнага маладняку. Усе сьвіньні былі ў надта дрэнных умовах. Праўда, пабудову сьвінарніка распачалі яшчэ ў 1930 годзе, але яна ня была скончана, бо не хапала будаўнічых матар'ялаў і рабочай сілы.

У такіх абставінах бальшавікі савгасу „Вусьце“ пачалі змагацца за вырашэньне мясной проблемы, не спасавалі перад цяжкасьцямі, па-ўдарнаму ўзяліся за работу. На агульным сходзе партыйнай ячэйкі была вынесена пастанова цяпер-жа зімой скончыць пабудову сьвінарніка і перавесьці ў яго сьвінаматак з парасятамі.

Была другая цяжкасьць ня менш важная. Для работы на сьвінарніку, на сьвіным двары патрэбны былі людзі, якія-б працавалі аддана, якія-б па-бальшавіцку справіліся з цяжкасьцямі, наладзілі-б справу сьвінагадоўлі, догляду і ўтрыманьня сьвіней.

Знайсьці такіх людзей было ня лёгка. Клясавы ворга—кулак і падкулачнік, імкнучыся сарваць пасьпяховае разгортваньне сьві-

нагадоўлі, ставіў палкі ў калёсы... — Нічога з вашых сьвіней ня будзе. — Сьвінарку ніхто і замуж ня возьме, — сіпелі кулакі, — бо добрая дзяўчына ня пойдзе працаваць на сьвінарніку.

І да працуючых на сьвінарніках адносіліся з пагардай. „Сьвінар“ — гэта слова выгаварвалася з насьмешкаю, з нейкай агіднасьцю. Таму сапраўды спачатку мала хто хацеў ісьці працаваць на сьвінарніку. Першую брэш у гэтых настроях прабілі рабочыя ўдарнікі савгасу — Пуцкалева Хіма, Арашкевіч Янка і Берасьнева Ганна, якія парашылі перайсьці працаваць на сьвінарніку.

Па-ўдарнаму яны ўзяліся за работу. Каб падтрымаць абсолютную чыстату на сьвінарніку, яны кожны дзень яго два разы мылі, ня гледзячы на зімнія халады. Для ацяпленьня сьвінарніка здабылі печы. Сталі часта дэзынфэцыраваць сьвінарнік. Кожнаму парасяці давалі штодзенна раствор марганцавага калі. Лыжачкай ў рот ўлівалі парасятам гэта лякарства.

Асабліва праявіла сябе ў барацьбе за належнае ўтрыманьне сьвіней, за захаваньне парасят, у барацьбе з цяжкасьцямі Хіма **Пуцкалева.** Успамінаючы гэты час, Хіма кажа:

„Даволі цяжка было працаваць на сьвінарніку, ды і далёка было хадзіць на сьвіны двор, які знаходзіцца ў кілёмэтры ад савгасу. Ня вельмі смачна было хадзіць узімку, у мяцеліцу на сьвінарнік, затое перамога на нашым баку“.

Крывая адыходу парасят хутка пайшла ўніз. Калі ў студзені адыход парасят па савгасу складаў 95%, дык у лютым ён зьнізіўся да 60%, у сакавіку — да 10% і ў красавіку — да 3%. Праўда, у сувязі з паратыфам адыход пасьля стаў зноў павялічвацца і дахолзіў да 17%, але ў жніўні — ён зноў ўжо складаў 3%.

### *Яна аддана сваёй справе*

Мне даволі часта даводзіцца бываць ў савгасе „Вусьце“ і цікавіцца сановішчам сьвінагадоўлі. Я ўспамінаю мінулы год, калі я першы раз папаў на сьвінагарадок савгасу. Аб Хіме Пуцкалевай, як лепшай ўдарніцы-сьвінарцы гаварылі ўсе рабочыя ў савгасе. Расказвалі, што ў яе на сьвінарніку няма адыходу, што там чыстата, лепей чым у астатніх і г. д.

Пабываўшы ў некаторых сьвінарніках, мы пайшлі, нарэшце, ў сьвінарнік да Хімы Пуцкалевай. Пакуль падыйшла старэйшая сьвінарка, Хіма нас у свой сьвінарнік ня пусьціла. Такі парадак устаноўлены на сьвінагарадку, што без дазволу зоотэхніка, альбо старэйшай сьвінаркі нікога ў сьвінарнік ня пусьцяць. У гутарцы з Хімай тут-жа каля сьвінарніку мы ўцэўніліся, што яна добра ведае задачу, якая пастаўлена перад сьвінагадоўчымі савгасамі.

— Галоўныя цяжкасьці прайшлі, — казала Хіма. — Зараз наша баявая задача поўнасьцю ліквідаваць адыход, наладзіць догляд і ўтрыманьне сьвіней і маладняку так, каб кожны апарос даваў ня менш тоны мяса ў шасьцімесячным узросьце. Мы гэтага дабьемся...

Падышла старэйшая сьвінарка т. Жданава і нас прапускаюць ў сьвінарнік...

Вось гэта дык сапраўдная чыстата. Падлога і ўсё, што знаходзіцца ў сьвінарніку чысьценка вымыта. Каб і хацеў тут дзе-

небудзь знайсьці гразь, дык нельга. На сухой падлозе ў станкох ляжалі белыя, чыстыя гладкія парасяты, подсьвінкі і дарослыя сьвінаматкі.

Усе работы на сьвінарніку пераведзены на зьдзельшчыну яшчэ з мінулага году. Хіма з дапамогай броньвучня абслугоўвае 27 дарослых матак, 60 парасят ва ўзросьце ад 3 да 4 месяцаў і 106 подсьвінкаў ад 4 да 5 месяцаў. Усю гэту сямейку Хіма карміла, даглядала за ёю, мыла і чысьціла сьвінарнік. Работы вельмі многа, але ў Хімы ўсё ў парадку, усё зроблена было сваечасова, бо яна працавала раней, як і зараз працуе з вялікай адданасьцю справе. На сьвінарнік Хіма прыходзіць раней за ўсіх і пакідае яго пазьней за ўсіх. А калі бывае захварэе парася, Хіма і ў начы прыдзе на сьвінарнік і калі патрэбна парасяці дапамога, яна ад ўсіх гэтай дапамогі даб'ецца.

За сваю ўдарную работу на сьвінарніку, за прыкладную пастаноўку ўтрыманьня і догляду за маладняком і наогул за свіньнямі Хіма Пуцкалева тры разы прэміявана ў мінулым годзе.

### *У заключным годзе пяцігодкі*

Сёлета Хіма Пуцкалева яшчэ больш праявіла сябе на рабоце ў сьвінакомбінаце. У той час, як у іншых сьвінарак адыход быў і нават даволі значны, у Хімы на сьвінарніку яго амаль няма.

З мая месяца гэтага году Хіма працуе брыгадзірам на сьвінарніку па адкорму і вырашчваньню маладняку для рамонту стада. Адыход па яе сьвінарніку не складаў нават і процанту на працягу ўсяго лета.

Адначасова Хіма ў маі месяцы працавала і на хворым сьвінарніку, дзе адыход складаў 18%. За месяц работы на гэтым сьвінарніку Хіма дабілася замяншэньня адыходу на 50%.

Усю мінулую зіму ў Хімы ня было ніводнага процанту адыходу, а між тым яе брыгада абслугоўвала 250 галоў маладняку. І гэта ў той час, калі нават у лепшых ўдарніц, як, напрыклад, у Канавалавай Каці адыход складаў 7%, па брыгадзе Селіхановіч— 6,3%, па брыгадае Максімюка — 8,7% і г. д.

Працуючы як ударніца Хіма ўдасканальвае справу догляду і ўтрыманьня сьвіней. Яна ўнесла многа каштоўных прапаноў. Каб лепш захоўваць чыстату ў сьвінарніках і ў прыватнасьці чыстату ў кармушках, Хіма прапанавала іх зрабіць не прымацаванымі, а ўстаўнымі. Так і зрабілі. Зараз ёсьць магчымасьць пакарміўшы сьвіней вымыць адразу кармушкі. Гэта таксама дае магчымасьць папярэджваць і захворваньні. Па яе прапанове ў саўгасе зараз зьменена і форма скрынак для прыёмкі парасят. Раней скрынкі былі роўныя і сьвінаматкі маглі даставаць адтуль парасят. Каб пазьбегнуць гэтага, Пуцкалева прапанавала зрабіць скрынкі вузейшымі ўверх і цяпер сьвінаматка ня можа дастаць парасё ў гэткай скрынцы. Раней у скрынкі з парасятамі ставілі бутэлькі з цёплай вадой, каб парасяты маглі грэцца. Бутэлькі хутка астывалі і іх вельмі многа трэба было. Па прапанове Хімы замест бутэляк з цёплай вадой ў скрынку з парасятамі зараз ставяць ведры з цеплай вадой. І яшчэ цэлы рад іншых каштоўных пра-

паноў унесла Хіма, якія ўсе правадзены ў жыцьцё на сьвінакомбінаце.

Калі ў красавіку гэтага году на вытворчай нарадзе абгаварвалася пытаньне аб вылучэньні сьвінароў ў брігадзіры, кандыдатура Хімы была аднагалосна прынята. На пасадзе брыгадзіра яна поўнасьцю спраўляецца з работай.

Як толькі быў абвешчаны ўсесаюзны конкурс на лепшага сьвінара, Хіма Пуцкалева адразу ў яго ўключылася і ўступіла ў спаборніцтва з астатнімі сьвінарамі свайго сьвінакомбінату на лепшае выкананьне паказчыкаў конкурсу. І яна іх выконвае.

*Хто такая Хіма Пуцкалева*

Пуцкалевай зараз 23 гады. Паходзіць яна з беднай сялянскай сям'і з в. Тарчылава, Яромкаўскага сельсавету Аршанскага раёну. На 8 душ у бацькі Хімы было 2 гэктары зямлі. Зараз бацька ў колгасе.

Хіма жыла ў бацькоў да тых пор, пакуль дапамагла матцы падрасьціць дзяцей. Пасьля гэтага трэба было ісьці куды-небудзь шукаць работу. Хіма знайшла работу ў савгасе і калі патрабавалася працаваць на сьвінарніку, яна не пабаялася цяжкіх умоў, пайшла і сваёй работай, сваім прыкладам падцягвала адстаючых сьвінароў, паказвала як трэба змагацца за вырашэньне мясной проблемы, як трэба працаваць. Для Хімы Пуцкалевай праца на сьвінарніку зьявілася „справай гонару, славы, доблесьці і геройства“. Яна паказала як трэба працаваць і зараз ужо ў савгасе „Вусьце“ да сьвінара не адносяцца пагардліва, як гэта было раней.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, улічваючы адданую работу Пуцкалевай, як змагара за выкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб разгортваньні соцыялістычнай сьвінагадоўлі—узнагародзіў яе Ордэнам Працоўнага Чырвонага Сьцягу.

Прыкладу Пуцкалевай Хімы павінны сьледваць ўсё сьвінары і сьвінаркі сьвінагадоўчых савгасаў і колгасаў. Прыкладу Пуцкалевай павінны сьледваць ўсе працоўныя, змагаючыся за пасьпяховае завяршэньне пяцігодкі ў тры гады, за пабудову фундаманту для другой пяцігодкі — пяцігодкі пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

*Саўгас расьце і мацнее*

Адданасьць справе Пуцкалевай і ўсіх іншых ўдарнікаў савгасу „Вусьце“ далі яму магчымасьць пераможна выйсьці з тых цяжкасьцяў, якія былі на шляху яго разьвіцьця як соцыялістычнай фабрыкі мяса. Гэта-ж дае яму магчымасьць і зараз, пад кіраўніцтвам партыйнай організацыі, перамагаць тыя цяжкасьці, ліквідаваць тыя недахопы, якія яшчэ ў савгасе на сёнешні дзень не ліквідаваны.

Мінулы год саўгас поўнасьцю выканаў гадавыя пляны комплектаваньня і здачы таварнай продукцыі. У гэтым годзе замест 280 сьвінаматак, у савгасе іх ёсьць 302. Кныроў — 15. Агульнае пагалоўе складае 1.618 сьвіней. Плян здачы таварнай продукцыі выкананы на 50 проц.

К. Д. Іваноў

# Колькасьць і склад беларускіх лясоў

Увесь лясны фонд Беларусі складаецца з 3.136.000 гэктараў лясоў дзяржаўнага значэньня і 626.000 гэктараў лясоў мясцовага значэньня, а ўсяго 3.762.000 га, з якіх выгодных лясных плошчаў 85,7%, нявыгодных 10,7%, сельска-гаспадарчых угодзьдзяў 2,7% і пад дарогамі, просекамі і інш. 0,9%. [1]

Дрэвастаны Беларусі складаюцца з наступных дрэўных парод: хвоі, елкі, дубу, ясену, клёну, вольхі, бярозы, грабу, асіны, ліпы і іншых парод. Пануючай породай зьяўляецца *хвоя*, якая, дзякуючы сваёй малой вымагальнасьці да клімату і глебы, распаўсюджана па ўсёй тэрыторыі краіны. Яна стварае чыстыя дрэвастаны, якія іншы раз займаюць вельмі значныя плошчы, а таксама ўваходзіць і ў склад мяшаных. Лепшыя хваёвыя дрэвастаны растуць на мясцох некалькі ўзвышаных з пяшчанай або супяшчанай сьвежай і глыбокай глебай. На такіх глебах хвоя вызначаецца драўнінай высокай якасьці, роўнамернасьцю пабудовы сваіх пластоў, смалістасьцю, большым ядром чырванаватага колеру, тонкай абалонкай і завецца рудовай або кандовай. Хвоя-ж, якая вырасла пры мала спрыяючых глебавых умовах, мае шырокую абалонку і малое ядро, драўніна яе мяккая, маласмалістая і белага колеру, гэта, так званая, мяндовая хвоя.

Ужываньне драўніны хвоі надзвычайна рознастайнае; з яе робяць бярвеньні, балькі, мачты, брусьсі, шпалы, піловачны матар'ял, драні, бандарную клёпку і інш., з пнёвай каранёвай часткі атрымліваюць смалу, шкіпінар і вугаль, а пры „падсочцы“ хвоі атрымліваюць жывіцу, якую пераапрацоўваюць у каніфолю і шкіпінар; з ігліц здабываюць хваёвае масла і хваёвую шэрсьць і г. д.

*Елка* на поўнач ад МББ чыгункі займае ад 30 да 40% іглатых дрэвастанаў, дзе яна нярэдка стварае чыстыя дрэвастаны, на поўдзень-жа ад гэтай лініі колькасьць яе паступова зьмяншаецца, складаючы ў Меншчыне і Магілеўшчыне дамешку да іншых парод каля 20%, у Бабруйшчыне каля 10%, а ў Мазыршчыне яна трапляецца талькі адзінкава. Да глебы елка значна больш зыскоўная, чым хвоя. Лепш за ўсё елка расьце на глебе сьвежай і грузкай, даволі добра яна расьце таксама і на менш урадлівых глебах, калі яны даволі вільготныя, але лішку вільгаці

[1] Як гэтыя лічбы, так і далейшыя прыводзяцца на падставе даных трэсту „Лесбел“.

яна не пераносіць, як не пераносіць і глебы вельмі сухой і пяшчанай.

Драўніна елкі, як будаўнічы матар'ял і як апал, па сваёй якасьці ніжэй, чым хваёвая драўніна: яна мякчэй, лягчэй, менш трывалая і менш смалістая. З гэтай прычыны яловая драўніна пераважна ўжываецца ў тых выпадках, дзе патрэбен лёгкі матар'ял: на скрыні для пакаваньня, на кроквы, на абшыўку барлін і іншых суднаў і, дзякуючы роўнамернаму разьмеркаваньню яе валокнаў,—на дошкі для музычных струмантаў. Апрача таго, яловая драўніна пад назвай „папергольц" ідзе для вырабу паперы і цэлюлёзы, а яловая кара—на выраб скур.

Разам з хвояй і елкай вельмі часта расьце *бяроза*, якая з усіх ліставых парод зьяўляецца ў нас найбольш распаўсюджанай, бо яна вельмі непераборліва да глебы, але яна трапляецца ня толькі як дамешка да іншых парод, а стварае таксама і чыстыя дрэвастаны. Асабліва часта бяроза зьяўляецца на іглястых высечках і пажарышчах, якія яна звычайна займае часова, а потым зноў уступае іх іглястым пародам, прычым гэтая зьява носіць назву зьмены дрэўных парод.

Бярозавая драўніна ідзе на мэблю, сельска-гаспадарчыя прылады, на калёсы, дае надзвычайна добрыя дровы і выдатны вугаль. Ужываецца таксама ў такарнай і сталярнай справе, у якой асабліва цэніцца так званая „чачоткавая бяроза", бо драўніна яе мае сьвіляватую пабудову з цёмнымі жылкамі паміж хваліста пагнутых валокнаў.

Побач з бярозай, па свайму распаўсюджаньню, павінна быць пастаўлена *асіна*, якая стварае чыстыя дрэвастаны, а таксама ўваходзіць у мяшаныя і такім-жа чынам, як і бяроза, запаўняе сабою іглястыя высечкі і пажарышчы. Як вядома, драўніна асіны лёгкая і мaккая, але ў сухім відзе яна даволі моцная і цьвёрдая і таму ў тых мясцовасьцях, дзе параўнальна мала іглястых дрэўных парод, ідзе на пабудову хат і іншых будынкаў.

Апрача таго, драўніна асіны ўжываецца на гонты, на скрыні і стружкі для пакаваньня тавараў, на такарныя і бандарныя вырабы, на штучны шоўк і асабліва на драўлянае начыньне, у запалкавай-жа прамысловасьці незаменна, бо найлепшым, амаль адзіным, матар'ялам для запалак і для запалкавых карабкоў зьяўляецца драўніна асіны, але асінавыя дровы вельмі нявысокай якасьці.

*Дуб* у Беларусі распаўсюджаны, галоўным чынам, на поўдзень ад МББ чыгункі, пераважна ў Бабруйшчыне, Гомельшчыне і Мазыршчыне, асабліва-ж каштоўныя чыстыя дубовыя дрэвастаны знаходзяцца ў Буда-Кашалёўскай дачы (паміж Жлобінам і Гомелем). Дуб вельмі вымагальны да глебы. Найбольш спрыяючай для яго глебай зьяўляецца сьвежая глеба са значнай дамешкай перагнойных пажыўных матэрый. Расьце дуб таксама добра на суглінках і нават на пяскох, калі глеба даволі вільготная, але ва ўсякім разе яна павінна быць глыбокай. Мокрай-жа глебы дуб ня любіць. Драўніна дубу вызначаецца вельмі высокай якасьцю і вельмі каштоўна: яна гнуткая, цьвёрдая і надзвычайна трывалая як у паветры, так і ў вадзе, чаму яна ўжываецца для вельмі match рознастайных мэт.

*Ясен і клён* трапляюцца толькі ў якасьці дамешкі да іншых дрэўных парод на добрых, ўрадлівых, з здавальняючай колькасьцю перагною і вільгаці глебах, прычым ясен патрабуе, апрача таго, каб у глебе была дамешка вапны. Драўніна ясеня пругкая, гнутая, цьвёрдая і дзеля таго мае шырокае ўжываньне ў сталярнай справе для вырабу мэблі, вобадаў, палозьзяў, для пабудовы самалётаў і г. д.

Драўніна клёну таксама цьвёрдая і трывалая, але яна менш гнуткая і ідзе на выраб шавецкіх цвікоў і розных сельска-гаспадарчых прылад, а таксама ўжываецца ў сталярнай і такарнай справе, а разам з тым дае і вельмі добрыя дровы.

Распаўсюджаньне *грабу* ў беларускіх лясох проста процілежна распаўсюджаньню елкі: у паўночных мясцовасьцях ён трапляецца толькі адзінкава, тады, як у паўднёвых—ён складае значную дамешку да іншых парод на адпаведных глебах, але граб ня вельмі вымагальны да глебы, ён даволі добра расьце нават на глебах сухіх і няглыбокіх. Грабовая драўніна надзвычайна цьвёрдая, трывалая і бліскучая. Ужываецца яна звычайна на зубы для млыновых колаў, на шавецкія цьвікі, на такарныя вырабы і інш., грабовыя-ж дровы зьяўляюцца аднымі з найлепшых.

Даволі значыя прасторы ў лясох Беларусі займае яшчэ *чорная вольха*, якая стварае ў нізінах і вільготных мясцох усьцяж рэк характэрныя чыстыя дрэвастаны, так званыя, „чорна-альховыя дрыгвы“ або „алёсы“, у якіх вольха вызначаецца добрым ростам. Драўніна чорнай вольхі мяккая, лёгкая, добра рэжацца і хутка чырванее ў разрэзе; апрача таго, яна вельмі трывалая ў вадзе, чаму і ўжываецца пры падводных пабудовах. Ужываецца таксама драўніна чорнае вольхі ў сталярнай справе, на фанеру, на скрыні для пакаваньня тавараў і дае добрыя дровы.

*Ліпа* трапляецца ўсюды, але выключна ў відзе дамешкі да іншых дрэўных парод; часьцей за ўсё разам з дубам, ясенам і клёнам, бо яна, як і гэтыя пароды, любіць добрую, сьвежую, глыбокую, багатую на перагной глебу.

Драўніна ліпы мяккая і лёгкая; як будаўнічы матар'ял і як апал ня вельмі каштоўная, але яна высока цэніцца ў сталярнай і такарнай справе, ідзе таксама на шавецкія капылы, на драўлянае начыньне, цацкі інш. Кара старой ліпы ідзе на лубкі, сярэдняга ўзросту—на мачульле, а маладых дрэў—на лыка для пляценьня лапцяў, кашалёў і г. д.

Іншыя дрэўныя пароды, як, напрыклад: вяз, лём, рабіна і вярба трапляюцца ў лясох Беларусі адзінкава і асаблівага значэньня ня маюць. Трэба толькі адзначыць, што маладыя дрэвы вярбы ідуць на дугі і што кара вярбы зьяўляецца вельмі добрым гарбоўным матар'ялам.

З куставых парод трэба памянуць аб *шалюзе*. Шалюга—гэта асобны від вярбы, якая надзвычайна добра расьце на пяскох, мае вельмі доўгія карэньні і лёгка разводзіцца зразкамі і дубцамі, чым і карыстаюцца для замацаваньня шалюгай лятучых пяскоў і падрыхтоўкі іх для залясеньня.

Галоўныя з вышэйпамянёных дрэўных парод ствараюць як чыстыя, так і мяшаныя дрэвастаны, прычым апошнія займаюць значна большыя прасторы, чым першыя. Найбольш распаўсюджанымі дрэвастанамі зьяўляюцца іглястыя (чыстыя або з перавагаю іглястых), якія складаюць 69% агульнай лясной плошчы Беларусі; наступнае месца па колькасьці займаюць дрэвастаны ліставых лёгкіх парод—17,8%, далей ідуць альховыя дрэвастаны—7,6% і самы малы прастор знаходзіцца пад дубова-ясенавымі дрэвастанамі—5,6.

Аднак, для таго, каб мець больш-менш яснае прадстаўленьне аб лясох Беларусі мала яшчэ ведаць іх плошчу і склад, вельмі важна яшчэ таксама ведаць іх становішча, г. зн. іх гушчыню, іх узрост і колькасьць драўніны, якая маецца ў наяўнасьці ў іх дрэвастанах. Гушчыня дравастанаў у лесаводзтве называецца *паўнатой* . Той дрэвастан, у якім кароны (верхавіны) дрэў зусім злучаюцца і паміж імі ўжо нельга зьмясьціць ніводнага дрэва, завецца поўным. Значыцца, поўным дрэвастанам трэба лічыць такі дрэвастан, у якім на адзінцы плошчы маецца найбольшая колькасьць дрэў пры данай глебе і даных умовах. Такая паўната вызначаецца ў дзесятковых дробах. Так, напрыклад: калі дрэвастан зрэджаны напалову, дык паўната дрэвастану вызначавцца ў 0,5, калі не хапае $^{2}/_{5}$ дрэў (або 0,4) паўната будзе 0,6 і г. д. Дрэвастаны з паўнатой у 1 сустракаюцца параўнальна рэдка, дрэвастаны з паўнатой у 0,8-0,9 лічацца дрэвастанамі з вельмі добрай паўнатою, паўната ў 0,6-0,7 зьяўлаецца сярэдняй, паўната ў 0,3—0,5 лічыцца ўжо вельмі малой, а паўната ў 0,1-0,2 завецца рэдкалесьсем.

У беларускіх лясох паўната вельмі рознастайна; гэта абумаўляецца, галоўным чынам, тым, што ў былых абшарніцкіх лясох у большасьці выпадкаў вяліся бязьлітасныя высечкі, бяз усякага парадку і з гэтай прычыны сярэдняя паўната нашых лясоў у сучасны момант усяго толькі 0,5-0,6.

Узрост дрэвастанаў у лесаводзтве вызначаецца не дакладным лікам гадоў, а клясамі ўзросту. Для іглястых дрэвастанаў, а таксама для цьвёрдых ліставых парод (дубу і ясену) устаноўлены наступныя клясы ўзросту: I кл. ад 0 да 20 гадоў; II кл. ад 21 да 40 г.; III кл. ад 41 да 60 г.; IV кл. ад 61 да 80 г.; V кл. ад 81 да 100 г. і VI кл. ад 101 да 120 гадоў, а для мяккіх ліставых парод—I кл. ад 1 да 10 гадоў; II кл. ад 11 да 20 гад.; III кл. ад 21 да 30 г.; IV кл. ад 31 да 40 г.; V кл. ад 41 да 50 г. і г. д., прычым дрэвастаны I клясы ўзросту завуцца маладнякамі, II клясы—жарднякамі, III клясы—сярэдняўзроставымі, IV клясы—дасьпяваючымі і V клясы—сьпелымі.

На падставе прыведзенага вызначэньня ўзросту дрэвастанаў—дрэвастаны дзяржаўных лясоў Беларусі разьмяркоўваюцца згодна наступнай табліцы, у якой паказаны як плошчы дрэвастанаў кожнай пароды і процант іх да агульнай плошчы лясоў, так і процантныя суадносіны іх узросту ў дрэвастанах кожнай пароды.

| Назва дрэвастанаў | Плошча ў гэктарах | Суадносіны ўзросту ў дрэвастанах | | | | У %% да агульн. плошчы лясоў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Маладняк і жардняк I і II кл. | Сярэдня-ўзроставыя III кл. | Дасьпяваючых IV кл. | Сьпелых V і VI кл. | |
| Іглястых . . . . | 1607000 | 41% | 20% | 17% | 22% | 69 |
| Дубова-сенав.. . | 131000 | 14% | 43% | 26% | 17% | 5,6 |
| Альховых . . . | 176000 | 29% | 25% | 17% | 29% | 7,6 |
| Інш. мяккіх ліставых парод . . | 414000 | 35% | 27% | 19% | 19% | 17,8 |

З гэтай табліцы мы бачым: па-1-ае, што найбольшую плошчу займаюць іглястыя дрэвастаны (69%), далей ідуць мяккія ліставыя пароды (17,8%), потым альховыя (7,6%) і нарэшце, дубова-ясенавыя (усяго 5,6%) і, па-2-ое, што ва ўсіх дрэвастанах пераважаюць маладнякі і сярэдня-ўзроставыя дрэвастаны. Так, у іглястых дрэвастанах іх (41+20)—61%; у дубова-ясенавых (14+43)—57%; у альховых (29+25)—54% і ў дрэвастанах мяккіх ліставых парод (35+27)—62% і, такім чынам, дасьпяваючыя і сьпелыя дрэвастаны складаюць толькі некалькі больш, чым 1/3 частку ўсіх дрэвастанаў.

Колькасьць драўніны, або яе маса, у дрэвастанах вызначаецца так званым запасам драўніны на адзінцы плошчы, звычайна на гэктары, гэта ёсьць сума аб'ёмаў усіх дрэў, якая вылічаецца пры таксацыі лесу шляхам суцэльнага пераліку ўсіх дрэў з вымярэньнем іх дыямэтраў на вызначанай плошчы.[1] Запас або сума аб'ёмаў усіх дрэў зьяўляецца найбольш важнай і істотнай азнакай, якая характарызуе дрэвастаны з таксацыйнага пункту погляду. Ён залежыць ня толькі ад складу дрэвастанаў, іх узросту і паўнаты, але і ад глебы, а таксама і ад умоў месца-вырастаньня, бо глебай і ўмовамі месца-вырастаньня абумаўляецца ход росту дрэвастану, г./зн. іх вытворчасьць. Звычайна вызначэньне запасаў утвараецца ў тых сьпелых дрэвастанах, якія прызначаюцца на высечку. Так вось, па даным, атрыманым пры пераліку дрэў на лесасеках, прызначаных на высечку на 1930/31 год, вызначалася, што сярэдні запас на 1 гэктары ў іглястых дрэвастанах—162 куб. мэтр., у дубова-ясенавых — 196 кб/м, у альховых — 234 кб/м і ў ліставых мяккіх парод 160 кб/м, а ў сярэднім 167 кб/м.

Значыцца, найбольшы запас драўніны маюць альховыя дрэвастаны, а найменшы—дрэвастаны мяккіх ліставых парод.

Ня трэба, аднак, думаць, што ў іглястых дрэвастанах атрымліваецца толькі драўніна іглястых парод, у дубова-ясенавых толькі дубовыя і ясенавыя, а ў альховых—толькі альховыя, бо ва ўсіх дрэвастанах звычайна маецца дамешка іншых парод. У нашых лясох маса драўніны паасобных парод у процантных адносінах

[1] Гл. маю кнігу „Організацыя лясной гаспадаркі і карыстаньне лесам".— Дз. В. Б. 1932 г.

да агульнай масы разьмяркоўваецца ў дрэвастанах наступным чынам:

У ігластых дрэвастанах: хвоі 50,2%, елкі 24,5%, бярозы 10,8%, асіны 6,5%, дубу 3,1%, вольхі 3,4% і іншых дрэўных парод—1,5%.

У дубова-ясенавых дрэвастанах—дубу каля 41%, ясену—4,5%, вольхі 11,6%, асіны 9,5%, бярозы 7,6%, елкі 8,2% і 17,6% іншыя дрэўныя пароды.

У альховых дрэвастанах—вольхі каля 62,6%, елкі 11%, бярозы 8%, ясену—4,4%, дубу 5,2% і 8,8% іншыя дрэўныя пароды.

У ліставых—бярозы каля 25%, асіны 20%, вольхі 14%, елкі 17,5% і 23,5% іншыя дрэўныя пароды.

Што датычыцца лясоў мясцовага значэньня, агульная плошча якіх складае 626.000 га і якія зьяўляюцца часткай адзінага дзяржаўнага ляснога фонду, дык яны перадany ў бестэрміновае карыстаньне колгасам, саўгасам і іншым аб'яднаньням працоўнага бядняцка-серадняцкага насельніцтва з мэтай: па-першае, каб найбольш забясьпечыць драўнінай як грамадзкія, так і іншыя сельска-гаспадарчыя патрэбы; па-другое, каб наблізіць і азнаёміць працоўнае насельніцтва са справай вядзеньня правільнай лясной гаспадаркі, а разам з тым з процэсамі і работамі, якія пры гэтым выконваюцца і, па-трэцяе, каб зьнішчыць церазпалосіцу.

У склад лясоў мясцовага значэньня ўвайшлі былыя сялянскія лясы як надзельныя, так і пакупныя, а таксама больш-менш невялікія ўчасткі дзяржаўных лясоў, якія ўкліньваліся ў сельска-гаспадарчыя землі, прычым яны перадаваліся ня былым іх карыстальнікам, а грамадам і таварыствам у адпаведнасьці з іх патрэбамі, бо толькі пры гэтай умове можна організаваць правільную лясную гаспадарку і мэтазгодным чынам скарыстаць драўніну. Перадача лясоў мясцовага значэньня суправаджалася складаньнем вызначаных умоў, паводле якіх на лесакарыстальнікаў ускладаліся вядомыя абавязкі аб ахове лесу, аб вядзеньні правільнай лясной гаспадаркі, аб кіраваньні і г. д.

Лясы мясцовага значэньня на 62% складаюцца з ігластых дрэўных парод, пераважна маладнякоў і на 38% з ліставых парод, з больш роўнамерным разьмеркаваньнем па ўзростам.

Што-ж датычыцца да запасу ў лясох мясцовага значэньня, дык ён вельмі рознастайны ў залежнасьці ад ступені іх зрэджваньня самачыннымі высечкамі; у сьпелых ігластых дрэвастанах ён хістаецца ад 30 да 180 кубамэтраў на гэктар, а ў ліставых ад 5 да 140 кб/м. На жаль, яшчэ да апошняга часу наглядаюцца мала сьвядомыя і мала ашчадныя адносіны мясцовага насельніцтва да лясоў мясцовага значэньня, але трэба чакаць, што ў сувязі з суцэльнай колектывізацыяй бядняцка-серадняцкага насельніцтва, калі ўсе лясы мясцовага значэньня будуць знаходзіцца ў веданьні колгасаў, бязумоўна, палепшыцца і стан лясной гаспадаркі гэтых лясоў.

В. Міхайлоўская

# Аб расьліннасьці Дзяржаўнага паляўнічага запаведніку

Для правільнай організацыі паляўнічай гаспадаркі, бязумоўна, вельмі важнае значэньне мае вывучэньне прыродных умоў жыцьця дзікіх зьвяроў і побач з тым вывучэньне прыроды і асабліва-сьцяў гэтых апошніх. З гэтага пункту погляду для нас вельмі цікавай зьяўляецца расьліннасьць запаведніку, бо гэтая расьліннасьць, даючы прытулак і страву, у першую чаргу абумаўляе жыцьцё зьвяроў.

На тэрыторыі запаведніку гэтая расьліннасьць выражаецца панаваньнем лясоў розных тыпаў. З агульнай плошчы ў 72.090 гэктараў, на долю лясоў (па даным Лесбелу) прыходзіцца 55.535 га, што складае больш, як ²/₃ усёй тэрыторыі. Побач з лясамі сустракаем і балоты, якія месцамі займаюць значныя плошчы, часта вельмі цяжка праходныя. Найбольш значныя і, як відаць, найбольш добраякасныя лугі прыстасоўваюцца да даліны р. Бярэзіны, якая працякае па заходняй частцы запаведніку. Апроч таго сустракаем лугі і ў поймах дробных рэк (Бузянка, Дзеражына) і на берагох вазёр (Домжарыцкае, Пялік). Выкарыстоўваюцца пад сенажаць асаковыя балоты і лясныя сенакосы.

Лясы запаведніку даволі рознастайныя па свайму складу. На больш узвышаных і сухіх участках сустракаем „бор". Тут у дрэўным паверсе звычайна пануе сасна (Pinus silvestris) з дамешкаю бярозы (Betula verrucosa). У травяным акрыцьці часьцей пераважае верас (Calluna vulgaris) або чарніца (Vaccinium myrtillus). Сустракаюцца і такія часткі бору, дзе зямля пакрыта густым насьцілам з зялёных імхоў (Pleurozium schreberi, Dicranum undulatum, Hylocomium proliferum). Часта да сасны дамешваецца і елка (Picea excelsa), утвараючы мяшаныя ялова-хваёвыя дрэвастаны.

З яловых лясоў часьцей за ўсё сустракаюцца т. зв. „вастравы", дзе да елкі дамешваецца некаторая колькасьць шыракаліставых парод—клён, ліпа (Tilia parvifolia), дуб (Quercus pedunculata), на больш нізкіх мясьцінах ясен (Fraxinus excelsior) і вольха (Alnus glutinosa). Сярод такіх мяшаных ельнікаў ёсьць магчымасьць выдзеліць цэлы рад тыпаў, якія адрозьніваюцца адзін ад другога або па складу свайго травянога акрыцьця, або па характару падлеску: 1) ельнік з падлескам з ліпы (Tilia parvifolia)—травяное акрыцьцё тут даволі рознастайнае, імхі сустракаюцца плямамі і на паваленых дрэвах і г. д.; 2) ельнік з падлескам з ляшчыны

(Corylus avellana); 3) ельнік-кісьлічнік, дзе кісьліца (Oxalis acetosella) пакрывае зямлю суцэльным, сьветла-зялёным дываном; 4) ельнік-зялёнамошнік, дзе беднасьць травянога акрыцьця компэнсуецца пышна разьвітым паверхам з зялёных імхоў. Вельмі цікавыя ельнікі, амаль што чыстага складу, можна наглядаць у I раёне запаведніку на той бок Бярэзіны, дзе такі лес займае даволі значную плошчу, прадстаўлены амаль што чыстаю елкаю з нязначнаю дамешкаю асіны (Populus tremula) і толькі месцамі з нязначнаю дамешкаю іншых ліставых парод. Гэты стары яловы лес даволі значнай паўнаты характарызуецца моцна разьвітым мохавым насьцілам.

Алешнікі займаюць паніжаныя месцы і часьцей за ўсё знаходзяцца ў сувязі з якою-небудзь ракою. Сустракаюцца алешнікі ў пойме р. Бярэзіны, каля возера Пялік, усе дробныя лясныя рэчкі, на якіх бабры будуюць свае хаты, цякуць у такіх алешніках. Такія ўчасткі, па мясцовай назьве „лугі", звычайна маюць яшчэ дамешку елкі і зьяўляюцца вельмі цяжка праходнымі,—яны завалены пнямі, старымі, пакрытымі мохам паваленымі дрэвамі, на купінах і каля іх растуць высокі вятроўнік (Filipendula ulmaria), крапіва (Urtica dioica), жаночая папараць (Athyrium filix femina). У падлеску бачым крушыну (Rhamnus frangula), маліну (Rubus idaeus), рабіну (Sorbus aucuparia). Усё гэта перавіта пасьлёнам (Solanum dulcamara). Паміж купінамі чорная зямля пакрыта бабоўнікам (Calla palustris), казяльцамі (Ranunculus), панікніцаю (Geum urbanum); ля пнёў і часта на самых пнёх—селіцца кісьліца (Oxalis acetosella).

Балоты запаведніку займаюць значнае месца. Травяныя балоты прадстаўлены панаваньнем асаковых траў з дамешкаю іншых балотных расьлін; або ў сладзе травастою балота мы маем значную колькасьць кругляку (Eriophorum) зноў такі з дамешкаю асок і балотных расьлін. Першыя—гэта асаковыя балоты, балоты—з кругляком мы назавем асакова-падвеевымі. Тут у мохавым насьціле побач з іншымі балотнымі імхамі, амаль што заўсёды сустракаецца Sphagnum.

Мохавыя балоты (імшары) зьяўляюцца вельмі пашыранымі на тэрыторыі запаведніку. Звычайна яны пакрыты нізкарослай дрэўнай расьліннасьцю, часьцей за ўсё гэта будзе прыгнечаная балотная сасна, да якой часам дамешваецца бярозка звычайная, або бярозка ніцая (Betula humilis). У травяным акрыцьці сустракаем звычайных падарожнікаў імшары: у густым, пышным дыване сфагнуму сьцелецца журавіна (Oxycoccos palustris). На нявысокіх акруглых купінках і каля пнёў—багун (Ledum palustre), андромэда (Andromeda polifolia), касандра (Cassandra calyculata), а на некаторых імшарах сустракаем нават і элемэнт паўночных імшараў—варанец (Empetrum nigrum).

Апроч сухапуцьця—лясоў, лугоў і балот на тэрыторыі запаведніку мы маем некалькі вазёр і цэлую сыстэму водных шляхоў зносін—рэк, рэчак і канаў. Яны таксама маюць сваю цікавасьць, сваю ўласную спэцыфічную фаўну і флёру. Большасьць гэтых вазёр знаходзіцца ў стадыі зарастаньня—ад расьліннасьці вольна толькі яго цэнтральная частка. Ад берагоў, часта даволі шырокаю пала-

сою, цягнуцца зарасьлі чароту (Phragmites communis), камыша (Scirpus lacustris) альбо яшчэ пухоўка (Typha angustifolia). На паверхні вады бачым лісьці жоўтых збанкоў (Nuphar luteum) і ў меншай колькасьці белая вадзяніца (Nymphaea candida), урэчнік плывучы (Potamogeton natans) і многа іншых. Рэчкі і канавы маюць амаль што такую-ж расьліннасьць, з тою толькі розьніцаю, што адсутнічае зона высокіх водных расьлін—чароту, камыша, замест якіх ля самага берагу цягнецца вузкая паласа Glyceria aquatica—вадзяное манны.

Вялікую цікавасьць прадстаўляе запаведнік і з боку фаўністычнага складу. На дробных лясных рэчках, па Бярэзіне сустракаем мы бабра, з яго цікаваю „хаткаю". Падгрызеныя вольхі, бабровыя грэблі і, нарэшце, самыя „хаткі" паказваюць на дзейнасьць гэтага цікавага зьвярка. На балоце, у лесе, спатыкаем вельмі часта вялізарныя сьляды лася, мядзьведзя, ваўка, ня кажучы ўжо аб колькасьці дробных зьвяркоў і пярнатых, якія робяць запаведнік вельмі цікавым і, трэба сказаць, рэдкім кутком прыроды.

А. М. Рэдэр

# Ачыстка залюдненых месц БССР у другую пяцігодку як фактар санітарнага аздараўленьня іх

## I

Па падставе агульна-гаспадарчага ўздыму і індустрыялізацыі краіны партыя дабілася значных посьпехаў у справе разьвіцьця гарадзкой гаспадаркі СССР. За апошнія гады шырака разгарнулася жыльлёвае будаўніцтва і комунальнае будаўніцтва ў прамысловых цэнтрах, рабочых кварталах і пасёлках. У новае жыльлёвае будаўніцтва за апошнія пяць гадоў было ўкладзена па СССР—3,5 мільярда руб., з якіх толькі на 1931 г. прыходзіцца 1.156 млн. р. [1]

Па БССР у новае жыльлёвае будаўніцтва ўкладзена да 1/I-1932 г.—60.706 тысяч руб., што дала нам новых 521.000 кв. м. жылой плошчы і на 1932 г. намечана да пабудовы 261.000 кв. м. жылой плошчы. Ніжэй паказаная табліца 1 характарызуе капіталаўкладаньні ў розныя віды комунальнага будаўніцтва па БССР за I пяцігодку ў тысячах руб.

Табліца 1.

| Віды комунальнага будаўніцтва | Намечана на 1 пяцігодку | Выдатк. у 29, 30 гг. | Намечана на 32 г. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Вадазабясьпека | 6.385 | 5.178 | 3.616 | 8794 |
| Каналізацыя і асанізацыя | 7.500 | 3.560 | 3.265 | 6825 |
| Лазьня-пральнев. справа | 2.450 | 5.486 | 4.096 | 9582 |

Аднак, рост гарадзкой гаспадаркі за апошнія гады значна адстае ад гіганцкага росту нашай краіны, ад шпаркіх тэмпаў сельскай гаспадаркі, ад усё ўзрастаючых патрэб рабочых і працоўных мас. [2]

[1] А. М. Каганович—За социалистическую реконструкцию Москвы и городов СССР, стар. 80, выд. 1931 г.

[2] Л. М. Каганович—там-жа, стар. 8.

Самым адстаючым участкам комунальнае гаспадаркі зьяўлялася ачыстка залюдненых месц, на гэтае пытаньне зварочвалася да гэтага часу вельмі мала ўвагі. Аналіз даных перапісу комунальнай гаспадаркі, якая была праведзена па БССР у 1931 г., дастаткова падкрэсьлівае сказанае. З трыццаці паселішч гарадзкога тыпу толькі ў адным маецца каналізацыя (Менск) і ў 14 маюцца асанізацыйныя абозы, прычым бочкі і фурманкі маюцца толькі ў 9, а рэшта мае па некалькі бочак.

На 805.133 чал. насельніцтва гэтых гарадоў маецца 275 бочак, 77 скрынак-фурманак, што складае 1 бочку на 3.000 чалавек насельніцтва і 1 фурманку на 10.000 насельніцтва.

Пры максымальным скарыстоўваньні ўсіх бочак і фурманак у 1931 г. было вывезена—5,22% вадкіх нячыстот і 44,62% сухога сьмецьця (гл. табліцу 2).

Пераважная большасьць выграбоў, прыемнікаў памыяў і сьмецьця зьяўляецца прапушчальнымі для нячыстот, а апошняе вядзе да забруджваньня паветра, глебы і ваданосных горызонтаў і ні ў якім разе не адпавядае мінімальным санітарна-тэхнічным запатрабаваньням.

Якую небясьпеку прадстаўляе ў эпідэмічных адносінах для залюдненага пункту награмаджэньне нячыстот пры адсутнасьці належна-абсталяванага транспорту для вывазкі іх, добра відаць з літаратуры па данаму пытаньню.

„В одном грамме экскрементов содержится 380 млн. бактерий; в том числе в них находятся и патогенные (болезнетворные). Население, живущее среди испарений из отхожих мест, не может быть здоровым; конечно, крепкие люди могут долгое время противостоять этим вредным влияниям, но общее состояние здоровья ухудшается, и действие этих влияний на слабых и восприимчивых суб'ектов легко делается смертельным“. [3]

Адкіды, якія знаходзяцца ў стадыі моцнага гніцьця, нам небясьпечны, як забрудняючыя глебу, ваду, паветра і як месца, дзе захоўваюцца і разьвіваюцца мікробы, якія выклікаюць розныя хваробы і, нарэшце, як месца выплоджваньня мух, глістоў— гэтых шкоднікаў нашага здароўя. Апошнія, як усім вядома, разносяць на сваіх лапках і крыльлях мікробаў, якія выклікаюць цэлы рад заразьлівых хвароб: халеру, брушны тыфус, крываўку і глісныя захворваньні.

Адгэтуль ясна відаць, да якой ступені ў сэнсе аховы здароўя насельніцтва важна і надзвычайна патрэбна правільнае і своечасовае выдаленьне награмаджаных нячыстот. Паколькі шкодны ўсякія адкіды і нячыстоты для здароўя чалавека, калі яны належным чынам не абясшкоджваюцца, пастолькі яны карысны для сельскае гаспадаркі.

У сярэднім, у нячыстотах 1 чалавека за год ўтрымліваецца 5 кг азоту, роўназначных 32 кг салетры і па аднаму кг фосфарнай кіслаты і калію [4].

[3] Проф. Хлопин—Основы гигиены, том II, стар. 1, выд. 1923 году.
[4] Проф. Эрисман—Гигиена, том II, стар. 276.

Не скарыстоўваючы для ўгнаеньня адкіды і нячыстоты, якія награмаждаюцца па БССР за год, мы пазбаўляемся вялікай колькасьці вельмі патрэбнага ў сучасны момант і дэфіцытнага ўгнаяльнага матар'ялу, як салетры, фосфарнай кіслаты і калію.

Насельніцтва БССР (па статыстычным даным на 1/I-32 г. складала—5.248.355 чал.) дае на працягу году—28.865.952 куб. м вадкіх нячыстот (вылічана па нормам санітарна-тэхнічных зьездаў, стар. 28, 34, 35, глядзі таб. 2), якія ўтрымліваюць каля 26.241 тону азоту (роўназначн. 167.947 тонам салетры) і па 5.248 тон фосфарнай кіслаты і калію.

Скарыстаньне гэтай колькасьці ўгнаяльнага матар'ялу на нашых палёх можа даць павышэньне ўраджайнасьці на 524.835 тон зярновых культур. [5]

У нашай барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці нашых палёў мы не павінны траціць ніводнай магчымасьці для новых дадатковых укладаньняў у соцыялістычнае будаўніцтва. Апрача стражайшай экономіі ўсюды і ва ўсім—на вытворчасьці, у быту,—мы павінны весьці бязьлітасную барацьбу з стратамі.

У нашай гаспадарцы, якую мы будуем на падставе пляну і навукі, не павінна быць няправільна скарыстана ніводнага кілёграму адкідаў і нячыстот.

Першачарговай задачай, якая пастаўлена ўрадам перад Наркамздравам і Наркомгасам у другую пяцігодку, зьяўляецца канчатковае аздараўленьне залюдненых месц.

„Посьпехі, якія дасягнуты партыяй і рабочай клясай у барацьбе за індустрыялізацыю і колектывізацыю краіны, стварылі ўсе патрэбныя ўмовы для рашучага палепшаньня гарадзкой гаспадаркі—гэтай важнейшай базы перабудовы быту мільённых мас працоўных на новых соцыялістычных пачатках". [6]

Адным з кардынальных фактараў у сыстэме аздараўленьня зьяўляецца правільна організаваная, адпавядаючая ўсім запатрабаваньням гігіены, санітарыі і экономікі, сыстэма ачысткі залюдненага месца. У мэтах аздараўленьня залюдненых месц і максымальнага скарыстоўваньня нячыстот і адкідаў на сельска-гаспадарчыя патрэбы сыстэма ачысткі ў 2-ую пяцігодку павінна будавацца з такім разьлікам, каб поўнасьцю адпавядаць гэтым дзьвюм задачам.

Лепшым відам ачысткі залюдненых месц зьяўляецца каналізацыя, якая будзе будавацца ў буйных прамысловых цэнтрах БССР у 2-ую пяцігодку (Гомель, Віцебск, Магілеў, Бабруйск і значна будзе расшырана Менская каналізацыя). Але побач з каналізацыяй на працягу бліжэйшых гадоў, дзе маюцца пераважна аднапавярховыя будынкі, дзе слаба разьвіта сець вадазабясьпекі, дзе маецца нязначная колькасьць нутраных уводаў вады ў кватэры, дзе маецца слабая шчыльнасьць забудоўлі кварталаў, асноўнай сыстэмай выдаленьня нячыстот зьяўляецца і будзе зьяўляцца вывазная сыстэма.

---

[5] Швецов.—Фекальные массы, как удобрение, стар. 6, выд. 1929 г.

[6] Л. М. Каганович.—там-жа, стар. 21.

## II

## Сыстэма ачысткі залюдненых месц

Сыстэма ачысткі залюдненых месц складаецца з 3-х момантаў:
1) Зьбіраньня нячыстот і адкідаў ва ўладаньнях.
2) Выдаленьня (транспартоўка) іх.
3) Абясшкоджваньня іх.

Сыстэма ачысткі зможа адпавядаць вышэйпаказаным задачам толькі пры ўмове правільнай арганізацыі ўваходзячых у склад гэтай сыстэмы паасобных элемэнтаў. З мэтай сапраўднай аховы глебы, паветра і ваданосных горызонтаў ад забруджваньня, зьбіраньне нячыстот і адкідаў ва ўладаньнях павінна быць пабудавана наступным чынам:

### 1) Зьбіраньне нячыстот і адкідаў ва ўладаньнях

Адзінай прыймальнай формай цёплых прыбіральняў ва ўладаньнях, дзе няма каналізацыі, зьяўляецца сыстэма „Люфт-клёзэтаў". Сыстэма „Люфт-клёзэтаў" патрабуе правільна пабудаванай сыстэмы вэнтыляцыі і ўважлівага сыстэматычнага нагляданьня за ёю.

Ватэр-клёзэты не павінны будавацца па экономічным і тэхнічным прычынам. Пры гэтай сыстэме награмаджаецца вялікая колькасьць разьведзеных вадою нячыстот. Вываз іх каштуе вельмі дорага, чым ствараецца повад да розных злоўжываньняў (будоўля паглынальных студняў на дварох уладаньняў для паглынаньня вадкіх нячыстот). Трэба катэгорычна падкрэсьліць неабходнасьць мець у неканалізаваных уладаньнях паасобныя зьмяшчальні для гаспадарчых вод (памыяў) і для нячыстот (выграбу). Зьмешваньне вод двух розных паміж сабой складаў пагаршае стан вадкасьцяў. Смурод павялічваецца, бо процэсы распаду органічных матэрый адбываюцца са значным выдзяленьнем газаў вельмі дрэннага паху. Самая лепшая сыстэма будзе, бязумоўна, тая, пры якой адкіды зусім не захоўваюцца, а выдаляюцца ў меру награмаджэньня нячыстот. Халодныя прыбіральні, якія прызначаны для агульнага карыстаньня, павінны знаходзіцца на двары ўладаньня ў паасобным будынку, на адлегласьці ад жылых будынкаў ня менш 10-15 м. З мэтай сваечасовага абясшкоджваньня фэкальных мас і захоўваньня ўгнаяльных уласьцівасьцяў іх, трэба паступова пераходзіць да пабудовы тарфяных прыбіральняў. У тарфяных прыбіральнях фэкальныя масы засыпаюцца торфам. Фэкальныя масы, зьмяшаныя з торфам, губляюць свой дрэнны пах, дзякуючы ўласьцівасьці торфу паглынаць газы і вільгаць. Пабудова гэткіх прыбіральняў ня зьвязана са значнымі выдаткамі, і ў той-жа час выгодна і карысьць ад іх вялікія. Пры гэтай сыстэме над сядзеньнем будуецца скрынка з конічнай дзіркай, якая зачыняецца кляпанам. У скрынку засыпаецца тарфяны парашок на вызначаную колькасьць ад 100-200 дзеяньняў.

Торф або тарфяны парашок для аздараўленьня залюдненых месц ужываецца ў многіх мясцох ужо даўно, але ў нашай краіне

ён для гэтай мэты ня ўжываўся. Гэта, можа быць, тлумачыцца тым, што наогул недастатковa вядзецца ўсебаковая папулярызацыя торфу, як каштоўнага матар'ялу ў нашай гаспадарцы. Апрача апалу, торф ужываецца ў будаўніцтве, асабліва ў досьледным будаўніцтве,—як цёпла-ізоляцыйны матар'ял, у сельскай гаспадарцы,—як угнаяльны матар'ял, у хірургіі—як перавязачны матар'ял, у санітарыі,—як матар'ял для абясшкоджваньня нячыстот і адкідаў. На апошняй уласьцівасьці торфу мы затрымаемся больш падрабязна. Торф уладае вялікай паглынальнай здольнасьцю. Гэтая ўласьцівасьць торфу вельмі карысна і дае тое, што фэкальныя масы, зьмяшаная з торфам, губляюць свой дрэнны пах, бо торф паглынае амоніяк і іншыя газы дрэннага паху, якія выдзяляюцца нячыстотамі пры іх распадзе. Гэты процэс паглынаньня вядзе да таго, што каштоўныя ўгнаяльныя матэрыі нячыстот ня трацяцца для нашай сельскай гаспадаркі, а затрымліваюцца торфам, фэкальныя масы, у сваю чаргу, уплываюць на торф, пераводзяць азоцістыя злучэньні торфу ў стан, які зьяўляецца ўсваяльным для расьлін. Апрача гэтага, торф сваёй кваснасьцю можа зьнішчаць мікробаў фэкальных мас, а на думку другіх, тым, што адбірае ў іх вільгаць і гэтым утварае няпрыемныя ўмовы для іх жыцьця і разьвіцьця.

У прыбіральнях ужываецца, галоўным чынам, парашок тарфянога моху—сфагнуму, таму што ён сваімі паглынальнымі і дэзынфэкуючымі ўласьцівасьцямі перавышае тарфяны парашок іншых торфа-ўтваральнікаў. На падставе досьледаў і практычных даных можна лічыць, што да фэкальных мас 1 чалавека ў год трэба дамешваць ад 30—50 кг торфу[7]. У выграбу штодзенна пасыпаецца пласт 4—6 см сфагнумавага парашку на паверхню масы. Для лепшага ўсмактаньня трэба праз кожныя 3-4 дні павярховы пласт перамешваць лапатамі.

Для зьбіраньня памыяў будуюць памыйніцы. Памыйніцы маюць у сваім складзе ніжнюю частку—прыемнік і верхнюю—будоўлю. У мэтах разьдзяленьня памыяў на вадкія і цьвёрдыя часткі памыйніцы забясьпечваюцца рашоткамі з дзіркамі ў 25—30 мм.

Адным з асноўных санітарных запатрабаваньняў да ўсялякага роду прыемнікаў, выграбоў для адкідаў і нячыстот зьяўляецца поўная непрапушчальнасьць сьценак, дна і гэрмэтычнасьці наземнай часткі, што перашкаджае забруджваньню глебы, вады і паветра.

Выграбы і ўсялякага роду прыемнікі могуць будавацца з дрэва, цэглы, бэтону, жалеза-бэтону, жалеза і г. д. Па гадавой норме, колькасьці насельніцтва і колькасьці ачыстак у год можна вызначыць патрэбны аб'ём выграбу і ўсялякага роду прыемніку. Выграбы халодных прыбіральняў і памыйніц павінны ачышчацца ня менш 1-2 раз у месяц. Для каналізаваных і некалізаваных уладаньняў аднолькава важна пытаньне правільнай арганізацыі зьбіраньня дваровага, дамовага і вулічнага сьмецьця. Пераважнай

---

[7] Благоустройство и очистка населенных мест, выпуск V, стар. 243, 1931 г. 3-га сан-тэх. зьезду.

формай зьбіраньня сьмецьця ва ўладаньнях да гэтага часу зьяўляюцца стацыянарныя драўляныя скрынкі, у якіх сьмецьце доўга захоўваецца і гніе. Трэба прыступіць да арганізацыі спачатку ў каналізаваных уладаньнях сыстэмы пераносных скрынак. Пераносныя скрынкі павінны быць зроблены з непранікальнага матар‘ялу (лепш за ўсё з жалеза), афарбаваныя з абодвух бакоў алейнай фарбай, строга вызначанай формы (форма піраміды або сьцятага конусу) для таго, каб у кутках сьмецьце не заставалася, пэўнага аб‘ёму, разьлічанага на штодзенную або 1 раз у 2 дні ачыстку.

## 2) Выдаленьне нячыстот

Як-бы мы не абсталявалі нашы прыбіральні і памыйніцы, колькі-б сродкаў не ўкладалі ў гэта, якія-б вынаходзтвы тэхнікі ня ўжывалі—усё гэта ў санітарных адносінах дасьць нязначны эфэкт, калі мы будзем ня толькі зьбіраць, але і захоўваць нашы адкіды вакол сябе. Тут мы падыходзім да пытаньня стварэньня належна-абсталяванага санітарнага транспорту ў нашых паселішчах; гэты транспорт павінен па сваёй магутнасьці забясьпечыць поўную вывазку награмаджаных нячыстот і па конструкцыі сваёй адпавядаць сучасным санітарна-тэхнічным запатрабаваньням (гермэтычнасьць, бяспыльнае напаўненьне). Лепшым відам транспорту зьяўляецца аўтотранспорт. Перавагі аўтоцягі перад коннай у пытаньні ачысткі залюдненых месц наступныя: пры аўтоцязе значна павялічваецца зваротаздольнасьць, а апошняя дае больш частую ачыстку ўладаньняў. Больш частая ачыстка ўладаньняў дае тое, што нячыстоты і адкіды ня будуць разлагацца, ня будуць губляць свае каштоўныя ўгнаяльныя ўласьцівасьці; у іх ня будуць разьвівацца і размнажацца мухі і пацукі—пашыральнікі заразьлівых хвароб. Апошняе мае вялікае эпідэмічнае значэньне для нашых залюдненых месц. Іншымі станоўчымі бакамі аўтоцягі зьяўляецца гермэтычная перавозка, бяспыльная аўтоматычная загрука і выгрузка, значнае патаненьне самога транспартаваньня і, нарэшце, магчымасьць перанесьці месца абясшкоджваньня на больш значную адлегласьць ад залюдненага пункту. Для перавозкі вадкіх нячыстот могуць шырака ўжывацца аўтомобілі, якія пабудаваны па тыпу цыстэрнаў з пнэўматычным напаўненьнем, значнай ёмкасьці— 3—5 тон, а для перавозкі цьвёрдых адкідаў—аўтофуры па тыпу маскоўскіх або бакінскіх—ёмкасьці ў 1, 5—3 тоны. Выкарыстаньне аўтотранспорту будзе мець месца, галоўным чынам, у нашых буйных цэнтрах (для апошніх і запроектаваны транспорт), а ў іншых паселішчах гарадзкога тыпу яго роля ў пачатку 2-ой пяцігодкі будзе абмежаванай з прычыны неўпарадкаваньня нашых брукаў і шляхоў, нязначнага награмаджэньня нячыстот і адкідаў за дзень у гэтых паселішчах, што было-б вельмі нерэнтабельным для аўтоцягі.

З існаваньнем коннай цягі цесна зьвязаны бочкі, якія распаўсюджваюць смурод на вялікую адлегласьць у часе перавозкі і адчыненыя фуры, якія рассыпаюць па дарозе сьмецьце. Абавязкова трэба і гэты від транспорту аздаравіць. Аздараўленьне

павінна ісьці па лініі арганізацыі заводаў па вырабу гермэтычных бочак з пнэўматычным напаўненьнем, строга вызначанага абʻёму (0,6 куб. м), а для перавозкі сьмецьця патрэбны крытыя фуры, абабітыя з сярэдзіны непранікальным матарʻялам. Як бочкі, так і фуры павінны быць афарбаваны алейнай фарбай і сыстэматычна дэзынфэкавацца і мыцца.

На працягу другой пяцігодкі ў некаторых буйных прамысловых цэнтрах БССР (Віцебск, Гомель, Магілеў і г. д.) будзе пабудавана каналізацыя, але, ня гледзячы на гэтае, мы і для гэтых гарадоў запроектавалі транспор. Тлумачыцца гэта тым, што каналізацыя пачне абслугоўваць гэтыя гарады ў самай нязначнай ступені і толькі ў апошнія 1-2 гады пяцігодкі, апрача гэтага, сухое сьмецьце, вулічнае сьмецьце, буйныя адкіды і інш. ніколі ў каналізацыю пастулаць ня будуць.

Пры проектаваньні транспорту на 2-ую пяцігодку мы выходзілі з палажэньня 100% ахопу ўсімі відамі транспорту ўсіх залюдненых месц гарадзкога тыпу да 1937 г. Выходзячы з гэтай установкі, мы разьлічылі магутнасьць транспорту для ўсіх залюдненых месц гарадзкога тыпу, прытрымліваючыся наступнай формулы:

**Формулы для вылічэньня аўтоцягі**

1) $X = \frac{K. \quad 5.}{3.0,95.60.000}$ 2) $X = \frac{K. \quad 4}{3.0,95.60.000}$

*Растлумачэньне*

1) К—награмаджэньне нячыстот за год.
2) Коэфіцыент няроўнамернага напаўненьня прыняты ў *0,95.*
3) Даўжыня аднаго рэйсу прынята намі ў 5 або 4 *кілёмэтры.*
4) Колькасьць нячыстот, якія вывозяцца за 1 рэйс=*3 тоны.*
5) Гадавы прабег 1 машыны прыняты за *60.000 км.*

**Формулы для вылічэньня коннай цягі**

1) $X = \frac{K.}{1800.0,6}$ 2) $X = \frac{K.}{1200.0,5}$

1) К—колькасьць награмаджаных нячыстот за год
2) Колькасьць рэйсаў за год прынята ў 1800 з разьліку 6 рэйсаў у дзень пры 300 раб. днёх за год.
3) Абʻём 1 бочкі прыняты ў 0,6 куб. м.

Трэба падкрэсьліць, што зварот транспорту будзе значна зьмяняцца ў розных мясцох і ў розны час. Колькасьць зваротаў транспорту цалкам залежыць ад адлегласьці месц абясшкоджваньня, ад становішча шляхоў і бруку, ад пары году і самога транспорту.

На падставе вышэйпаказаных формул мы запроектавалі на другую пяцігодку для ўсіх 30 паселішч гарадзкога тыпу транспорт, які складаецца з 96 аўтомобіляў-цыстэрнаў ёмкасьцю ў 3 тоны і 938 бочак ёмкасьцю ў 0,6 куб. м для перавозкі вадкіх нячыстот,

72 аўтофуры і 176 крытых скрынак для перавозкі сухога сьмецьця.

Пры гэтым трэба адзначыць, што даны разьлік патрэбнага транспорту праводзіўся з учотам работы каналізацыі ў адзначаных вышэй гарадох (гл. таб. 3).

## 3. Абясшкоджваньне нячыстот

Канчатковым этапам ачысткі залюдненага месца зьяўляецца абясшкоджваньне вывазімых нячыстот. Да гэтага часу вывазка нячыстот праводзіцца такім чынам,—нячыстоты ня толькі не абясшкоджваюцца, а наадварот, награмаджаюцца ў вялікай колькасьці на звалках вакол гарадоў, забруджваюць усе ваколіцы, насычаюць смуродам паветра, змываюцца ў адкрытыя гарадзкія вадазборы і пранікаюць у грунтовыя воды. Звалкі—„адвечнае зло" нашых гарадоў. Трэба адзначыць, што рад эпідэмій розных заразьлівых хвароб у тэй ці іншай ступені выклікаецца гэтымі звалкамі. Прычынай гэтага зьяўляецца тое, што нячыстоты на звалках гніюць, г. зн. разлагаюцца ва ўмовах малога доступу паветра і таму распад арганічных матэрый адбываецца паволі. Дзякуючы павольнаму процэсу распаду арганічных матэрый мікробы доўга застаюцца ў іх.

Між тым абясшкоджваньне нячыстот пры дастатковай увазе можна праводзіць належным чынам. Адзіным , мэтазгодным, санітарна-дапушчальным, даступным, пры гаспадарчай пастаноўцы справы экономным—зьяўляецца глебавы спосаб абясшкоджваньня.

### Палі асанізацыі

На палёх асанізацыі або заворваньня нячыстоты разлагаюцца хутка, бо тут маецца шырокі доступ паветра. Для таго, каб стварыць гэтыя аэробныя ўмовы трэба нячыстоты накладаць ня ў кучы, як гэта робіцца заўсёды на звалках, а магчыма больш распластана. Апошняе дасягаецца ўнясеньнем нячыстот у добра разрыхленую глебу. Пры гэтым нячыстоты зьмешваюцца з кавалкамі глебы, добра разьяднаюцца і становяцца даступнымі ўплыву кіслароду. Наяўныя ў глебе мікробы-акісьляльнікі (аэробы) могуць у значна кароткі тэрмін разлажыць буйную колькасьць нячыстот без стварэньня смуродных продуктаў.

Нячыстоты, якія заносяцца ў глебу ў стане смуроднага гнойнага распаду,—добра перамешаныя з глебаю хутка губляюць свой смурод і няпрыемны выгляд, а бактэрыі—разношчыкі розных захворваньняў, затрымліваюцца ў сітавінах глебы, дзе яны распачынаюць жорсткую барацьбу-конкурэнцыю з мікробамі, якія прыстасаваліся да жыцьця ў глебе—„сапрофітамі". Няпрывычная для хваробатворных мікробаў вільгаць, уплыў простых сонечных праменьняў прыводзіць іх да хуткай гібелі. Такім чынам, можна сказаць, што пры ўнясеньні нячыстот у глебу і даскапалым зьмешваньні апошніх з ёю ўтвараецца поўнае іх абяс-

шкоджваньне. Полі асанізацыі павінны прысьці на зьмену існуючым звалкам.

Абясшкоджваньне нячыстот мае ня толькі адно санітарнааздараўляльнае значэньне, яно павінна адыгрываць буйную экономічную ролю. Нячыстоты, як намі вышэй было высьветлена, зьяўляюцца вельмі карысным матар'ялам для ўгнаеньня палёў, значна павышаюць іх ураджайнасьць і як угнаяльны матар'ял у сучасны момант павінны адыгрываць вялікую ролю, хаця-б з тэй прычыны, што жывёльнае ўгнаеньне ў сувязі з пераходам у сельскай гаспадарцы на мэханізаваную цягу будзе паступова зьмяншацца. Наступнае разьвядзеньне сельска-гаспадарчых культур на глебе, якая раней угнаялася нячыстотамі, дае магчымасьць больш захоўваць каштоўныя ўласьцівасьці глебы для наступнага абясшкоджваньня нячыстот. Расьліны выцягваюць з глебы для сябе спажыўныя матэрыі мінэралізацыі, а сваёй карнёвай сыстэмай падтрымліваюць рыхлую структуру глебы, разьбіваючы яе на паасобныя кавалачкі. Рыхласьць глебы забясьпечвае лепшае яе праветрываньне і забесьпячэньне патрэбным кіслародам.

Норма і частата заліўкі нячыстот на адзінку плошчы цалкам залежыць ад якасьці залiванай плошчы, ад выбару тэй ці іншай культуры для пасадкі, ад пэрыоду году, ад інтэнсыўнасьці скарыстаньня ўгнаеньня і ад працягласьці севазвароту. Агульных норм няма і ў кожным месцы, у залежнасьці ад яго мясцовых умоў, яны ўстанаўляюцца аўторытэтнымі органамі ў складзе агрономаў, санітарных і комунальных працаўнікоў. З практыкі гарадоў, дзе ўжо даўно існуюць асанізацыйныя агрыкультурныя палі, норма заліўкі прадугледжваецца, як мінімум, 2 бочкі па 500 л неразьведзеных нячыстот на 4,5 м$^2$, максымум 4 бочкі, г. зн. ад 2.250 да 9.000 бочак на 1 га.[8]

Агрыкультурныя палі будуць адпавядаць свайму прызначэньню, калі будуць упарадкаваны і эксплёатаваны на ўчоце даных навукі і практыкі. Дзеля таго трэба аднача́сна з іх організацыяй організаваць сталае нагляданьне за іх работай з боку агрономаў і санітарных дактароў.

## Компоставаньне

Поўнае абясшкоджваньне нячыстот і адкідаў з аднача́сным скарыстаньнем іх як угнаеньня можа праводзіцца таксама шляхам компоставаньня. Гэты від нячыстот можа ўжывацца ня толькі ў горадзе, але і на вёсцы, дзе ня толькі ня ведаюць каналізацыі, але нават і ямачная сыстэма ўжываецца рэдка і дзе нячыстоты раскідаюцца ў розных мясцох, забруджаючы гэтыя месцы і толькі самая нязначная частка іх ідзе ў гной. Матар'ялам для компосных куч могуць служыць усякага роду адкіды: памыйныя воды, попел, сухое і мокрае сьмецьце, пустазельле, торф, фэкаль-

[8] Труды II всесоюзного (XIV) водопров. и санитарно-технического с'езда 1927 г., выпуск V, стар. 85.

ныя масы, вулічнае і дваровае сьмецьце. Адкіды саду і гароду, якія атрымліваюцца пры барацьбе са шкоднікамі і хваробамі расьлін, нельга дапускаць у компост, каб не распаўсюджваць заразу. Месца для компоснай кучы трэба выбіраць высокае, якое не заліваецца дажджамі, са шчыльным грунтам, у які-б не прасочваліся пры змочваньні кучы наліўныя воды. З мэтай аховы чыстаты паветра ў дамох і вады ў студнях компосныя кучы закладаюцца ня бліжэй 15—30 м ад жылых будынкаў і студняў. З мэтай аховы чыстаты глебы трэба падкладаць ва ўсю шырыню кучы падставу з цёртай тлустай гліны таўшчынёю ў 0,2-0,3 м. Для падтрыманьня сталай вільгаці ў компосных кучах яны зьмяшчаюцца ў цяні і над імі будуецца дах. Рэкомэндуецца ўзімку компосныя кучы напаўняць па магчымасьці цьвёрдымі адкідамі для таго, каб не ўтвараць слою лёду на паверхні кучы. Для падтрыманьня сталай і даволі высокай вільготнасьці, пры якой процэс распаду ідзе энэргічна, у компост абавязкова ўводзіцца перагнойная зямля, торф (вільгаёмістыя матэрыі). Компосныя кучы будуюцца вышынёй ў 1 м, шырынёй у аснове 1-2 м, з адвольнаю даўжынёй.

На аснове кучы кладзецца сухі торф таўшчынёю 8—10 см для ўсмактаваньня вадкасьцяў, потым кладзецца пласт адкідаў, зноў пласт торфу, потым зноў адкіды і г. д. Трэба, дадаючы ў кучу сьвежыя адкіды, пасыпаць апошнія торфам. У мэтах рэгуляваньня ходу процэсу мінэралізацыі і дасьпяваньня компосту трэба ўстанавіць сталы контроль за компоснымі кучамі. Іх паліваюць акуратна, перакопваюць некалькі раз за год дасканала, засыпаюць з бакоў зямлёй або тарфяным парашком. Тэрмін дасьпяваньня компосту ад 8—12 м-цаў. Мэтод компоставаньня дае нам моцнае ўгнаеньне, якое кладзецца па 1.200—1.800 пуд. на 1 га.[9] Угнаеньне ад компосту дзейнічае 2-3 гады, яно можа ўжывацца пад збожжа, караньплоды, асабліва добра на гародзе, у садзе і кветкаводзтве.

Шырокае карыстаньне мэтодам абясшкоджаньня нячыстот шляхам компоставаньня—самы лепшы выхад для тых мясцовасьцяў, дзе сёньня яшчэ няма каналізацыі і сьмецьцеапальваньня, дзе яшчэ не рэнтабельна іх будаваць, але трэба для насельніцтва гэтых раёнаў стварыць культурныя ўмовы жыцьця, усьцерагаючы іх ад сталата атручваньня смуродам з выграбаў, памыек і г. д.

Скарыстаньне для компоставаньня ўсіх адкідаў, якія бескарысна гінуць у таспадарках, скарыстаньне каштоўнай часткі нячыстот, асабліва ў сумесі з торфам—гэта павінна стаяць у цэнтры ўвагі нашых колгасаў і савгасаў.

---

[9] Швецов. Фекальные массы, как удобрение, стар. 11, 1929 г.

## Сьпіс літаратуры па аздараўленьню залюдненых месц

1) К. Н. Швецов. Фекальные массы, как удобрение. 1929 г.
2) В. В. Лебедев. Поля ассенизации. 1929 г.
3) Г. С. Грузинов. Городские отбросы и нечистоты, как удобрение. 1931 г.
4) П. С. Савостьянов. Поля орошения и биологические станции, как база для создания огородов и молочных ферм. 1931 г.
5) Торфяные компосты. 1931 г.
6) Труды 2 Всесоюзного (XIV) водопроводного и санитарно-технического с'езда 1927 г. в Харькове.
7) Благоустройство и очистка населенных мест, выпуск V трудов 3-го Санитарно-технич. и водопр. с'езда. 1931 г.
8) Л. М. Каганович. За социалистическую реконструкцию Москвы и городов СССР. 1931 г.

1931 год

Табліца 2

| №№ па парадку | ГАРАДЫ. | Насельніцтва | Намнажэньне нячыстот: У 0,5 м на 1 ч. ў год | Намнажэньне нячыстот: Памыяў у 5 м. на 1 чал. у год | Намнажэньне нячыстот: 0,4 сухіх адкідаў 1 м на 1 чал. у год | Вывезена: Вадкіх нячыстот 1 м | Вывезена: Сухіх адкідаў 1 м | Ступень абслугоўваньня: Вадкіх нячыстоту % % | Ступень абслугоўваньня: Сухіх адкідаў у % % | Магутнасьць абозу: Колькасьць бочак | Магутнасьць абозу: Колькасьць скрынак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Менск | 163.050 | 81.525 | 815.250 | 65.220 | 31.878 | 21.000 | 3,55 | 32,29 | 35 | 13 |
| 2 | Віцебск | 117.318 | 58.659 | 586.590 | 46.927 | 71.320 | 5.320 | 11,06 | — | 54 | 33 |
| 3 | Гомель | 109.920 | 54.960 | 549.600 | 43.968 | 57.024 | 6.480 | 9,43 | 14,73 | 88 | 8 |
| 4 | Магілеў | 50.879 | 28.439 | 284.395 | 22.751 | 13.824 | 4.512 | 4,41 | 19,83 | 20 | 4 |
| 5 | Бабруйск | 62.283 | 31.141 | 311 415 | 24.913 | 15.120 | 0,00 | 4,41 | 0,00 | 28 | — |
| 6 | Ворша | 31.308 | 15.654 | 156.540 | 12.523 | 9.520 | 17.400 | 5,52 | — | 17 | 5 |
| 7 | Барысаў | 33.426 | 16.713 | 167.130 | 13.370 | | Няма зьвестак | | | | |
| 8 | Рэчыца | 20.874 | 10.437 | 104.370 | 8.349 | 1.322,5 | 0,00 | 1,15 | 0,00 | 3 | — |
| 9 | Полацак | 24.816 | 12.408 | 124.080 | 9.926 | 9.408 | 4,144 | 6,89 | 41, 7 | 15 | 10 |
| 10 | Мозыр | 11 993 | 5.996 | 59.965 | 4.797 | 2.240 | 0,00 | 3,31 | 0,00 | 4 | — |
| 11 | Быхаў | 7.073 | 3.536 | 35.365 | 2.829 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 12 | Ветка | 5.551 | 2.775 | 27.755 | 2.220 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 13 | Горкі | 8.745 | 4.372 | 43.725 | 3.498 | 7,25 | 14,50 | 1, 5 | 41,45 | 1 | 1 |
| 14 | Гарадок | 4.751 | 2 375 | 23 755 | 1.900 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 15 | Дуброўна | 8.390 | 4.195 | 41.950 | 3.356 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,99 |
| 16 | Жлобін | 0.102 | 8.051 | 50.510 | 4.041 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 17 | Клімавічы | 16.693 | 3.346 | 33.465 | 2.677 | 1.120 | 0,00 | 3,04 | 0,00 | 2 | — |
| 18 | Крычаў | 7.463 | 3.731 | 37.315 | 2.985 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 19 | Лепель | 6.898 | 3.449 | 34.430 | 2.759 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 20 | Мсьціслаў | 8.263 | 4.131 | 41.315 | 3.305 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 21 | Петрыкаў | 6 063 | 3.031 | 30.315 | 2.425 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 22 | Рагачэў | 11.750 | 5.875 | 58.750 | 4.700 | 1.120 | 0,00 | 1,73 | 0,00 | 2 | — |
| 23 | Слуцак | 12.991 | 6.495 | 64.955 | 5.196 | 6.912 | 628,8 | 2,67 | 12,10 | 4 | 4 |
| 24 | Сянно | 2.663 | 1.331 | 13.315 | 1.065 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 25 | Чавусы | 4.297 | 2.148 | 21.485 | 1.719 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 26 | Чэрыкаў | 5.062 | 2.531 | 25.310 | 2.025 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 27 | Чэрвень | 3.966 | 1.983 | 19.830 | 1.586 | 700 | 168 | 3,20 | 10,59 | 2 | 1 |
| 28 | Шклоў | 8.232 | 4.116 | 41.160 | 3.293 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 29 | Койданаў | 5.132 | 2.566 | 25.660 | 2.053 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| 30 | Добруш | 8.174 | 4.088 | 40.885 | 3.271 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| | Разам | 774.129 | 387.057 | 3.870.645 | 309.647 | 3322935 | 138162.8 | 5,22 | 44,62 | 275 | 77 |

Табліца 3

| №№ па парадку | ГАРАДЫ | Насельніцтва | Падлягае вывазу да 1937 г. | | | Запраектаваны аўтотранспорт | | | | Запраектаваны конны транспорт | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | У куб. м. | Памыяў у куб. м | Сухіх адкідаў у куб. м | Колькасьць аўто для вадкіх нячыстот | Колькасьць: У 5 тон | Колькасьць: У 3 тоны | Колькасьць: У 1,5 тон | Бочак | Скрынь |
| 1 | Менск | 210.000 | 105.000 | 1.050.000 | 84.000 | 14 | 15 | — | — | — | — |
| 2 | Віцебск | 180.000 | 90.000 | 900.000 | 72.000 | 17 | 11 | — | — | — | — |
| 3 | Гомель | 200.000 | 100.100 | 1.000.000 | 80.000 | 19 | 13 | 2 | — | — | — |
| 4 | Магілеў | 180.000 | 40.000 | 400.000 | 32.000 | 11 | 5 | 1 | — | — | 7 |
| 5 | Бабруйск | 85.000 | 42.500 | 425.000 | 34.000 | 11 | 3 | 1 | — | — | 3 |
| 6 | Ворша | 45.000 | 22.500 | 225.000 | 18.000 | 6 | 5 | — | 1 | — | 10 |
| 7 | Барысаў | 45.000 | 22.500 | 225.000 | 18.000 | 6 | — | 4 | — | — | 6 |
| 8 | Рэчыца | 29.500 | 14.750 | 147.500 | 11.800 | 4 | 4 | — | 1 | — | 3 |
| 9 | Полацак | 35.000 | 17.500 | 175.000 | 14.000 | 5 | — | 2 | 2 | — | 10 |
| 10 | Мозыр | 25.000 | 12.500 | 125.000 | 10.000 | 3 | — | — | 1 | — | 12 |
| 11 | Быхаў | 8.255 | 4.127,5 | 41.270 | 3.302 | — | — | — | — | 42 | 6 |
| 12 | Ветка | 6.460 | 3.230 | 32.300 | 2.584 | — | — | — | — | 33 | 4 |
| 13 | Горкі | 11.230 | 5.615 | 56.150 | 4.492 | — | — | — | — | 57 | 7 |
| 14 | Гарадок | 5.726 | 2.863 | 28.630 | 2.290 | — | — | — | — | 29 | 4 |
| 15 | Дуброўна | 11.293 | 5.646,5 | 56.460 | 4.517 | — | — | — | — | 57 | 8 |
| 16 | Жлобін | 13.486 | 6.743 | 67.430 | 5.394 | — | — | — | — | 68 | 9 |
| 17 | Клімавічы | 8.017 | 4.008 | 40.080 | 3.206 | — | — | — | — | 41 | 5 |
| 18 | Крычаў | 13.256 | 6 628 | 66.280 | 5.302 | — | — | — | — | 67 | 9 |
| 19 | Лепель | 8.760 | 4.380 | 43.800 | 3.504 | — | — | — | — | 45 | 6 |
| 20 | Мсьціслаў | 9.731 | 4.865 | 48.650 | 3.892 | — | — | — | — | 49 | 7 |
| 21 | Петрыкаў | 7.269 | 33.634 | 36.340 | 2.909 | — | — | — | — | 37 | 5 |
| 22 | Рагачоў | 14.704 | 7.352 | 73.520 | 5.881 | — | — | — | — | 74 | 10 |
| 23 | Слуцак | 16.272 | 8.136 | 81.360 | 6.508 | — | — | — | — | 82 | 11 |
| 24 | Сянно | 2.838 | 1.419 | 14.190 | 1.135 | — | — | — | — | 15 | 2 |
| 25 | Чавусы | 4.614 | 2.307 | 23.070 | 1.845 | — | — | — | — | 24 | 3 |
| 26 | Чэрыкаў | 5.466 | 2.733 | 27.330 | 2.186 | — | — | — | — | 28 | 4 |
| 27 | Чэрвень | 4.237 | 2.118 | 21.180 | 1.694 | — | — | — | — | 22 | 3 |
| 28 | Шклоў | 14.527 | 5.763 | 57.630 | 4.600 | — | — | — | — | 58 | 8 |
| 29 | Койданаў | 9.616 | 4.808 | 48.080 | 3.846 | — | — | — | — | 49 | 6 |
| 30 | Добруш | 11.938 | 5.969 | 59.690 | 4.775 | — | — | — | — | 61 | 8 |
| | | — | — | — | — | 96 | 56 | 10 | 5 | 938 | 175 |

А. С. Раўдо

# Чорная ножка бульбы

Упяршыню гэта хвароба была знойдзена і вывучана ў Францыі, дзе яна бына апісана ў 1890 г. пад назвай „Антонава агня сьцяблоў". Пазьней яна пачала сустракацца ва ўсіх краінах, якія займаюцца культурай бульбы. Чорная ножка па сваёй шкоднасьці і распаўсюджанасьці займае першае месца ў БССР пасьля фітофторы. Зьяўляецца яна даволі рана, ужо ў першых чыслах ліпня можна наглядаць кусты, пашкоджаныя гэтай хваробай. У 1931 г. першае зьяўленьне чорнай ножкі было адзначана 7-га ліпня на сартох: Вольтман—4,6%, Парнасія—2%, Сьвіцязь—1,4%, Юбэль—0,6%, Сілезія—2,3%. У 1932 г. чорная ножка адзначана на Эпікуры—2%, Сьвіцязі—1%, Вольтмане—3%, Юбэлі—0,1%.

Як вядома, характэрныя прыметы гэтае хваробы выяўляюцца ў тым, што ўся расьліна набывае хлёратычны выгляд: жаўцее, лісьце, драбнейшае за звычайнае, скручваецца, робіцца мяккім, а сьцябло лёгка вырываецца з зямлі і каля аснаваньня загнівае, набываючы чорную афарбоўку, з прычыны чаго гэта хвароба і атрымала назву чорнай ножкі. Калі чорная ножка зьяўляецца рана, дык захварэўшыя расьліны гінуць, ня даўшы клубянёў. Пры недастаткова спрыяючых умовах для разьвіцьця чорнай ножкі ў сухія гады пашкоджаная расьліна можа жыць да канца вэгетацыйнага пэрыоду, даючы ў канчатковым выніку пашкоджаныя клубяні. Хвароба са сьцяблоў у клубяні перадаецца заўсёды праз сталоны, а таму і загніваньне клубянёў заўсёды ідзе ад месца прымацаваньня клубяня да сталона, пранікаючы ўнутр яго. Чорная ножка зьяўляецца хваробай ня грыбнога, але бактэрыяльнага паходжаньня. Узбуджальнікам яе зьяўляецца цэлы рад бактэрый, з якіх найчасьцей сустракаюцца: ва Францыі Bacillus cautivorus Prill et Del, Голяндыі—B. atrosepticus van Hall, Германіі—B. Phytophthorus Appel, Канадзе—B. solaniperda Miq. і B. solani saprus Harr., Ірляндыі—B. Melanogenes Peth et Murphy (Указаньні Эрыксона і Растоўцава). У нас-жа, у БССР, найбольш распаўсюджанай лічыцца Bacillus Phytophthorus.

У БССР чорная ножка пашырана ва ўсіх раёнах і да пэўнай ступені роўнамерна. Гэта ня толькі пацьвярджаюць нашы назіраньні і матар'ялы абсьледваньняў 1931-32 гг., але таксама і літаратурныя даныя іншых дасьледвальнікаў БССР. Распаўсюджаньне чорнай ножкі па БССР у 1931-32 г. паказана ў табл. 1 і 2.

*Табліца 1.*

**Распаўсюджанасьць чорнай ножкі па с/с БССР у 1931 г.**

| Назва раёну і с/с. | Пашкоджана чорнай ножкай | Назва раёну і с/с. | Пашкоджана чорнай ножкай |
|---|---|---|---|
| **I. Койданаўскі** | | **VII. Копыльскі** | |
| 1. Негарэльскі . . . | 4,66 | 24. Браткаўскі . . . | 5,84 |
| 2. Палонівіцкі . . . | 6,05 | 25. Вялікараеўскі . . | 7,69 |
| 3. Бароўскі . . . . | 6,03 | 26. Бабаўнянскі . . . | 7,68 |
| 4. Старынкаўскі . . | 4,8 | 27. Пацейкаўскі . . | 7,29 |
| 5. Путчынскі . . . | 4,7 | **VIII. Полацкі** | |
| 6. Ляхавіцкі. . . . | 5,17 | 28. Бабніцкі . . . . | 3,1 |
| **II. Узьдзенскі** | | 29. Гаралоцкі. . . . | 2,1 |
| 7. Магільнянскі . . | 38, | 30. Нацкі . . . . . | 13,7 |
| 8. Стальбоўскі . . . | 3,9 | 31. Шпакоўшчынскі | 4,1 |
| 9. Сямёнаўскі . . . | 32, | 32. Астроўшчынскі . . | 5,2 |
| **III. Асьвейскі** | | **IX. Тураўскі** | |
| 10. Сёмкаўскі . . . | 4,21 | 33. Букчанскі . . . | 1,9 |
| 11. Савейкаўскі . . . | 3,77 | 34. Рычаўскі . . . . | 0,42 |
| 12. Красоўскі . . . | 3,22 | 35. Верасьніцкі . . . | 2,72 |
| **IV. Дрысенскі** | | 36. Дзяржынскі . . . | 1,42 |
| 13. Пястоўскі . . . | 3,8 | **X. Жыткавіцкі** | |
| 14. Сардзіцкі. . . . | 2,24 | 37. Бранілаўскі . . . | 0,57 |
| 15. Бігосаўскі . . . | 1,8 | 38. Юркавіцкі . . . | 0,7 |
| 16. Расецкі . . . . | 4,8 | **XI. Заслаўскі** | |
| **V. Бягомльскі** | | 39. Траскоўскі . . . | 4,32 |
| 17. Беразоўскі . . . | 4,11 | 40. Борздынскі . . . | 3,65 |
| 18. Вітуніцкі . . . . | 4,21 | 41. Анусінскі. . . . | 6,5 |
| 19. Глінскі . . . . | 6,10 | 42. Рагоўскі . . . . | 3,39 |
| 20. Бярэзінскі . . . | 4,48 | 43. Шыршунскі . . . | 7,27 |
| **VI. Плешчаніцкі** | | **XII. Лагойскі** | |
| 21. Запольскі . . . | 3,83 | 44. Бясецкі . . . . | 5,5 |
| 22. Крайскі . . . . | 3,82 | 45. Калачаўскі . . . | 6,31 |
| 23. Узьбіцкі . . . . | 2,8 | | |

*Табліца 2.*

**Распаўсюджаньне чорнай ножкі па с/с БССР у 1932 г.**

| Назва раёну і с/с. | Чорная ножка | |
|---|---|---|
| | Бацьвін. | Клубяні |
| **I. Асьвейскі** | | |
| 1. Малашкаўскі | — | — |
| 2. Задзежанскі | 0,02 | 0,05 |
| 3. Красоўскі | 1,44 | — |
| 4. Сухарукаўскі | 0,03 | — |
| 5. Сенькаўскі | 3,35 | — |
| 6. Асьвейкаўскі | 4,99 | — |
| 7. Кісялёўскі | 2,24 | — |
| 8. Асьвейскі | 2,53 | — |
| 9. Коханаўскі | 0,1 | — |
| 10. Савейкаўскі | 2,6 | — |
| **II. Аршанскі** | | |
| 11. Верабойніцкі | 1,2 | — |
| 12. Пішчалаўскі | 1,3 | — |
| 13. Кудаеўскі | 1, | — |
| 14. Панізоўскі | 3,28 | — |
| 15. Стайкаўскі | 0,29 | — |
| 16. Лецнявіцкі | 0,38 | — |
| 17. Багушэўскі | 0,6 | — |
| 18. Астапенскі | 0,9 | — |
| 19. Ярошкаўскі | 0,11 | — |
| 20. Рудкоўскі | 0,37 | — |
| 21. Брозьдзечанскі | 0,3 | — |
| 22. Сталінскі | 0,8 | — |
| 23. Высоцкі | 1,3 | — |
| 24. Шапкаўскі | 1,3 | — |
| 25. Якаўлевіцкі | 0,5 | — |
| 26. Мешаўскі | 1,1 | — |
| **III. Бабруйскі** | | |
| 27. Сторцаўскі | 1,39 | — |
| 28. Мышкаўскі | 0,49 | — |
| 29. Любаніцкі | 1, | — |
| 30. Хімавіцкі | — | — |
| 31. Паўлоўскі | 1,1 | — |
| 32. Ляшчанскі | 1,38 | — |
| 33. Харлапаўскі | 0,82 | — |
| 34. Бортнікаўскі | 0,9 | — |
| 35. Міхалеўскі | 2,1 | — |
| 36. Каменскі | 1,2 | — |
| 37. Барысьняўскі | 0,37 | — |
| 38. Прадзьвінскі | 0,21 | — |
| 39. Гарадзецкі | 3, | — |
| 40. Капусьцянскі | 0,3 | — |
| 41. Баравіцкі | 0,1 | — |
| 42. Туркаўскі | 0,25 | — |
| 43. Кавалёўскі | 1,6 | — |
| 44. Мар'еўскі | 0,25 | — |
| **IV. Брагінскі** | | |
| 45. Астраглядаўскі | 1, | — |
| 46. Малейкаўскі | 2,1 | — |
| 47. Мікуліцкі | 1, | — |
| 48. Воблаўскі | — | — |
| **V. Буда-Кашалёўскі** | | |
| 49. Недайскі | 0,7 | — |
| 50. Губіцкі | 1,2 | — |
| 51. Буда-Кашалёўскі | 1,4 | — |
| 52. Дуравіцкі | — | — |
| 53. Рагінскі | 0,2 | — |
| 54. Ліпеніцкі | 0,3 | — |
| **VI. Бягомльскі** | | |
| 55. Бягомльскі | 4,4 | — |
| 56. Мсьціскі | 1,8 | — |
| 57. Асаўскі | 3,5 | — |
| 58. Уканскі | 1,1 | — |

| Назва раёну і с/с. | Чорная ножка | |
|---|---|---|
| | Бацьвін. | Клубяні |
| **VII. Веткаўскі** | | |
| 59. Рэчкаўскі. . . . | 1, | — |
| 60. Апчынскі. . . . | 3, | — |
| 61. Ухаўскі . . . . | — | — |
| 62. Рудня-Шлягінскі . | — | — |
| 63. Нова-Грамыцкі . . | 1,9 | — |
| 64. Веткаўскі[1]. . . . | 0,15 | — |
| 65. Хальчынскі . . . | 0,3 | — |
| 66. Тарасаўскі . . . | 1, | — |
| 67. Ачэса-Руднянскі. . | 1,7 | — |
| 68. Сьвяцілаўскі. . . | — | — |
| 69. Данілаўскі . . . | 1,5 | — |
| 70. Шарсьцінскі. . . | 1,5 | — |
| **VIII. Вузьдзенскі** | | |
| 71. Целяхоўскі . . . | 0,6 | — |
| 72. Зенькаўскі . . . | 0,8 | 0,03 |
| 73. Слабада-Цірашоўскі | 0,24 | 0,1 |
| 74. Сямікоўскі . . . | 0,6 | 0,02 |
| 75. Магільнянскі. . . | 1,56 | 0,03 |
| 76. Стальбоўскі . . . | 0,18 | 0,— |
| 77. Лашанскі. . . . | 0,41 | — |
| 78. Прысынкаўскі . . | 0,12 | — |
| 79. Камянецкі . . . | 0,13 | 0,01 |
| **IX. Вушацкі** | | |
| 80. Кубліцкі . . . . | 3, | 3,85 |
| 81. Вяліка-Долецкі . . | 1,73 | 1, |
| 82. Зарачанскі . . . | 1,66 | 0,64 |
| 83. Гарбаўскі. . . . | 0,025 | — |
| 84. Жарскі . . . . | 0,3 | 0,1 |
| 85. Гарадзецкі. . . . | — | — |
| 86. Вушацкі . . . . | 3,1 | 2, |
| **X. Гомельскі** | | |
| 87. Гомельскі . . . | 1,7 | — |
| 88. Дзятлаўскі . . . | 1,2 | — |
| 89. Карналінскі . . . | 1,6 | — |
| 90. Міхалькоўскі . . | 3,95 | — |
| 91. Жарабінскі . . . | 0,6 | — |
| 92. Прыбыткоўскі . . | 0,8 | — |
| 93. Клімаўскі. . . . | 0,4 | — |
| 94. Касьцюковіцкі . . | 3, | — |
| 95. Яроменскі . . . | — | — |
| 96. Лукаўскі. . . . | 8,3 | — |
| **XI. Горацкі** | | |
| 97. Рэкцянскі. . . . | 3,4 | — |
| 98. Макараўскі . . . | 1,18 | — |
| **X. Дрысенскі** | | |
| 99. Валынецкі . . . | — | — |
| 100. Жаўнянскі . . . | — | — |
| 101. Каркалеўскі. . . | 2,6 | — |
| 102. Луначарскі. . . | — | — |
| 103. Галубоўскі. . . | 0,88 | — |
| 104. Прузінкаўскі . . | 0,91 | — |
| 105. Дзернавіцкі. . . | 0,13 | — |
| 106. Баркоўскі . . . | 0,29 | — |
| 107. Юзафоўскі. . . | 0,9 | — |
| **XI. Жыткавіцкі** | | |
| 108. Жыткавіцкі. . . | 1,7 | — |
| 109. Ледзеневіцкі . . | 0,7 | — |
| 110. Руднянскі . . . | 0,9 | — |
| 111. Ліхавіцкі . . . | 1,3 | — |
| **XII. Заслаўскі** | | |
| 112. Сёмкава-Гарадзецкі | 1,3 | 0,17 |
| 113. Шапялеўскі. . . | 1,2 | 0,2 |
| 114. Гатовінскі . . . | 1,3 | 0,27 |
| 115. Слабадзкі . . . | 1,9 | 0,42 |
| 116. Заслаўскі . . . | 0,6 | 0,2 |
| 117. Старасельскі . . | 1,7 | 0,43 |
| 118. Гуцянскі . . . | 0,5 | — |

| Назва раёну і с/с. | Чорная ножка | |
|---|---|---|
| | Бацьвін. | Клубяні |
| 119. Трасоўскі . . . | 0,27 | — |
| 120. Рагоўскі. . . . | 1,4 | — |
| 121. Шаршунскі. . . | 0,5 | — |
| **XIII. Койданаўскі** | | |
| 122. Койданаўскі . . | 0,06 | — |
| 123. Новасёлкаўскі . . | 0,7 | — |
| 124. Сталінскі . . . | 1,8 | — |
| 125. Станькаўскі. . . | 0,4 | — |
| 126. Рубікоўскі . . . | 4,5 | 0,8 |
| 127. Вазёрскі. . . . | 0,9 | — |
| **XIV. Копыльскі** | | |
| 128. Гразоўскі . . . | 1,56 | 0,025 |
| 129. Пацейкаўскі . . | 1,86 | 0,01 |
| 130. Браткаўскі . . . | 2,5 | 0,02 |
| 131. Бабаўнянскі. . . | — | — |
| **XV. Лагойскі** | | |
| 132. Лагойскі . . . | 1,2 | — |
| 133. Падонкаўскі . . | 0,92 | — |
| 134. Гайнскі . . . . | 1,3 | — |
| 135. Прудзянскі. . . | 3,2 | — |
| 136. Калачаўскі . . . | 1,8 | — |
| 137. Слабадзкі . . . | 2,3 | — |
| 138. Янускі . . . . | 1,4 | — |
| **XVI. Лельчыцкі** | | |
| 139. Лельчыцкі . . . | 1, | — |
| 140. Вушаковіцкі . . | 0,6 | — |
| 141. Малашэвіцкі . . | 0,92 | — |
| 142. Банаўскі . . . | — | — |
| 143. Стадольскі . . . | — | — |
| **XVII. Магілеўскі** | | |
| 144. Грабянецкі . . . | 0,4 | — |
| 145. Шчакарскі . . . | 0,1 | — |
| 146. Княжаўскі . . . | 4,2 | — |

| Назва раёну і с/с. | Чорная ножка | |
|---|---|---|
| | Бацьвін. | Клубяні |
| 147. Брокаўскі . . . | 1,68 | — |
| 148. Новасёлкаўскі. . | 1,65 | — |
| 149. Вышаўскі . . . | 1,87 | — |
| 150. Рафалаўскі . . . | 1,7 | — |
| 151. Трыпалеўскі . . | 0,52 | — |
| 152. Пашкоўскі . . | 1,6 | — |
| 153. Цішаўскі . . . | 1,5 | — |
| 154. Сялецкі . . . | 2,5 | — |
| 155. Чорназемаўскі . | 5,5 | — |
| 156. Добрасьневіцкі . | 1,4 | — |
| 157. Краснапольскі . | 1, | — |
| 158. Палыкаўскі . . | 1,2 | — |
| 159. Таранаўскі . . | 0,8 | — |
| 160. Дашкаўскі . . . | — | — |
| 161. Бандораўскі . . | 1,5 | — |
| 162. Хонаўскі . . . | 1, | — |
| 163. Дасавіцкі . . . | 1,24 | — |
| 164. Гусьлішчанскі . . | 1,1 | — |
| **XVIII. Мозырскі** | | |
| 165. Ліпаўскі . . . | — | 2, |
| 166. Данілавіцкі. . . | 1,16 | 0,7 |
| **XIX. Менскі** | | |
| 167. Грачанскі . . . | 0,38 | 0,04 |
| 168. Ратамскі . . . | 0,3 | — |
| 169. Менскі . . . . | 0,04 | — |
| 170. Астрашыцка-Гарадзецкі . . . . | — | — |
| 171. Папярнянскі . . | — | — |
| 172. Сеньніцкі . . . | 0,08 | — |
| **XX. Плешчаніцкі** | | |
| 174. Камянецкі . . . | 1,39 | — |
| 175. Ганцаўскі . . . | 0,54 | — |
| 176. Акалоўскі . . . | 4,5 | — |
| 177. Плешчаніцкі . . | 1,3 | — |

| Назва раёну і с/с. | Чорная ножка | |
|---|---|---|
| | Бацьвін. | Клубяні |
| **XXI. Полацкі** | | |
| 178. Махіраўскі | 1,47 | — |
| 179. Экіманскі | 2,4 | — |
| 180. Варнічаўскі | 0,6 | — |
| 181. Заскарскі | 2,1 | — |
| 182. Бельскі | 0,85 | — |
| 183. Салоніўскі | 0,63 | — |
| 184. Баярскі | 0,82 | — |
| 185. Громаўскі | 3,97 | — |
| **XXII. Пухавіцкі** | | |
| 186. Блонскі | 1,7 | — |
| 187. Пухавіцкі | 1,7 | 0,04 |
| 188. Блускі | 1,7 | — |
| 189. Цімшанскі | 0,8 | — |
| 190. Рудзінскі | 1,5 | — |
| 191. Навасёлкаўскі | 1,8 | 0,09 |
| 192. Дукорскі | 1,3 | — |
| 193. Пярэжарскі | 1,2 | 0,02 |
| 194. Сяргееўскі | 0,4 | — |
| 195. Цытлянскі | 0,32 | — |
| 196. Турынскі | 0,5 | — |
| 197. Балоцкі | 1,6 | — |
| 198. Вузьлянскі | 0,7 | — |
| 199. Дудзіцкі | 0,5 | — |
| 200. Суцінскі | 1,63 | — |
| 201. Панькаўскі | 0,9 | — |
| 202. Галоцкі | 3, | — |
| 203. Каршуноўскі | 4, | — |
| 204. Сьмілавіцкі | 1,7 | — |
| 205. Дрычанскі | 1,1 | — |
| 206. Кнораўскі | 1,5 | — |
| 207. Слабацкі | 1,5 | — |
| 208. Селецкі | 1,6 | — |
| **XXIII. Рагачэўскі** | | |
| 209. Запольскі | 0,2 | — |
| 210. Ціханічы | 1,1 | — |
| 211. Сьвержанскі | 0,2 | — |
| 212. Побалаўскі | 2,2 | — |
| 213. Забалоўскі | 2 | — |
| 214. Маластражаўскі | 1,1 | — |
| 215. Гудзілаўскі | 1,4 | — |
| **XXIV. Рэчыцкі** | | |
| 216. Нахаўскі | — | 1,17 |
| 217. Васілевіцкі | 0,25 | — |
| 218. Бабіцкі | 0,5 | — |
| 219. Капараўскі | — | — |
| 220. Жмураўскі | — | — |
| 221. Сьвірыдаўскі | 0,6 | — |
| 222. Засьпенскі | 1,07 | — |
| 223. Горвальскі | 2,4 | — |
| 224. Сьвецкі | 1,95 | — |
| 225. Баравікоўскі | 2,3 | — |
| 226. Дзеняхоўскі | 0,43 | — |
| 227. Перасьвятоўскі | — | — |
| **XXV. Слуцкі** | | |
| 228. Івана-Гародненскі | 3,3 | 0,02 |
| 229. Урэцкі | 1,8 | — |
| 230. Сарагоўскі | 3,27 | 0,05 |
| 231. Ленінскі | 1,92 | — |
| **XXVI. Сураскі** | | |
| 232. Сураскі | — | — |
| 233. Пушнікаўскі | 0,2 | — |
| 234. Шумілінскі | 1,32 | — |
| 235. Спаскі | 4,1 | — |
| 236. Лужанскі | — | — |
| **XXV. Старобінскі** | | |
| 237. Старобінскі | 3,2 | — |
| 238. Доўгаўскі | 5,8 | — |
| 239. Чырвона-Дворскі | 1,2 | — |
| 240. Чапялеўскі | 2,1 | — |

| Назва раёну і с/с. | Чорная ножка | | Назва раёну і с/с. | Чорная ножка | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Бацьвін. | Клубяні | | Бацьвін. | Клубяні |
| **XXVI. Смалявіцкі** | | | **XXIX. Увараўскі** | | |
| 241. Жажалькаўскі . | 1,4 | — | 258. Пянчынскі . . | 1,59 | — |
| 242. Юраўскі . . . | 0,7 | — | 259. Крыўскі . . . | 1,8 | — |
| 243. Амяльянаўскі . . | 0,2 | — | 260. Уваравіцкі . . . | 0,31 | — |
| 244. Слабадзкі . . | 2,9 | — | **XXX. Церахоўскі** | | |
| 245. Жодзінскі . . . | 0,3 | — | 261. Насавіцкі . . . | 0,7 | — |
| 246. Пліскі . . . . | — | — | 262. Іпеўскі . . . | 0,8 | — |
| 247. Прылепскі . . . | 1,1 | — | 263. Васілеўскі . . . | — | — |
| 248. Варатоўскі . . . | 1,4 | — | 264. Віціцкі . . . . | 0,2 | — |
| 249. Кляніцкі . . . | 2 | — | 265. Боршаўскі . . . | 0,9 | — |
| **XXVII. Тураўскі** | | | 266. Пясочна-Дурскі . | — | — |
| | | | 267. Грабоўскі . . . | 3 | — |
| | | | **XXXI. Чырвона-Слабодзкі** | | |
| 250. Запясоцкі . . . | 0,55 | — | 268. Малышэвіцкі . . | 1,97 | 0,005 |
| 251. Перароўскі . . | 0,31 | — | 269. Замагільскі . . | 0,5 | 0,2 |
| 252. Танескі . . . | — | 0,2 | 270. Ч.-Слабодзкі . . | 0,97 | — |
| 253. Тураўскі . . . | 10, | — | 271. Макранскі . . . | 2,3 | — |
| 254. Азяранскі . . . | 2,23 | — | 272. Себяжоўскі . . | 2,1 | — |
| **XXVIII. Талочынскі** | | | **XXXII. Смалявіцкі** | | |
| 255. Еўлахаўскі . . | 2,4 | — | 273. Жодзінскі . . . | 2, | — |
| 256. Талочынскі . . | 1,9 | — | 274. Пліскі . . . . | 2,2 | — |
| 257. Азярэцкі . . . | 2,25 | — | 275. Вярхменскі. . . | — | — |

| Назва раёну і с/с. | % захв. на чорн. ножку | | Назва раёну і с/с. | % захв. на чорн. ножку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Батва | Клубяні | | Батва | Клубяні |
| **Барысаўскі р-н** | | | Карсакоўскі . . . | 4,3 | — |
| | | | Касьцюковіцкі . . . | 1,2 | — |
| Шыцькоўскі с/с . . | 1,36 | — | Зембінскі . . . . | 1,6 | — |
| Бродаўскі . . . . | 0,55 | — | Вяліка-Стракоўскі . . | 1,2 | — |
| Загыцкі . . . . | 2,6 | — | Перасадзкі . . . . | 2,7 | — |
| Баранскі . . . . | 2,3 | — | Лошніцкі . . . . | 1,2 | — |
| Жартайскі . . . . | 4,5 | — | Навасёлкі . . . . | 1,5 | — |
| Гліўенскі . . . . | 2,5 | — | Вял.-Нечняўскі . . | 1,93 | — |
| Забатаўскі . . . . | 1,3 | — | Метчанскі . . . . | 1,6 | — |
| | | | Азьдзяцкі. . . . . | 1,5 | — |

| Назва раёну і с/с. | % захв. на чорн. ножку | |
|---|---|---|
| | Батва | Клубяні |
| **Быхаўскі р-н** | | |
| Вузьніцкі | 1,0 | — |
| Трымсіцкі | 1,37 | — |
| Грудзенскі | 1,0 | — |
| Баркалабаўскі | 0,6 | — |
| Загаўскі | 1,1 | — |
| Ісканскі | 5,3 | — |
| Абідаўскі | 2,4 | — |
| Хатаўлянскі | 2,2 | — |
| Земніцкі | 1,8 | — |
| Быхаўскі | 11,1 | — |
| Луцыцкі | 0,8 | — |
| Таймакоўскі | 7,0 | — |
| Нова-Быхаўскі | 0,6 | — |
| Чырвона-Бярэскі | 3,7 | — |
| Падзільскі | 1,37 | — |
| Дунайкаўскі | 2,0 | — |
| Чыгерынскі | 0,98 | — |
| Чачавіцкі | 0,81 | — |
| **Віцебскі р-н** | | |
| Самоцкі | 1,2 | — |
| Бабіцкі | — | — |
| Міхалеўскі | 2,1 | — |
| Дашычынскі | 1,1 | — |
| Бараўлянскі | 4,7 | — |
| Старасельскі | 0,7 | — |
| В. Лічанскі | 4,1 | — |
| Шумыліскі | 0,55 | — |
| Рудакоўскі | — | — |
| **Клічаўскі р-н.** | | |
| Ісакінскі | 3,9 | — |
| Дубенскі | 3,16 | — |
| Ядрана-Слабодзкі | 1,7 | — |
| Даўгянскі | 1,75 | — |
| Убалацкі | 0,5 | — |
| Ганчанскі | 2,0 | — |
| Бацэвіцкі | 1,0 | — |
| Усокскі | 2,2 | — |
| Клічаўскі | 2,0 | — |
| Уладзімірскі | 1,0 | — |
| Максімаўскі | 1,84 | — |
| Кубчанскі | 3,0 | — |
| **Клімавіцкі р-н.** | | |
| Мілаславіцкі | 0,02 | — |
| Галіцка-Мыскі | — | — |
| Малевіцкі | 0,04 | — |
| Зьвешчанскі | 0,07 | — |
| Хатавіцкі | 0,17 | — |
| Гусарскі | 0,68 | — |
| Лазаўскі | 0,88 | — |
| Асмалоўскі | 1,33 | — |
| Аўтухоўскі | 0,79 | — |
| Красавіцкі | 0,97 | — |
| Студзескі | 0,75 | — |
| **Кармянскі р-н** | | |
| Карацькоўскі | 0,75 | — |
| Вернаўскі | 4,0 | — |
| Балатнянскі | 1,2 | — |
| Куракоўскі | 0,75 | — |
| Курпаніцкі | 0,7 | — |
| Барсукоўскі | 0,09 | — |
| Хіваўскі | 0,08 | — |
| Задубскі | 0,06 | — |
| **Чырвона-Слабодзкі р-н** | | |
| Старчыцкі с/с | 1,25 | — |
| Чаплінскі | — | — |
| Малышэўскі | 2,0 | — |
| Жываглодаўскі | 1,05 | — |
| Чырвона-слабодзкі | 1,2 | — |
| Замагільскі | 0,3 | — |
| Сталіцкі | — | — |
| Бучацінскі | — | — |

З прыведзеных табліц мы бачым, што ў 1931 г. чорная ножка была пашырана значна больш чым у 1931 годзе. Калі ў 1931 г. звычайным процантам чорнай ножкі для БССР можна было лічыць 3,7%, то ў 1932 г. гэты процант значна зьнізіўся.

Рэзкае зьніжэньне проценту захворваньняў бульбы на чорную ножку ў 1932 г. у параўнаньні з 1931 г. тлумачыцца меншай колькасьцю выпаўшых ападкаў у 1932 г. Калі паглядзець крывую ападкаў за 1931-32 гг., у параўнаньні з шматгадовай крывой, то відаць, што крывая ападкаў 1931 г. больш шматгадовай крывой, у той час, як крывая ападкаў 1932 г. значна зьніжаецца, чым і тлумачыцца значнае зьмяншэньне захворваньняў на чорную ножку ў 1932 г. Толькі ў такіх раёнах як Тураўскі і Жыткавіцкі, дзе ападкаў у 1932 г. выпала больш у параўнаньні з 1931 г.—назіраецца і большы процант захворваньняў на чорную ножку. Крыніцай, якая служыць для ўзьнікненьня чорнай ножкі, зьяўляюцца заражоныя клубяні, якія, будучы высаджаны, даюць хворую расьліну. Барацьба з гэтай хваробай шляхам адбору здаровых клубянёў вельмі затруднена, бо заражаны клубень незаўсёды можна адрозьніць ад здаровага. Другой больш сталай крыніцай зьяўляецца глеба, якая заўсёды забруджана бактэрыямі, якія трапляюць у яе з загніўшых расьлін і клубянёў, што засталіся ў полі, адсюль відаць, якое вялікае значэньне ў сэнсе зьмяншэньня хваробы мае чыстата ўборкі бульбы. Пранікненьне бактэрый у расьліну з глебы адбываецца заўсёды праз параненьні на клубянёх і парастках яго. Найбольш спрыяючай умовай для пранікненьня бактэрый зьяўляецца рэзка клубянёў перад пасадкай. Гэта пытаньне (пасадка рэзанымі клубянямі) апрача досьледаў Маскоўскага СТАЗР праверана нашымі двухгадовымі досьледамі, вынікі якіх прыводзім у наступнай табліцы.

| Сорт | Схэма | Процант няўзышоўш. | Проц. пашкодж. у часе вэгетац. | Ураджай ў процант. |
|---|---|---|---|---|
| Вольтман | 1. Цэлыя клубяні . . . . | 0,2 | 1 | 100 |
| | 2. Рэзаныя правяленыя з попелам. | 31, | 29,3 | 67,5 |
| | 3. Рэзаныя і правяленыя . . | 25, | 9, | 66, |
| | 4. Рэзаныя ў часе пасадкі . . | 35,2 | 26,3 | 45,5 |

УВАГА: Ураджай цэлых клубянёў узяты за 100%.

Гэты досьлед яскрава сьведчыць аб тым, што ні ў якім разе нельга пасыпаць попелам рэзаныя клубяні, бо ад попелу ствараецца лужная рэакцыя, якая вельмі добра спрыяе разьвіцьцю чорнай ножкі, як хваробы бактэрыяльнай, а адгэтуль вынік—лепш за ўсё рабіць пасадку бульбы цэлымі клубянымі; калі-ж недахоп бульбы вымагае разразаць клубяні, дык трэба абавязкова іх правяліць на сонцы за некалькі дзён да пасадкі.

*Устанаўленьне правільнага севазвароту ў змаганьні* з чорнай ножкай адыгрывае вялікае значэньне. Гэта пацьвярджае наступны прыклад: у Цестаўскім сельсавеце, Дрысенскага раёну бульба па збажыне з гноем дала паражэньне чорнай ножкай 2,8%; бульба-ж па бульбе таксама на гнаі дала 9% паражэньня і такіх прыкладаў можна падаць вельмі многа.

*Угнаеньне* таксама робіць уплыў на паражэньне. Гэта відаць з наступнай табліцы.

Табліца

**Уплыў угнаеньняў на пашкоджанасьць чорнай ножкай**

| Раён і с/с. | Глеба | Сорт | Угнаеньне | Проц. пашкодж. чорнай ножкай |
|---|---|---|---|---|
| 1. Вузьдзенскі р., Зенькаўскі с/с . . . . . . . | супяшчан | мяшан. | Гной+штучн. ўгнаен.<br>Гной | 13,6<br>31,1 |
| 2. Вузьдзенскі р., Магільнянскі с/с. . . . . . | „ | „ | Гной<br>Гной+торф+мінэр. ўгн. | 3,3<br>0,95 |
| 3. Пухавіцкі р., Блонскі с/с. . | суглін. | „ | Гной<br>Гной+супэрф. | 3,3<br>0,6 |
| 4. Слуцкі р., Івана-Гарадзецкі с/с. . . . . . . . | „ | „ | Гной<br>Гной+мін. угн. | 5,<br>1,0 |
| 5. Чырвона-Слабодзкі р., Слабадзкі с/с. . . . . . | супяшчан | вольтм | Гной<br>Мінэр. ўгн. | 1,2<br>0,75 |
| 6. Магілеўскі р., Гарадзішчанскі с/с. . . . . . | суглінак | „ | Гной<br>Попел | 0,5<br>1,2 |
| 7. Горацкі р., Рэкнянскі с/с. . | „ | „ | Гной<br>Гной+мін. ўгн. | 4,<br>2,8 |
| 8. Заслаўскі р., Затавінскі с/с. | „ | сілез. | Гной<br>Гной+кас. мука | 1,7<br>1, |
| 9. Заслаўскі р., Слабадзкі с/с. | „ | вольтм. | Гной<br>Гной+фос. мука<br>Сільвініт | 3,<br>1,7<br>1,1 |
| 10. Заслаўскі р., Старасельскі с/с. . . . . . . . : | „ | позьні | Гной<br>Гной+супэрф.+калійн. соль | 2,7<br>0,7 |
| 11. Койданаўскі р., Базерскі с/с. . . . . . . . | „ | сілез. і грацыя | Гной<br>Гной+супэрф+фосф. мука | 1,9<br>— |

## Сартавая ўстойлівасьць супроць чорнай ножкі

Даныя двухгадовага абсьледваньня, а таксама нашы назіраньні сьведчаць аб тым, што ня ўсе сарты пашкоджваюцца чорнай ножкай аднолькава, гэта дае магчымасьць адрозьніваць сарты з большай або меншай устойлівасьцю. Пры гэтым неаб-

ходна адзначыць, што ў залежнасьці ад глебава-кліматычных умоў, угнаеньня і агротэхнічныя мерапрыемстваў ступень устойлівасьці можа хістацца для кожнага сорту ў значнай меры. Першае месца па сваёй няўстойлівасьці да чорнай ножкі займае Рабінаўка, другое Вольтман, потым Парнасія, Позьні ружовы, Дэодара і г. д. Найбольш трывалымі супроць чорнай ножкі зьяўляюцца Грацыя, Зьніч, Юбэль, Сітцавы.

### Меры барацьбы з чорнай ножкай

1. Крыніцай узьнікненьня чорнай ножкі, апрача глебы, зьяўляюцца заражоныя клубяні, якія пасьля пасадкі даюць хворую расьліну. Каб папярэдзіць захворваньне на чорную ножку, трэба рабіць самы старанны адбор бульбы як увосень пры закладцы на захоўзаньне, так і вясною—пры пасадцы.

2. Увядзеньне правільнага севазвароту, унікаючы пасадкі бульбы на адным і тым-жа месцы на працягу некалькіх гадоў, бо гэта спрыяе размнажэньню бактэрый у глебе.

3. Не рабіць пасадку рэзанымі клубнямі, бо ад гэтага хвароба вельмі распаўсюджваецца, атрымліваецца вялікі процант няўсхожасьці, у выніку чаго ўраджайнасьць вельмі зьніжаецца.

4. Ужываць пад бульбу мінэральныя ўгнаеньні або мінэральныя ўгнаеньні з бульбай, а таксама старацца непасрэдна ня класьці пад бульбу аднаго гною, ад чаго значна зьніжаецца процант захворваньня.

5. Зьнішчэньне захвэраўшых расьлін шляхам прачысткі ў часе вэгетацыі асьцерагае бульбу ад далейшага заражэньня (гл. табл.):

Табліца

| Сорт | Схэма | Проц. клубнёў, пашкоджан. чорн. нож. у часе ўборкі | Процант клубнёў, пашкодж. чорн. ножк. ў часе зімов. лёжкі | Увага |
|---|---|---|---|---|
| Вольтман | 1. Контроль без прачысткі . . . . . . | 11,3 | 12,0 | Пры 3-разовай прачыстцы 1-я рабілася пасьля поўных усходаў, другая ў часе цьвіценьня, 3-я праз 3-4 тыдні пасьля цьвіценьня |
| | 2. 3-разовая прачыстка . | 4,6 | 4,0 | |
| | 3. Падэкадная прачыстка | 2, | 4,0 | |
| Абэль | 1. Контроль без прачысткі . . . . . . | 2,6 | 2, | |
| | 2. 3-разовая прачыстка . | 0,6 | — | |
| | 3. Падэкадная прачыстка | 0,6 | — | |

Пытаньне вывядзеньня новых сартоў і вывучэньне хэмічных мэтодаў змаганьня з чорнай ножкай набывае першараднае значэньне, а таму дасьледчым установам, маючым справу з культурай бульбы, трэба на працягу бліжэйшых гадоў вырашыць гэтую задачу, даўшы магчымасьць бульбянай гаспадарцы пазбавіцца ад страт, якія прыносіць чорная ножка.

М. Грынблят

# Этнографічныя досьледы ў БССР у другой пяцігодцы.

Апошнія два гады зьяўляюцца гадамі пералому ва ўсім навуковым жыцьці Беларусі і рашучых зрухаў у этнографічнай рабоце.

Сыстэматычная работа па этнографічнаму дасьледваньню Беларусі стала магчымай толькі ў выніку Кастрычнікаўскага перавароту, калі з колёніі і адсталай „окраины“ царскай Расіі Беларусь ператварылася ў вольную савецкую рэспубліку, якая шпарка ідзе па шляху экономічнага і нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Толькі пасьля ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня, што дало моцны штуршок нябываламу росту культуры, нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу, шырока разгарнулася ўсебаковае вывучэньне народаў СССР.

Этнографічнае вывучэньне Беларусі концэнтруецца з 1922 г. у некаторых камісіях Інбелкульту (фольклёрна-дыялектолёгічнай, народнай музыкі, хатніх рамёслаў), пазьней у спэцыяльнай Катэдры этнографіі пры Інбелкульце, а пасьля яго рэорганізацыі,—пры Беларускай Акадэміі Навук. Этнографічнай работай часткова займаўся таксама Беларускі дзяржаўны музэй у Менску (організацыя экспэдыцый для зьбіраньня этнографічных рэчаў, экспозыцыя Этнографічнага аддзелу Музэю і г. д.), а зьбіраньне розных этнографічных матар‘ялаў праводзілася таксама праз Цэнтральнае бюро краязнаўства цэлым радам краязнаўчых організацый на мясцох.

Усе гэтыя ўстановы да апошніх год аказаліся пад моцным уплывам буржуазна-нацыяналістычных элемэнтаў, што, зразумела, не магло не адбіцца на характары і якасьці этнографічных досьледаў. Абвостраная клясавая барацьба ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва вельмі моцна сказалася і ў галіне этнографіі. Беларускія контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы і шовіністы іншых адценьняў, якія часова аказаліся кіраўнікамі этнографічнай і краязнаўчай справы ў БССР, прыкрываючыся маскай „нэўтральнасьці" этнографічнай навукі, на самай справе падпарадкавалі яе сваім варожым пролетарыяту мэтам і ўсяляк выкарыстоўвалі яе для падмацаваньня і популярызацыі сваіх ідэолёгічных установак. Асноўнымі характэрнымі асаблівасьцямі нацдэмаўскай этнографіі былі—адрыў ад актуальных проблем сучаснасьці, ігнараваньне савецкай тэматыкі, утварэньне такіх „тэорый“, як „тэорыя самабытнасьці беларускай нацыі і куль-

туры", „тэорыя Крывіі і волатаў", тэорый, якія ня толькі нічога супольнага ня мелі з навукай і марксысцка-ленінскім вучэньнем, але былі проста накіраваны супроць савецкай дзяржавы і рабочай клясы.

Крытычны агляд нацдэмаўскай продукцыі ў галіне этнографіі, ня зусім яшчэ дастатковы, даны ў 3-м выпуску I тому зборніка „Навука" на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі" (Менск, 1931 г., выд. БАН), у цэлым радзе артыкулаў у часопісах і пэрыодычным друку, а таксама ў апошняй працы акад. Н. М. Нікольскага—„Установкі і мэтоды беларускай нацдэмаўскай этнографіі" (Сов. Этн., Ленінград, 1932, № 4), таму спыняцца на гэтым пытаньні мы ня будзем.

Партыяй пры дапамозе марксысцкай крытыкі і ўсёй савецкай грамадзкасьці нацыянал-дэмократызм быў разгромлены. Былі ўскрыты і выяўлены іх асноўныя контррэволюцыйныя ўстаноўкі і зьменена кіраўніцтва Катэдры этнографіі.

З восені 1930 г., пасьля рэорганізацыі БАН і ўсёй навукова-дасьледчай работы, карэнным чынам перабудоўваецца і этнографічная работа. Перабудова ідзе ў першую чаргу па лініі самай цеснай увязкі этнографіі з бягучымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва і бязьлітаснай барацьбы з клясава-варожымі ўстаноўкамі, за чыстату маркса-ленінскай тэорыі ў этнографіі.

Катэдра этнографіі была ўключана ў склад Інстытуту гісторыі на правах сэкцыі адпаведна з марксысцкай клясыфікацыяй гістарычных навук. Этнографы разам з археолёгамі і гісторыкамі вывучаюць гістарычны процэс комплексна, працуючы над сваімі спэцыфічнымі матар'яламі.

Работа Сэкцыі этнографіі за апошнія два гады па новым плянам праводзілася, пераважна, над тэмамі, зьвязанымі з соцыялістычным будаўніцтвам, з проблемамі даклясавай грамады, з крытыкай нацдэмаўскіх установак у беларускай этнографіі і г. д.

З тэм, якія распрацаваны і распрацоўваюцца працаўнікамі Сэкцыі этнографіі ў апошні час, можна паказаць наступныя:

1. Аб задачах і асноўных проблемах этнографічнага вывучэньня колгасаў.
2. Праца і быт рабочых на лесазагатоўках і лесасплаве.
3. Рыбалоўства і організацыя рыбнай гаспадаркі ў Беларусі.
4. Установкі і мэтоды беларускай нацдэмаўскай этнографіі.
5. Монотэізм і політэізм у яўрэйскай рэлігіі.
6. Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераньнях беларускага сялянства.
7. Мотывы клясавай барацьбы ў беларускім фольклёры.
8. Проблемы рэволюцыйнага фольклёру.
9. Бібліографія беларускай этнографіі пасьлярэволюцыйнага пэрыоду. І інш.

Ужо адзін пералік тэм дае ўяўленьне аб тым значным зруху, які адбыўся ў этнографічным вывучэньні Беларусі. Тэматыка цесна зьвязана з задачай пабудовы соцыялізму ў Савецкім саюзе.

Значна ажывілася таксама этнографічная работа ў нацыянальных сэктарох АН—Польскім, Літоўскім і Латыскім. Польскі сэк-

тар шырока разгарнуў работу павы вучэньню насельніцтва польскага нацыянальнага Дзяржынскага раёну. У справе разгортваньня этнографічнай работы адстае толькі яшчэ Яўрэйскі сэктар АН.

Карэнным чынам рэорганізавана таксама і экспэдыцыйная справа. У гэтай галіне АН БССР перайшла ад паасобных экспэдыцый на найбольш правільны шлях організацыі комплексных экспэдыцый. У экспэдыцыях 1931 і 1932 г.г. этнографы працавалі разам з гісторыкамі, лінгвістамі, археолёгамі і экономістамі па ўзгодненых агульных плянах. Гэтыя экспэдыцыі пацьвердзілі перавагі комплекснага мэтоду вывучэньня на практыцы.

Этнографічнае вывучэньне Беларусі, якое ажывілася за апошнія два гады, атрымае асаблівы размах у другой пяцігодцы. Складзены ў сучасны момант эскізны проект этнографічнай работы ў БССР яшчэ патрабуе дэталёвай прапрацоўкі і масавага абгаварэньня, але асноўныя проблемы ўжо зараз намечаны ўсім ходам соцыялістычнага будаўніцтва. Асноўныя палітычныя ўстаноўкі другой пяцігодкі, прынятыя на XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі, апошнія пастановы XIV зьезду КП(б)Б і адпаведныя дырэктывы ЦК КП(б)Б і СНК БССР па складаньню другога пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры даюць найлепшую разгорнутую програму работы ўсіх навукова-дасьледчых організацый і тым самым вызначаюць конкрэтны кірунак этнографічных досьледаў. Работа савецкіх этнографаў павінна быць у першую чаргу накіравана на выкананьне задач другой пяцігодкі, задач пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва. Такія задачы, як ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул у СССР, перамаганьне перажыткаў старых соцыяльна-экономічных формацый у экономіцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсіх працоўных у сьвядомых і актыўных будаўнікоў соцыялізму, утварэньне ўмоў для поўнай ліквідацыі процілегласьцяў між горадам і вёскай—ставяць перад савецкай этнографіяй рад зусім конкрэтных тэорытычных і практычных проблем.

Проект новага пяцігадовага пляну Інстытуту гісторыі АН БССР, сустаўной часткай якога (Інстытуту) зьяўляецца і Сэкцыя этнографіі, пабудаваны іменна з улікам, у першую чаргу, грандыёзных задач другой пяцігодкі. Інстытут ставіць сваёй мэтай навуковую распрацоўку пытаньняў гісторыі Беларусі ў поўнай адпаведнасьці з асноўнымі ўстаноўкамі і дасьледчымі мэтодамі марксысцка-ленінскай гістарычнай навукі. Гэта новая распрацоўка гісторыі Беларусі павінна заняць месца ня зусім яшчэ зжытых вялікадзяржаўніцкай і нацдэмаўскай схэм. Вялікае практычнае і палітычнае значэньне такой распрацоўкі гісторыі Беларусі для соцыялістычнага будаўніцтва даводзіць ня трэба.

З тэм, орыентовачна пакуль уключаных у пяцігадовы плян навукова-дасьледчай работы Інстытуту гісторыі, можна прывесьці наступныя:

Параўнаўчая гісторыя Беларусі.
Гісторыя паселішч і гарадоў Беларусі.
Гісторыя народнай гаспадаркі Беларусі.
Гісторыя даклясавай грамады.
Гісторыя звычаёвага права.

Гісторыя матар'яльнай культуры Беларусі.

Гісторыя царкоўных арганізацый і рэлігійных плыняў на Беларусі.

Гісторыя саматужнай прамысловасьці Беларусі.

Ліквідацыя процілегласьцяў паміж горадам і вёскай у гістарычным разрэзе.

Гісторыя колгаснага будаўніцтва ў БССР і ліквідацыя кулацтва, як клясы, на базе суцэльнае колектывізацыі.

Гісторыя будаўніцтва нацыянальных колгасаў у БССР.

Гісторыя фабрык і заводаў Беларусі.

Тут прыведзены толькі тыя асноўныя проблемы, у распрацоўцы якіх прымуць непасрэдны ўдзел этнографы. Уся этнографічная работа ў Беларусі, такім чынам, будзе цесна зьвязана з агульным плянам гістарычных досьледаў, з агульным плянам Інстытуту гісторыі.

Сэкцыяй этнографіі ўжо конкрэтна распрацаваны плян работы, зьвязанай з проблемамі даклясавай грамады і яе ідэолёгіяй. Так, тэма „Гісторыя даклясавай грамады“ па беларускім матар'ялам як этнографічным, так і археолёгічным, фольклёрным, лінгвістычным, гістарычным і іншым, будзе распрацоўвацца ў выглядзе паасобных монографій і ахоплівае наступныя проблемы:

1. Проблема паляўнічай гаспадаркі (археолёгічныя даныя; рэконструкцыя гаспадарчага быту—зьбіральніцтва, бортніцтва, паляваньне, рыбалоўства; сьляды тотэмістычнай грамадзкай арганізацыі).
2. Проблема мацярынскіх родаў.
3. Проблема родавай земляробчай грамады.
4. Проблема распаду родавай грамады.
5. Магія і рэлігія.
6. Агульныя вывады ў сувязі з проблемай пабудовы марксысцкай концэпцыі гісторыі даклясавай грамады.

Работа ставіць сваёй мэтай сабраць і навукова апрацаваць матар'ялы для пабудовы агульнай гісторыі даклясавай грамады.

Да гэтай тэмы прымыкае „Гісторыя звычаёвага права ў Беларусі“. Работа орыентовачна ўключае такія разьдзелы: гаспадарчае права; прамысловае права; сям'я, род, грамада; працоўнае права; крымінальнае права; пакараньні; звычаёвае права і соцыялістычнае будаўніцтва.

Рэлігія зьяўляецца самым шкодным перажыткам мінулага. Пагэтаму ўключэньне ў плян работ Сэкцыі тэмы „Гісторыя царкоўных організацый і рэлігійных плыняў на Беларусі“ мае надзвычайна актуальнае політычнае значэньне. У аснову работы будуць пакладзены кіруючыя ўстаноўкі Маркса, Энгельса і Леніна аб сутнасьці рэлігіі, аб характары зьмен рэлігійных форм, аб рэлігіі, як зброі рэлігійнага ўціску і клясавай эксплёатацыі, аб контррэволюцыйнай ролі рэлігіі ў эпоху пролетарскай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва. Асабліва значэньне набывае аналіз таго складанага пераплёту клясавай барацьбы ў нацыяналь-

най і рэлігійнай маскоўцы, якая наглядаецца на ўсім працягу гісторыі Беларусі. Тэма гэта ўключае такія разьдзелы:

1. Фэўдальная грамада да пачатку разьвіцьця гандлёвага капіталу, яе царква і рэлігія.

2. Фэўдальная грамада эпохі ўтварэньня і росквіту пазычкова-гандлёвага капіталу і царкоўна-рэлігійная барацьба гэтай эпохі.

3. Эпоха распаду фэўдальнай Рэчы Паспалітай.

4. Эпоха прамысловага капіталізму, да 1905 г.

5. Эпоха крушэньня Расійскай імпэрыі.

6. Эпоха пролетарскай рэволюцыі і социялістычнага будаўніцтва (контррэволюцыйная роля рэлігіі, бязбожны рух, пэрспэктывы безрэлігійнага грамадзтва).

Па лініі вывучэньня колгаснага будаўніцта і гісторыі колгаснага руху Сэкцыя этнографіі намячае распрацоўку цэлага раду тэм, зьвязаных з бытам новай колгаснай вёскі, з культурнай рэволюцыяй, з адміраньнем перажыткаў у процэсе социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і клясавай барацьбы, з утварэньнем новых форм працы і вытворчых адносін, з ліквідацыяй клясавых адрозьненьняў паміж пролетарыятам і сялянствам. Проблемы этнографічнага вывучэньня колгасаў зоймуць віднае месца ў пляне работ Сэкцыі ў другой пяцігодцы.

Актыўным удзелам у агульнай рабоце Інстытуту па вывучэньню гісторыі фабрык і заводаў Беларусі, этнографічныя досьледы ўпяршыню пашыраюцца і на вывучэньне пролетарскіх цэнтраў, гарадзкіх рабочых. Работа гэта мае вялізарнае значэньне для гісторыі Беларусі, для гісторыі пролетарыяту. Пры Інстытуце гісторыі ўтвораны спэцыяльны Сакратарыят для кіраўніцтва гэтай работай. У першую чаргу для вывучэньня вызначаны 6 асноўных фабрык і заводаў БССР. Утвораны брыгады з навуковых работнікаў Інстытуту, у склад кожнай брыгады ўваходзіць этнограф.

Апрача ўказаных вышэй проблем, намечаных да распрацоўкі пяцігадовым плянам Інстытуту гісторыі і якія складаюць аснову і этнографічнай работы, Сэкцыя этнографіі, як сустрэчны плян, высоўвае ад сябе яшчэ такія тэмы: мова колгасьнікаў, нарысы па гісторыі беларускай этнографіі, знахарства і бытавая мэдыцына. Распрацоўка апошняй тэмы мае на мэце даць зводную работу і марксысцкі аналіз знахарства і бытавой мэдыцыны і іх перажыткаў, якія перамагаюцца ходам социялістычнага будаўніцтва і культурнай рэволюцыі. Вялікая работа будзе таксама праведзена па складаньню поўнай бібліографіі этнографіі Беларусі.

Вядзецца распрацоўка пяцігадовага пляну экспэдыцыйных досьледаў. Будзе вызначаны рад апорных пунктаў для стацыянарных досьледаў і зьбіраньня матар'ялаў. Значна павінен павялічыцца лік корэспондэнтаў Сэкцыі, для іх будзе выдана цэлая сэрыя мэтодолёгічных і мэтодычных дапаможнікаў.

Аднэй з важнейшых задач і ў другой пяцігодцы застаецца бязьлітасная барацьба з усімі клясава-варожымі ўхіламі ў нашай навуцы, крытычнае ўсваеньне спадчыны буржуазных этнографаў, аўладаньне матар'ялам, поўнае аўладаньне марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй.

Проектуецца шырока разгарнуць выданьне этнографічных матар'ялаў як тых, што захоўваюцца ў навуковым архіве Сэкцыі, так і тых, што нанова зьбіраюцца экспэдыцыямі. У першую чаргу намечана выданьне матар'ялаў па рэволюцыйнаму фольклёру, працоўных песен, матар'ялаў па вераваньням народаў БССР, па звычаёваму праву і інш.

Па лініі масавай політыка-асьветнай работы Сэкцыя этнографіі прыме актыўны ўдзел у выданьні масавай навукова-популярнай літаратуры, у разгортваньні антырэлігійнай пропаганды, у пастаноўцы лекцый і дакладаў і г. д. Намячаецца выданьне навукова-популярнай сэрыі „Народы БССР".

Этнографічная работа Сэкцыі будзе цесна ўвязана з адпаведнай работай нацыянальных сэктароў Акадэміі. Сэктары Яўрэйскі і Польскі рэорганізуюцца ў самастойныя навукова-дасьледчыя інстытуты яўрэйскай і польскай пролетарскай культуры. У пляне іх работ этнографічныя досьледы павінны заняць значнае месца.

Нарэшце, перад Сэкцыяй этнографіі ва ўвесь рост паўстае неадкладнае пытаньне аб утварэньні ў Беларусі строга-навуковага Музэю народаў БССР і нацыянальнай політыкі. Ён павінен быць організаваны пры Акадэміі і зрабіцца новым неабходным цэнтрам у рэспубліцы па разгортваньню навукова-дасьледчай работы па вывучэньню народаў БССР, буйнейшым цэнтрам масавай політыка-асьветнай работы, інтэрнацыянальнай пропаганды і паказу дасягненьняў социялістычнага будаўніцтва і нацыянальнай політыкі партыі. У новым будынку Акадэміі павінна быць адведзена спэцыяльнае памяшканьне для Музэю. Ужо трэба распачаць энэргічную падрыхтоўчую работу—па збору матар'ялаў, па падрыхтоўцы высока-кваліфікаваннх работнікаў і г. д. Да гэтай справы павінна быць прыцягнута ўся савецкая грамадзкасьць.

Усе грандыёзныя патрабаваньні, якія прад'яўляе савецкай этнографіі другая пяцігодка, ставяць перад навукова-дасьледчымі этнографічнымі організацыямі задачу шырокага размаху і максымальнага паскарэньня тэмпаў работы. Пры пашырэньні штатаў навуковых работнікаў Інстытуту гісторыі павінны быць улічаны патрэбы Сэкцыі этнографіі і склад яе работнікаў павінен атрымаць адпаведнае папаўненьне. Проблема кадраў можа быць вырашана шляхам падрыхтоўкі спэцыяльных асьпірантаў-этнографаў.

Задачы, якія стаяць перад савецкімі этнографамі БССР у другой пяцігодцы, вялікія. Яны будуць з посьпехам вырашаны пры напружаньні ўсіх сіл і энэргіі, социялістычнымі мэтодамі работы.

---

Т. Кулакоў

# Аб папярэдніх выніках агляду работы краязнаўчых організацый на мясцох

Барацьба за накіраваньне ўсёй краязнаўчай работы поўнасьцю на непасрэднае абслугоўваньне задач пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва і за масавасьць краязнаўства зьяўляецца асноўнымі ўстаноўкамі ў краязнаўчым руху. У аснову работы ўсёй краязнаўчай сеткі БССР у бягучым годзе былі пакладзены: пастановы XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б, 6 умоў тав. Сталіна, яго ліст у рэдакцыю часопісу „Пролетарская революция" і непасрэдныя дырэктывы партыі і ўраду па разгортваньню краязнаўчага руху. Пастанова СНК БССР ад першага чэрвеня г. г. „пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху" дала зусім яскравыя і катэгорычныя ўказаньні аб зьмесьце і формах краязнаўчага руху. У гэтай пастанове зусім ясна вызначана структура краязнаўчых організацый і адказнасьць Цэнтральнага бюро краязнаўства і раённых выканаўчых камітэтаў за забесьпячэньне сыстэматычнага разгортваньня краязнаўчай работы, організацыйнае аформленьне нізавой краязнаўчай сеткі (раённае бюро краязнаўства—цэнтры масавай навукова-дасьледчай работы на мясцох, краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах, у саўгасах, колгасах і пры школах) і опэрацыйнае кіраўніцтва іх работай.

„Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам аказаць матар'яльную дапамогу краязнаўчым організацыям у разгортваньні краязнаўчай работы (організацыя досьледаў, экспэдыцый, выданьне раённых краязнаўчых зборнікаў і іншае" (з пастановы) СНК БССР)

Гэтай-жа пастановай таксама прапанавана рэдакцыям газэты „Савецкая Беларусь" і раённым газэтам сыстэматычна асьвятляць работу краязнаўчых організацый.

Здавалася-б, што ўсё гэта павінна было забясьпечыць рашучы зрух у справе пашырэньня краязнаўчага руху і пастаноўцы работы краязнаўчай сеткі на належную вышыню. Але на самай справе праведзены па лініі ЦБК двухдэкаднік агляду работы краязнаўчых організацый на мясцох, з мэтай праверкі выкананьня дырэктыў партыі і ўраду па разгортваньню краязнаўчага руху, выяўленьня лепшае практыкі работы па краязнаўству і ўзмацненьня гэтай работы—паказаў, што ў гэтых адносінах пакуль што мы маем надзвычайна слабы пералом. Толькі ў нязначнай частцы раёнаў БССР ёсьць некаторыя дасягненьні ў справе разгортваньня краязнаўчай работы і падпарадкаваньня яе непасрэд-

ным задачам соцыялістычнага будаўніцгва. Так, у Рэчыцкім раёне краязнаўчая ячэйка пры Пэдтэхнікуме, якая яднае ў сваім складзе 123 чалавекі—студэнтаў і настаўнікаў, разгарнула і праводзіць значную масавую навукова-дасьледчую работу і ўжо мае пэўныя вынікі па досьледам вырашчваньня соі, сарго, клешчавіны і іншых новых сельска-гаспадарчых расьлін, па наладжваньню фэнолёгічных і мэтэоролёгічных нагляданьняў, па ўдзелу ў політычна-гаспадарчых кампаніях, вывучэньні колгаснага будаўніцтва раёну і інш. Вынікі работы гэтай ячэйкі надрукаваны ў №№ 9 і 10 часопісу „Савецкая Краіна“ і ў газэце „Рэчыцкая Праўда“. Ячэйка прыняла ўдзел у сельска-гаспадарчай раённай выстаўцы ў горадзе Рэчыцы і за прадстаўленыя экспонаты сваіх досьледаў (соя, сарго, клешчавіна і іншыя) атрымала ганаровы дыплём ад Выстаўкому. Раённыя ўстановы і організацыі Рэчыцкага раёну ўлічылі карысную работу ячэйкі і прынялі належныя захады да пашырэньня краязнаўчай работы. Праўда, побач з ячэйкай у Рэчыцы існавала і Раённае бюро краязнаўства, якое складалася з прадстаўнікоў раённых установ і організацый, але яно бязьдзейнічала і практычна амаль нічога не зрабіла ў разгортваньні краязнаўчага руху.

Некаторыя дасягненьні мае ў сваёй рабоце і Тураўскае раённае бюро краязнаўства. Адказнымі работнікамі яго тав. Бруем і Кернажыцкім сабраны і апрацаваны матар'ял па апісаньню Тураўскага раёну і па культуры цукровых буракоў у раёне, а таксама праведзена некаторая работа па ўпарадкаваньню работы краязнаўчага музэю, але разам з тым трэба адзначыць, што Тураўскае раённае бюро краязнаўства, маючы даволі добра распрацаваны плян работы і падтрыманьне з боку райвыканкому, фактычна нічога не зрабіла па разгортваньню і аформленьню краязнаўчай сеткі ў раёне, па ўцягненьню ў краязнаўчую работу шырокіх працоўных мас; працуе замкнута, не папулярызавала як сьлед сярод працоўных мас раёну задач савецкага краязнаўства і не ўцягнула іх у практычную масавую навукова-дасьледчую работу. У выніку гэтага ў сваім складзе краязнаўчая організацыя Тураўшчыны мае толькі 15 адказных работнікаў і спэцыялістаў, якія працуюць пераважна ў раённым цэнтры, ды адну ячэйку пры Тураўскай ШКМ у складзе 76 вучняў. Такое становішча можна тлумачыць ні чым іншым, як поўнай адсутнасьцю адказнасьці за работу з боку складу раённага бюро краязнаўства, якое, трэба сказаць, налічвае ў сваім складзе 11 асоб (з іх 7 партыйцаў),— даволі аўторытэтных і адказных работнікаў, якія пры жаданьні маглі-б упаўне выканаць намечаны плян работы і значна зрушыць краязнаўчую работу ўперад. Раённае бюро краязнаўства замест таго, каб па-бальшавіцку разгортваць краязнаўчую работу ў раёне, на сваіх паседжаньнях выносіць пастановы „краязнаўчая работа ў раёне і краязнаўчы музэй знаходзяцца ў заняпадзе, ня створаны шырокі грамадзкі актыў навакол музэю і краязнаўчай работы“. Ад такіх пастаноў, зразумела, справа краязнаўства з месца ня зрушыцца, калі раённае бюро па-сапраўднаму ня возьмецца за конкрэтнае опэрацыйнае штодзеннае кіраўніцтва краязнаўчым рухам і за ўцягненьне ў практычную работу ўсяго складу бюро, наладзіўшы дысцыпліну і патрабаваўшы адказнасьці за выкананьне

даручанае работы. Чаго варта такое паведамленьне Тураўскага раённага бюро краязнаўства: „разоў два-тры зьвярталіся да буйнейшых школ раёну аб арганізацыі школьных ячэек, давалі самыя падрабязныя ўказаньні, як рабіць і што рабіць, але ні ад аднэй ні слуху—ні духу. А езьдзіць па раёнам няма магчымасьці". Тут замест жывога кіраўніцтва, якое з посьпехам можна выканаць пры выездах на раён адказных работнікаў бюро, якія вельмі часта бываюць па службовым справам на раёне, Тураўскае РБК займаецца бюроктарычнай перапіскай, патрабуе сродкаў на разьезды, не выкарыстоўваючы ў той-жа час для разгортваньня краязнаўчай работы нарад, сходаў, конфэрэнцый, якія адбываюцца ў раёне і, нарэшце, бюро нічога ня робіць тут-жа ў раённым цэнтры. Чаму-б, напрыклад, не арганізаваць краязнаўчай ячэйкі пры Тураўскім райкомбінаце і ў колгасе „Новае жыцьцё", якія знаходзяцца ў раённым цэнтры і пэўне аб краязнаўстве вельмі мала ведаюць. Прыведзенае сьведчыць аб тым, што ня зьнішчаны яшчэ самацёк, безадказнасьць, бясплянавасьць і нават бязьдзейнасьць з боку Тураўскага раённага бюро краязнаўства, якое ня хоча належным чынам выконваць дырэктывы партыі і ўраду па разгортваньню краязнаўчага руху. Амаль аналёгічнае зьявішча мы маем у Нараўлянскім раёне, праўда, тут ёсьць некаторыя зрухі ў афармленьні краязнаўчай сеткі: арганізавана 8 краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах і пры школах, якія яднаюць 190 чалавек. Па лініі РВК на краязнаўчую работу і ўтрыманьне краязнаўчага музэю адпушчана 2.000 руб. Распачата раённым бюро краязнаўства апісаньне Нараўлянскага раёну і колгасу „Прогрэс", але разам з гэтым конкрэтная і практычная работа па краязнаўству не набыла сыстэматычнага плянавага і масавага характару, краязнаўчыя ячэйкі ня маюць з боку РБК пэўных заданьняў, што і як рабіць. Старшыня Раённага бюро краязнаўства тав. Стрэльчанка—заг. аддзелу народнае асьветы, спасылаючыся на сваю перагружанасьць, кіруе работай бюро ад выпадку да выпадку. Раённыя ўстановы і організацыі за выключэньнем райпляну ня цікавяцца работай па краязнаўству і нават недаацэньваюць яе. Асыгнаваныя сродкі на краязнаўчую работу не скарыстаны ў той час, калі краязнаўчы музэй, які налічвае да 1.000 экспонатаў, амаль зачынены, бо ніхто не клапоціцца адшукаць загадчыка музэю, хаця пры наяўнасьці сродкаў гэта зрабіць вельмі лёгка, тым больш, што з гэтай работай за некаторую ўзнагароду мог-бы ў поўнай меры справіцца адзін з мясцовых настаўнікаў.

У Старобінскім, Клімавіцкім і Уравіцкім раёнах праведзена даволі значная работа па папулярызацыі задач савецкага краязнаўства і па арганізацыйнаму афармленьню краязнаўчай сеткі. Так, у першым з іх арганізавана 6 краязнаўчых ячэек, якія яднаюць 227 чалавек, у другім 8 ячэек—372 чалавекі і ў трэцім—12 ячэек—310 чалавек, але як у саміх раённых бюро краязнаўства, так і ў ячэйках паказаных раёнаў яшчэ не разгорнута плянавая сыстэматычная навукова-дасьледчая работа, накіраваная на ўзмацненьне і паскораньне тэмпаў социялістычнага будаўніцтва. Раённыя організацыі і ўстановы не дапамагаюць раённаму бюро краязнаў-

ства разгарнуць як-сьлед краязнаўчую работу, ня прыцягваюць яго да практычнай работы па складаньню плянаў другой пяцігодкі, па ўдзелу ў правядзеньні палітычна-гаспадарчай кампаніі. не даюць ім адпаведных заданьняў, не заслухоўваюць іх справаздачы, не дапамагаюць матар'яльна і ня выконваюць дырэктыў аб разгрузцы адказных кіраўнікоў краязнаўчых арганізацый ад іншых грамадзкіх нагрузак, што, бязумоўна, затрымлівае разгортваньне краязнаўчага руху, як формы арганізацыі працоўных мас на навукова-дасьледчую работу. Такія адносіны сьведчаць аб недастатковай увазе да краязнаўчай справы з боку раённых устаноў і арганізацый і гавораць за тое, што пастанова СНК БССР ад 1/VI бягучага году яшчэ не знайшла практычнага ажыцьцяўленьня ў рабоце вышэйпаказаных раёнаў.

Зразумела, што слабая пастаноўка краязнаўчай справы ў пераважнай большасьці раёнаў, адсутнасьць плянавасьці, учоту арганізацыйнага афармленьня, належнага кіраўніцтва, невыкананьне дырэктыў партыі і заданьняў ЦБК залежыць у першую чаргу ад кіраўнікоў раённых бюро краязнаўства, якія створаны ў раёнах пры актыўным удзеле ЦБК раённымі арганізацыямі; маюць пэўныя распрацаваныя пляны работы, але амаль нічога ня робяць у кірунку рэалізацыі сваіх плянаў. Прыкладам гэтага можа служыць, апрача Тураўскага і Нараўлянскага РБК—Рагачэўскае, Веткаўскае, Жлобінскае і інш. РБК. Вылучаны ў Рагачэве партыйнай арганізацыяй старшыня РБК тав. Кукраш на працягу 6 месяцаў не паклапаціўся ні разу склікаць паседжаньне раённага бюро краязнаўства, ня кажучы аб іншых конкрэтных абавязках, узятых на сябе паводле пляну работы РБК. Такія-ж самыя адносіны мы маем і з боку Жлобінскага старшыні РБК тав. Купцова. Больш таго, старшыня Веткаўскага РБК тав. Рабіновіч і старшыня Асьвейскага РБК тав. Іванаў нават абвясьцілі сябе ўдарнікамі па краязнаўчай рабоце, узяўшы на сябе рад конкрэтных абавязкаў (гл. „Савецкая Краіна" № 5, стар. 83), а на справе выкананьне пляну работы Веткаўскага і Асьвейскага РБК далей папяровых запісаў не пайшло. Адпаведныя арганізацыі, савецкая грамадзкасьць і раённы друк павінны зьвярнуць увагу на такія зьявішчы, выкрыць бязьдзейнасьць работнікаў—зрыўшчыкаў краязнаўчай работы, якім партыйныя, савецкія і профсаюзныя арганізацыі даручаюць адказны ўчастак грамадзкай работы.

Мы-б маглі прывесьці яшчэ рад падобных зьявішч і па другім раёнам, як, напрыклад, Віцебскі, Слуцкі, Менскі, Мозырскі і інш.

Вялікую адказнасьць за разгортваньне краязнаўчага руху ў раёнах павінны несьці і РАНА, на адказнасьці якіх у першую чаргу ляжыць задача разгортваньня школьнага краязнаўчага руху, забесьпячэньне выкладаньня цэлага раду школьных дысцыплін на мясцовым матар'яле, а таксама непасрэдная дапамога разгортваньню масавай дасьледчай работы. Загадчыкі РАНА павінны былі-б быць ініцыятарамі ў разгортваньні краязнаўчага руху, а між тым некаторыя з іх яўна тармозяць гэтую справу. Асабліва недапушчальныя адносіны да разгортваньня краязнаўчага руху

і ў прыватнасьці школьнага краязнаўчага руху мы бачым з боку Менскага, Гомельскага, Бабруйскага, Мозырскага і Слуцкага РАНА.

Раён павінен стаць цэнтрам масавай навукова-дасьледчай работы, якая павінна быць выкарыстана ў мэтах соцыялістычнага будаўніцтва і паскараньня тэмпаў гэтага будаўніцтва. Раённыя організацыі павінны максымум увагі ўдзяляць разгортваньню краязнаўчай работы і па-бальшавіцку рэалізаваць пастановы партыі і ўраду аб краязнаўстве.

---

# Кароткая програма краязнаўчай падрыхтоўкі настаўніка масавай школы

Школьнае краязнаўства зьяўляецца адным з магутных сродкаў політэхнічнага навучаньня праз азнаямленьне вучняў з галоўнейшымі галінамі вытворчасьці, вывучэньня школай прыроды свайго раёну, экономікі, вытворчага акружэньня школы (заводы, фабрыкі, савгасы, колгасы, МТС), культуры і быту насельніцтва раёну. Школьнае краязнаўства ў значнай меры забясьпечвае паглыбленьне і грунтоўнае засваеньне „асноў навукі" на конкрэтным мясцовым матар'яле і ўжываньне актыўных мэтодаў работы (дасьледчы, лябораторны, экскурсійны і іншыя). Краязнаўчая работа ў школе паказвае і навучае, як увязваецца тэорытычная, дасьледчая работа з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва. Аднак, ня гледзячы на вялізарнейшае значэньне школьнага краязнаўства ў вырашэньні задач політэхнічнай школы, яно яшчэ не займае належнага месца ў рабоце нашых школ. Краязнаўчая работа ў школах, за рэдкім выключэньнем, не праводзіцца. Краязнаўчы матар'ял не выкарыстоўваецца ў навучальна-выхаваўчых мэтах. Адной з прычын такога становішча зьяўляецца незнаёмства большасьці настаўніцтва масавай (і нават сярэдняй) школы з сутнасьцю і задачамі савецкага краязнаўства, з тэй роляй, якую яно павінна адыгрываць у соцыялістычным будаўніцтве і ў прыватнасьці ў вырашэньні актуальнейшых задач політэхнічнай школы.

На настаўніцкіх конфэрэнцыях, на спэцыяльных нарадах і ў прыватных гутарках настаўнікі заяўлялі, што яны (у большасьці) ня маюць належнай краязнаўчай падрыхтоўкі наогул і ў прыватнасьці ў галіне школьнага краязнаўства. Пэдтэхнікумы і пэдагогічныя ВНУ не даюць адпаведнай краязнаўчай падрыхтоўкі і не знаёмяць з мэтодыкай школьнага краязнаўства. Школы амаль зусім не забясьпечаны краязнаўчымі дапаможнікамі.

Пытаньне краязнаўчай падрыхтоўкі настаўніцтва—адна з важнейшых задач, якая стаіць перад органамі НКА і ЦБК. Тут мы даем мінімальную орыентовачную програму для краязнаўчай падрыхтоўкі настаўніка масавай школы. У далейшым програма павінна быць распрацавана больш шырока і грунтоўна.

## 1. Савецкае краязнаўства і яго задачы ў пэрыод пабудовы соцыялізму

Мэты і задачы савецкага краязнаўства. Пяцігадовы плян соцыялістычнага будаўніцтва ў другой пяцігодцы і савецкае краязнаўства. Зьмест і форма савецкага краязнаўства. Марксызм

і краязнаўства. Асноўныя моманты разьвіцьця савецкага краязнаўства. Краязнаўства ў БССР. Вырашэньне проблемы кадраў савецкіх краяведаў. Організацыя шырокага краязнаўчага актыву на фабрыках і заводах, у савгасах, МТС, колгасах і школах.

### Асноўная літаратура


1. Адозва культпропу ЦК УсеКП(б) ад 13/XI-1930 г. Часопіс— Савецкая Краіна, 1931, № 5, стар. 7-8.

2. Пастанова СНК БССР ад I/VI-1932 г. № 304—„Пра мерапрыемствы па разгортваньню краязнаўчага руху". Савецкая Краіна. 1932, № 6, стар. 3-4.

3. Палажэньне аб раённым бюро краязнаўства і тыповы статут краязнаўчай ячэйкі. Выданьне ЦБК пры Беларускай Акадэміі Навук—1932 г.

4. Пастанова Прэзыдыуму Комакадэміі СССР па дакладу М. В. Крыленка аб рабоце Т-ва краяведаў-марксыстаў (ТКРАМ) і становішчы на краязнаўчым фронце. Савецкая Краіна. 1932, № 6, стар. 89.

5. Рэзолюцыя па дакладу т. Пінкевіча „Задачы краязнаўчых організацый у вывучэньні прыродных рэсурсаў СССР". Савецкая Краіна, 1932, № 6, стар. 82.

6. Рэзолюцыя па дакладу тав. Канчэева „Палітычныя задачы бягучага моманту і краязнаўства". Савецкая Краіна. 1932, № 6, стар. 86.

7. Рэзолюцыя XI пленуму ЦБК 25/28 сакавіка 1932 г. па дакладу тав. Сегаля „Другая пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва і задачы краязнаўчых організацый. Савецкая Краіна. 1932, № 6, стар. 92.

8. Сергей Толстов. Введение в советское краеведение. Издание ЦБК РСФСР 1932 г. Глава I—Сущность советского краеведения, стар. 7—20. Глава II—Очерк буржуазно-помешичьего краеведения, стар. 21—31. Глава III—Развитие советского краеведения, стар. 32—56. Глава IV—Содержание краеведной работы, стар. 57—86. Глава V—Организация массовой краеведной работы, стар. 87—94.

9. За большевистскую партийность в краеведении. Брошура— выданьне ЦБК РСФСР—1931 г., 72 стар.

10. Артыкулы В. Серафімава:

За савецкае краязнаўства (становішча і за дачы краязнаўчай працы). Савецкая Краіна. 1930, № 1-2, стар. 6—16;

За ўдарныя тэмпы ў перабудове краязнаўчай працы. Савецкая Краіна. 1931, № 1, стар. 3—6;

Пастанову ўраду аб краязнаўстве—у масы. Савецкая Краіна. 1932, № 6, стар. 5—7;

Масавая навукова-дасьледчая работа ў другую пяцігодку. Савецкая Краіна. 1932, № 5, стар. 33—37;

Ліст тав. Сталіна і задачы краязнаўчых організацый. Савецкая Краіна. 1931, № 12, стар. 33—35.

11. Ф. П. Садоўскі. Краязнаўства на выкананьне програмы пабудовы соцыялізму. Савецкая Краіна. 1932, № 1, стар. 7—14.

12. Ен-жа. Аб недаацэнцы краязнаўства. Савецкая Краіна. 1931, № 6, стар. 3—9.
13. Артыкулы В. Самцэвіча:
Пастановы XVI зьезду УсеКП(б) і задачы краязнаўчых арганізацый. Савецкая Краіна. 1931, № 1, стар. 7—12;
У новых умовах працаваць па-новаму. Савецкая Краіна. 1931, № 10, стар. 46—50;
Як арганізаваць краязнаўчую працу на фабрыцы і заводзе. Савецкая Краіна. 1931, № 4, стар. 48—62;
Проблема соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі і задачы краязнаўчых організацый. Савецкая Краіна. 1931, № 8, стар. 12—39;
Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і задачы краязнаўчых організацый. Савецкая Краіна. 1931, № 12, стар. 36—41;
Падрыхтуем кадры краязнаўцаў. Савецкая Краіна. 1931, № 3, стар. 41—43;
14. В. Шчарбакоў. Проблема навуковых кадраў у БССР. Савецкая Краіна. 1931, № 1, стар. 33—41.
15. В. Серафімаў і П Садоўскі. Узмацніць барацьбу з варожымі вылазкамі ў краязнаўстве. Савецкая Краіна. № 2, стар. 73—75.

## II. Школьнае краязнаўства як сродак політэхнічнага навучаньня

Асноўныя моманты разьвіцьця школьнага краязнаўства. Нацыянал-дэмократычныя і буржуазныя плыні ў школьным краязнаўстве.

Мэты і задачы краязнаўчай работы школы ў сьвятле агульных задач соцыялістычнага будаўніцтва і пастаноў ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе. Падпарадкаваньне школьна-краязнаўчай работы вучэбна-выхаваўчым задачам політэхнічнай школы. Зьмест школьна-краязнаўчай работы. Вывучэньне прыродных багацьцяў свайго раёну і яго экономікі, прамысловых прадпрыемстваў, саўгасаў, МТС, колгасаў і культурна-асьветных устаноў, рэвруху і клясавай барацьбы ў раёне, як падвядзеньне краязнаўчай асновы пад вытворча-вучэбны плян школы.

Элемэнты краязнаўства ў школьных програмах па грамадазнаўству, географіі і прыродазнаўству. Практычнае выкарыстаньне краязнаўчага матар'ялу ў вучэбнай рабоце пачатковай школы (прапрацоўка програмных пытаньняў на мясцовым краязнаўчым матар'яле ў часе правядзеньня дасьледчых экскурсій, досьледаў на пры школьным участку, шляхам выкарыстаньня музэйных экспонатаў у якасьці наглядных дапаможнікаў і іншае). Краязнаўчыя экскурсіі ў прыроду, на прадпрыемствы, у саўгасы, МТС і колгасы, як сродак пашырэньня політэхнічнага кругагляду вучняў. Вывучэньне бязбожнага руху і нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў раёне ў мэтах антырэлігійнага і інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня вучняў. Выкарыстаньне краязнаўчых матар'ялаў у грамадзкай рабоце школы. Організацыя работы школьна-краязнаўчай ячэйкі.

Літаратура

1. Усім гарадзкім і раённым інспэктаром народнае асьветы, дырэктаром ВНУ, тэхнікумаў і загадчыкам ФЗС, КС і ШКМ (абежнік НКА БССР). Савецкая Краіна. 1932, № 8, стар. 70-71.

2. Усім загадчыкам раённых і гарадзкіх аддзелаў народнае асьветы. Савецкая Краіна, 1932, № 3, стар. 70.

3. Сергей Толстов. Введение в советское краеведение. Выданьне ЦБК РСФСР—1932 г. Глава 7—Краеведение в системе народного просвешения и глава 6—Вопросы национального краеведения, стар. 95—117.

4. В. Самцэвіч. Супроць буржуазнай блытаніны ў школьным краязнаўстве. Савецкая Краіна, 1931, № 4, стар. 74—78.

5. В. С—іч. Настаўнікі павінны дапамагчы вучням арганізаваць краязнаўчую працу. Савецкая Краіна. 1931, № 4, стар. 87.

6. Н. К. Массовая школьно-краеведная работа и Ленинградский опыт 1930-1931 г. г. Журнал „Саветское краеведение". 1932, № 3, стар. 40—49.

7. В. Самцэвіч. Школы ў дасьледчы паход за сыравінай для прамысловасьці. Савецкая Краіна. 1932, №5, стар. 85—89.

8. В. С. Кожны піонэр і вучань павінен стаць разьведчыкам прыродных багацьцяў сваё краіны. Савецкая Краіна. 1932, № 5, стар. 108—110.

9. В. Самцэвіч. Задачы краязнаўчых організацый у барацьбе за аўладаньне тэхнікай. Савецкая Краіна. 1932, № 3, стар. 7—11.

10. В. А. Самцэвіч. і А. Палеес. Вывучэньне мінэральнай сыравіны і задачы краязнаўчых организацый. Савецкая Краіна. 1932, № 4, стар. 33—38.

11. Н. Е. Кавалёў. Як і дзе шукаць розныя карысныя выкапні па БССР. Савецкая Краіна. 1932, № 5, стар. 46—54.

12. Ф. П. Садоўскі. Выкарыстаць летнюю практыку і адпачынкі студэнцтва на вёсцы для разгортваньня краязнаўчай працы. Савецкая Краіна. 1931, № 5, стар. 41—44.

13. В. Шчарбакоў. Краязнаўства і антырэлігійная праца. Савецкая Краіна. 1930, № 1-2, стар. 39—44.

## III. Организацыя, формы і мэтоды краязнаўчай работы

Работа над літаратурна-краязнаўчым матар'ялам з картай і плянам. Организацыя і тэхніка правядзеньня школьна-краязнаўчых экскурсій, абсьледваньняў, працяглых сыстэматычных нагляданьняў. Фіксацыя і апрацоўка матар'ялаў для друку (у газэце, школьным часопісу і г. д.) і для выкарыстаньня ў школьным выкладаньні (складаньне карт і плянаў, дыяграм і картаграм; зарысоўкі; зьбіраньне колекцый, гэрбарыяў і інш.).

Літаратура

1. Зборнік програм і інструкцый па краязнаўству, выпуск 1. Выданьне ЦБК пры Беларускай Акадэміі Навук—1932 г.

2. Зборнік програм і інструкцый па краязнаўству, вып. 2. Выданьне ЦБК (друкуецца).

3. В. Самцэвіч. Політэхнізацыя школы і краязнаўства. Часопіс Комуністычнае выхаваньне. 1931, № 7-8.

## IV. Школьна-краязнаўчыя музэі, куткі і выстаўкі

Комплекснасьць і дынамічнасьць, як асноўныя прынцыпы пабудовы школьна-краязнаўчых музэяў, куткоў і выставак. Рэчавы паказ у краязнаўчых музэях, кутках і выстаўках пяцігодкі соцыялістычнага будаўніцтва свайго раёну, прадпрыемства, савгасу, колгасу, школы; выяўленьне клясавай барацьбы, барацьба за прамфінплян: узоры сыравіны, продукты вырабу, прадметы і модэлі абсталяваньня, машын і г. д. Дасьледчая і грамадзка-палітычная работа музэю; музэй як лябораторыя. Выкарыстаньне краязнаўчага музэю (кутка) у мэтах політэхнізацыі школы; політэхнічныя куткі ў краязнаўчых музэях. Організацыя краязнаўчага музэю (кутка) на прадпрыемстве, савгасе, колгасе і школе.

### Літаратура аб музэях

1. Рэзолюцыя Ўсебеларускай нарады музэйных працаўнікоў па дакладу тав. Серафімава „Музэі і краязнаўчая работа“. Савецкая Краіна. 1932, № 3, стар. 71.
2. Пастанова колегіі НКА БССР ад 11/IV-1932 г. аб выніках Усебеларускай нарады музэйных работнікаў. Савецкая Краіна. 1932, № 4, стар. 84-85.
3. Усім дзяржаўным і краязнаўчым музэям БССР. Савецкая Краіна. 1932, № 4, стар. 85-86.
4. Сергей Толстов. Введение в советское краеведение. Выданьне ЦБК РСФСР 1932 г. Глава 8—Краеведный музей, стар. 126—144.
5. Прынцыпы пабудовы савецкага краязнаўчага музэю. Савецкая Краіна 1931, № 11, стар. 63—66.
6. А. Л. Да пытаньня організацыі музэяў на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах. Савецкая Краіна. 1931, № 10, стар. 63—67.
7. Ф. П. Садоўскі. Музэй магутны агітатар і пропагандысты соцыялістычнага будаўніцтва. Савецкая Краіна. 1931, № 3, стар. 19—23.
8. М. Грынблят і А. Ляўданскі. Краязнаўчыя музэі і вясновая пасеўная кампанія. Выданьне Масавага сэктару і ЦБК БАН 1932 г., 58 стар.

**Праф. А. В. Фядзюшын**

# Крот у пушных загатоўках БССР

Наўрад сярод якіх-небудзь другіх пушных відаў знойдзецца яшчэ адзін, які, падобна да крата, так хутка заваяваў-бы ўвагу загатоўцы і пушны рынак. 5 год таму назад пра яго ў нас амаль і гутаркі ня было, а цяпер якраз *крот* зьяўляецца важным відам пушных загатовак БССР і бясспрэчна мае ўсе даныя набыць яшчэ большае значэньне.

Абароты амэрыканскага гандлю па крату (эўрапейскаму) ужо некалькі год таму назад дасягалі 3-4 млн. доляраў у год, прычым там фігуравалі, галоўным чынам, краты з Шотляндыі ды Англіі.

З 1924-1925 гг. на сусьветным пушным рынку ўпяршыню з кратом выступае і СССР, калі была адпраўлена першая партыя кратоў у Англію ў 1.396 штук на суму 506 руб. З таго часу штогодняя здабыча крата пачынае хутка ўзрастаць, заняўшы ў пасобных раёнах, напрыклад, у БССР, кіраўнічае значэньне ў пушным промысьле.

Рост пушных загатовак па кроту ў БССР можна бачыць з наступных лічбовых даных за апошнія гады аб колькасьці паступіўшых скурак на пушную базу.

| Загатоўлена кратоў у гады. | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 | 1928-29 | 1929-30 | 1930-31 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Штук . . . . | — | 1916 | 102345 | 296000 | 212580 | 542305 |
| На суму ў руб. | — | 77 | 40369 | 93814 | 57464 | 173538 |
| У проц. ад агульнай сумы пушных загатовак (апрача скурсыравіны). | — | 0,10% | 5,08% | 25,53% | 15,59% | 37,26% |

Такім чынам, лёгка бачыць, як хутка ўзрастае роля крата ў пушных загатоўках за апошнія тры гады, дасягнуўшы летась лічбы, якая перавысіла ўжо *паўмільёна* скурак на суму ў 173.538 руб., што склала больш адной трэці кошту ад усёй загатаванай у тым-жа годзе ў БССР пушніны. Пры гэтым важна адзначыць, што посьпех кротазагатовак у 1931 г. абумоўлены выкананьнем намечанага пляну па крату ўсяго толькі на 68% і што тут, значыць, застаўся яшчэ значны недабор ва ўсіх загатоўцаў.

Па пляну пушзагатовак на 1932 год роля крата павінна яшчэ куды больш узрасьці—усяго намечана загатовіць *1 мільён 800 тысяч штук*, г. зн. мы маем павялічэньне супроць леташняй загатоўкі больш як утрая, што ў сваю чаргу павінна даць звыш паўмільёна рублёў толькі па адным гэтым віду, заняўшы цяпер *першае месца* ў нашым пушным балянсе.

У сувязі з гэтым, натуральна, можа паўстаць пытаньне аб ступені „напружнасьці" пляну, а таксама аб тым, ці павінен гэты плян разглядацца як плян, што можа быць зьдзейсьнены з пункту погляду запасу відаў.

У адным з сваіх ранейшых артыкулаў[1] я ўжо паказаў, што кратовы промысел у БССР разьвіты пакуль вельмі слаба, у іншых мясцох, напрыклад, у Палесьсі, яго амаль зусім няма і што мы маем справу амаль з *нечапанымі* запасамі ў нас гэтага зьвярка. Вылічаны паказальнік таварнага выхаду кратовых скурак (г. зн. выхад з кожных 1000 га агульнай плошчы) па розных акругах за 1928-29 гг., калі было загатоўлена 296.000 штук, выявіў вельмі няроўнамерную здабычу яго ў розных раёнах БССР, а менавіта:

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У Полацкай | акрузе | на | кожную | 1000 | га | здабыта | 132,72 | шт. |
| „ Віцебскай | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 26,15 | „ |
| „ Магілеўскай | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 12,15 | „ |
| „ Аршанскай | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 7,74 | „ |
| „ Гомельскай | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 7,04 | „ |
| „ Менскай | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 6,36 | „ |
| „ Бабруйскай | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 3,48 | „ |
| „ Мазырскай | „ | „ | „ | „ | „ | „ | 3,43 | „ |

Такім чынам, толькі ў аднэй Полацкай акрузе здабыча крата разьвіта больш-менш значна, тымчасам як у сярэдняй і паўднёвай часьціх БССР яе амаль няма. Як паказалі дасьледваньні фаўны Рэчыцкага Палесься ў 1930 г., праведзеныя экспэдыцыяй Зоолёгічнага музэю БАН[2], паказальнік таварнага выхаду там па кроту за 1929-30 гг. быў роўны ўсяго толькі 0,52, г. зн. з кожных 20 кв. км здабываўся толькі адзін крот! Сярэдні-ж паказальнік выхаду па кроту за той-жа год у БССР быў роўны амаль 25.

Калі прыняць агульную плошчу БССР роўнай 12595000 га,[3] то ў 1931 г. сярэдні паказальнік таварнага выхаду будзе роўны 43, што ўжо ў параўнаньні з леташнім годам зьяўляецца значным павялічэньнем. Калі-ж прадпалажыць, што загатоўчы плян 1932 г. будзе выкананы поўнасьцю, г. зн. загатоўлена будзе 1800000 шт. кратоў, то гэта значыць, што з кожных 1000 га агульнай плошчы БССР прыдзецца ўзяць у сярэднім 142 краты (або з кожных 10 га—1,42 шт.), што перавысіць інтэнсыўнасьць здабычы 1931 г. больш як утрая.

Калі-ж адкінуць водныя і моцна забалочаныя плошчы, на якіх крот ня можа здабывацца, дык паказаную інтэнсыўнасьць здабычы

[1] Проф. А. В. Фядзюшын. Прамысловае і сельска-гаспадарчае значэньне крата (Да пытаньня аб разьвіцьці кратовага промыслу). „Паляўнічы Беларусі", № 11 і № 12. Лістапад, сьнежань. Менск, стар. 6—8.

[2] А. В. Фядзюшын, проф. Охотничье-промысловая фауна и охота в Речицком Полесье (по данным биос'емки 1930 г.) (друкуецца).

[3] Гл. „Белорусская ССР в цифрах", выд. Ц. Ст. Упр. БССР. Менск, 1929 г.

трэба лічыць яшчэ большай працантаў на 15—20. Тым ня менш можна думаць, хаця-б на падставе існуючага таварнага выхаду ў Полацкім раёне, што і гэты, па сутнасьці ўжо даволі вялікі плян, усё-ж выканаць можна. Зразумела, больш дакладна меркаваць аб ступені напружнасьці яго дазваляюць толькі даныя параўнаўчай статыстыкі за рад гадоў або, што цяжэй зьдзейсьніць, папярэдні ўлік па ўсёй тэрыторыі відавога запасу крата.

Пры разьмеркаваньні пляну загатовак па раёнах трэба кіравацца, перш за ўсё, географічнымі ўмовамі ляндшафту і, у першую чаргу, глебавымі данымі. Як правіла, крот больш водзіцца на перагнойных тлустых глебах, добра зьдзірванелых і досыць вільготных. На пяшчаных, сухіх глебах яго амаль няма. *Выганы, сенажаці (незабалочаныя), гароды, сады, лес* (асабліва ўзьлескі і паляны), неразараныя ўчасткі *ўсьцяж чыгуначных* насыпаў і шосавых дарог,—вось яго галоўныя стацыі. З гэтага пункту погляду раёны ў сярэдняй часьці БССР павінны быць бясспрэчна багацейшымі на крата за пескавыя глебы і балоты Палесься. Большжа падрабязнае разьмеркаваньне загатоўчага пляну па кроту бяз даных біоздымкі па кожнаму раёну немагчыма, дый самай мэтодыкі біоўліку крата пакуль яшчэ няма.

### Пра тэрміны загатовак крата ў сувязі з данымі аб ліняньні

Надта важным момантам у пытаньні загатовак ня толькі таго віду, што апісваецца, але і кожнага другога, зьяўляецца ўлік тэрмінаў ліняньня і пэрыодаў сьпеласьці шэрсьці.

У гэтых адносінах *крот* мае цэлы рад найцікавейшых асаблівасьцяў і з імі канечна трэба лічыцца.

Лёгка бачыць, што пры такім вялізным загатоўчым пляне нельга траціць з увагі і *якасны* бок продукцыі і што бяз шырокага азнаямленьня з асаблівасьцямі тэрмінаў і колькасьцю ліняньня крата можа быць сабрана вялізная маса другарадных і трэцярадных скурак, якія значна абясцэньваюць таварнае значэньне партыі.

Дзякуючы найноўшым дасьледваньням (Д. Вяжлінскі, 1926—28) шляхам стараннага падбору значнай сэрыі скурак (221 скурка), сабраных дзень за днём за ўвесь пэрыод з красавіка па сьнежань для крата ўстаноўлены цэлыя *тры ліняньні*. Першае—*веснавое*,—калі адбываецца *поўная* зьмена зімовага воласу на летні, прычым, як правіла, вясною *саміцы* пачынаюць ліняць раней ад самцоў і для Маскоўскай губ. гэта ліняньне надыходзіць, прыблізна, у час з *паловы красавіка* да *сярэдзіны мая*. *Самцы-ж* ліняюць куды пазьней,—з сярэдзіны мая і да першых дзён чэрвеня, г. зн. пасьля шлюбнага пэрыоду.

Ліняньне ўстанаўляецца па колеру мяздры,—на ліняючых мясцох яна мае цёмны колер. Зусім пераліняўшая скурка мае сьветлую, бяз цёмных плям мяздру. Такія скуркі бываюць у кратоў, сабраных узімку і пасьля веснавога ліняньня, г. зн. з сярэдзіны чэрвеня і да сярэдзіны ліпня.[1]

---

[1] Усе тэрміны, якія тут адзначаюцца, паданы для Маскоўскай вобласьці, з прычыны чаго для БССР яны могуць аказацца крыху іншымі, а менавіта—больш раньнімі—чарговая задача—дакладна праверыць іх для розных зон БССР.

У гэты пэрыод трапляюцца і самцы і саміцы ў новай летняй шэрсьці, прычым, як адзначана, саміцы пасьпяваюць пераліняць тыдні на два, на тры раней за самцоў, дзеля чаго з паловы мая да пачатку чэрвеня толькі палова сабраных скурак будзе пераліняўшых.

Другое—*летняе*—ліняньне пачынаецца з паловы ліпня (паводле даных Вяжлінскага вельмі дакладна, „дзень-у-дзень“) прычым у гэты час ліняюць толькі дарослыя самцы і саміцы, але ня зусім аднолькава: у самцоў выліньвае ўся сьпіна, галава, верхняя часьць бакоў і грудзі. Бруха-ж і ніжняя часьць бакоў ня ліняюць. Самкі-ж звычайна пераліньваюць поўнасьцю. Летняе ліняньне працякае вельмі дружна і хутка, дзеля чаго стары волас траціцца раней, чым пасьпявае адрасьці новы, і краты ў гэты час ходзяць з голай мясцамі скурай у выглядзе вялікіх плямін на сьпіне і ў вобласьці саскоў.

Летняе ліняньне ў самак канчаецца к 20 жніўня, у самцоў-жа пад канец гэтага месяца.

З першых чыслаў ліпня пачынаюць трапляць у пасткі і маладыя, прычым у гэты час яны маюць мяздру чыстую, але волас больш сьветлы, як у дарослых.

Першае ліняньне ў маладых пачынаецца толькі з конца ліпня, а ў іншых экзэмпляраў—з пачатку жніўня, але ў сярэдзіне гэтага месяца ліняюць ужо ўсе. Канчаецца ліняньне ў маладых к верасьню.

Пачынаючы з гэтага часу і да паловы верасьня ва ўсіх 30 шт. злоўленых за гэты тэрмін кратоў мяздра была чыстая, а волас сьвяжэйшы і больш цёмны.

З сярэдзіны верасьня пачынаецца *асеньняе* ліняньне, прычым ліняюць у гэты раз усе краты—і маладыя і старыя, самцы і саміцы. Сьпіна выліньвае хутчэй за ўсё і к 15 кастрычніка гэты працэс канчаецца. Зьмена-ж валасоў на бакох, бруху і ў пахавай вобласьці, на лапах цягнецца куды больш, да самай зімы, з прычыны чаго скуркі з поўнай зімовай поўсьцю і зусім белай мяздрой трапляюцца толькі ў канцы лістапада. Значыць, асеньняе ліняньне самае доўгае і цягнецца 2½ месяцы.



Прыкладаная схэма больш наглядна ілюструе тэрміны і пэрыоды ліняньня ў крата ў залежнасьні ад роду, узросту і сэзону году.

Для практычнага выкарыстаньня падаваных даных аб тэрмінах ліняньня трэба ўлічаць географічную розьніцу мясцовасьці. Так, напрыклад, дарослыя краты, здабытыя пад Рыбінскам, г. зн. у 230 вярстах на *поўнач* ад Масквы (для ваколіц якой адносяцца вышэйпаданыя даныя аб тэрмінах ліняньня) пачалі ліняць *тыдні на два пазьней.* Маладыя-ж ліналі адначасна з Маскоўскімі.

Для БССР, якая знаходзіцца больш на поўдзень і захад, ад месц, дзе праводзіліся адзначаныя нагляданьні, можна спадзявацца зьмяшчэньня тэрмінаў ліняньня ў бок больш раньняга пачатку апошняга.

Для дакладнага-ж разьвязаньня гэтага пытаньня, якое бясспрэчна мае практычную цікавасьць, трэба правесьці збор адпаведнага матар'ялу, строга *датуючы,* калі і дзе была *злоўлена* жывёла.

Значная працяжонасьць рэспублікі (каля 600 км) з поўдню на поўнач і ясна выражаная кліматычная розьніца ў паўночных і паўднёвых раёнах яе дазваляюць думаць, што сабраны ў належнай колькасьці і з розных месц матар'ял па скурках крата сапраўды выявіць несупаданьне ў тэрмінах ліняньня ў розных зонах, а значыць, і мэтазгодныя тэрміны загатовак для паасобных часьцей (паўночнай і паўднёвай) БССР, дзе яны могуць крыху адрозьняцца.

Пры ўважлівых адносінах загатоўчага апарату, а яшчэ больш паасобных паляўнічых лаўцоў крата, якія згадзіліся-б рабіць на здаваных ім скурках адзнакі аб тым, калі крот быў злоўлены (месяц, число і год), адзначаць географічныя пункты, дзе жывёла была злоўлена (адзначаць сельсавет і раён), а таксама род (што ўжо цяжэй рабіць для звычайнага зьбіральніка), патрэбны матар'ял мог-бы быць атрыманы на працягу гэтага-ж году і належным чынам апрацаваны ў Зоолёгічнай лябораторыі Унівэрсытэту ці Акадэміі Навук.

К. К.

# Рэцэнзія

„Историк-марксист“ № 1-2. *Партиздат 1932 г. под рэд. | М. Н. Покровского, | Дубыни Т. М., Лукина М. Н., Попова, Сефа и др.*

Пасьля гадовага перапынку зноў вышаў журнал „Историк-марксист“ № 1-2. Гэты нумар журнала ўжо не застаў у жывых яго бязьзьменнага адказнага рэдактара выдатнага гісторыка-марксыста М. М. Пакроўскага.

М. М. Пакроўскі зьяўляецца ініцыятарам, організатарам і рэдактарам журналу „Историк-марксист“ і да самых апошніх дзён свайго жыцьця Пакроўскі аддаваў вялікую і выключную ўвагу журналу.

Журнал № 1-2 адчыняецца невялікім нэкролёгам памершага выдатнага ленінца, гісторыка М. М. Пакроўскага, дзе ў вельмі сьціслай форме абмалёўваецца вобраз выдатнейшага сусьветнага вучонага і непрымірымага барацьбіта за генэральную лінію партыі. Перадавы артыкул „За решительную перестройку исторического фронта“ констатуе, што на сёнешні дзень гістарычны фронт зьяўляецца адным з слабых участкаў тэорытычнага фронту. На гістарычным фронце мы маем рэзкае адставаньне ад практыкі соцыялістычнага будаўніцтва. Гісторыя, як навука ідзе наперад. На гістарычным фронце праведзена вялікая работа па выкрыцьцю буржуазных школ, як Петрушэўскага, Тарле, Платонава, а таксама опортуністычнай тэорыі Сьляпкова і К°, нацухілісцкай концэпцыі Яворскага, а таксама анты-ленінскай тэорыі Дуброўскага, Тэодаровіча і інш., таксама праведзена значная работа па ўскрыцьцю трацкісцкай контрабанды. Трэба т-ву гісторыкаў-марксыстаў як хутчэй пераключыцца на выкананьне вялікіх творчых задач, якія высунуты соцыялістычным будаўніцтвам. Трэба па-баявому ў самы кароткі тэрмін напісаць гісторыю грамадзянскай вайны, даць як найхутчэй гісторыю нашай партыі, напісаць гісторыю фабрык і заводаў і г. д. Гістарычны фронт мусіць ліквідаваць адставаньне і перабудаваць сваю работу на падставе рашэньняў XVII партконфэрэнцыі і простых паказаньняў т. Сталіна. Распрацоўваючы глыбака літаратурную спадчыну Маркса, Энгельса, Леніна, можна дабіцца рэзкага пералому ў рабоце. Няма выдатнага гісторыка-ленінца М. М. Пакроўскага, гэту цяжкую страту гістарычны фронт павінен запоўніць ўзмоцненай колектыўнай работай.

У гэтым нумары надрукаваны 2 апошніх артыкулы М. М. Пакроўскага. Прыкаваны да ложка цяжкой хваробай Міхаіл Мікалаевіч не аслабна сачыў за гістарычнай літаратураю. Першы артыкул „По поводу некоторой путаницы“ прысьвечаны крытычнаму

разбору III-га тому „Истории ВКП(б)“ пад рэд. Е. Яраслаўскага. М. М., разьбіраючы нарыс, прысьвечаны прычынам і падрыхтоўцы імпэрыялістычнай вайны, востра крытыкуе анонімнага аўтара ў пытаньнях аб імпэрыялістычнай вайне і аб віноўніках яе. Ён паказвае, што нельга гаварыць аб віноўніках сусьветнай бойні „наогул“, што патрэбны конкрэтны гістарычны аналіз, што трэба гаварыць і аб асобах таму, што яны прадстаўлялі пэўныя клясы, якія хацелі вайны. А таксама і аб ролі Расіі ў сусьветнай вайне. Ён паказвае, што і ў яе былі свае ўласныя інтарэсы, што яна ня была толькі агентам Антанты. Пакроўскі ўскрывае цэлы рад няверных формулёвак аўтара III-га тому і паказвае, як трэба правільна ставіць пытаньне.

Другі артыкул „К вопросу о пугочевщине“. Ліст сэмінару І-га курсу ІЧП, гэты артыкул друкаваўся ўжо ў журнале „Борьба классов“. М. М. Пакроўскі, разьбіраючы дзьве работы аб пугачоўшчыне, паказвае іх памылкі. Трэба разглядаць пугачоўшчыну, як тыповае паўстаньне сялян супроць дыктатуры памешчыкаў.

Яшчэ трэба адзначыць артыкул А. Ерусалімскага „Вопрос об ответственности за войну“. Апошняя савецкая публікацыя докумэнтаў „Международное отношение в эпоху империализма“ мае надзвычайна вялікае палітычнае значэньне. Трэба, каб самыя шырокія масы СССР і Эўропы ведалі гэтыя докумэнты, якія ўскрываюць сапраўдных вінавайцаў сусьветнае бойні. Журнал абяцае даць цэлы рад артыкулаў па сусьветнай вайне на падставе савецкай публікацыі, якія ўскрываюць імпэрыялістычную палітыку так званых „вялікіх дзяржаў“. Т. Ерусалімскі, галоўным чынам, у сваім артыкуле спыняецца на пытаньні аб вінавайцах вайны і бліскуча паказвае, што вайну арганізавалі імпэрыялісты ўсіх ваюючых краін. Апублікаваныя на другі дзень Кастрычнікаўскай рэволюцыі тайныя дагавары царскага ўраду ўскрылі ўсю ману так званых „Цветных книг“, дзе кожная з ваюючых дзяржаў, шляхам нячуваных фальсыфікацый імкнулася прыкінуцца нявіннай авечкай. Перад шырокімі масамі імпэрыялістычныя ўрады імкнуліся зваліць віну за вайну на сваіх супрацыўнікаў. Францыя, Англія—на Германію, Аўстрыя—на Расію, Расія—на Германію і г. д. Ерусалімскі з докумэнтамі ў руках паказвае падробкі і фальсыфікацыю дыплёматыі імпэрыялістычных дзяржаў. У дыплёматычных габінэтах пры публікацыі ў „цветных книгах“ выкідваліся цэлыя абзацы для таго, каб сказіць іх сэнс. А рад докумэнтаў зусім быў схаваны і толькі цяпер пры публікацыі савецкім урадам докумэнтаў царскай дыплёматыі гэта выкрываецца. Зусім ясна выступаюць з гэтай публікацыі і конкрэтныя організатары вайны, выяўнікі волі імпэрыялістычнай буржуазіі, як Раймонд Пуанкарэ, Эд, Грэй, Мікалай Мікалаевіч, граф Бэрхтольд, адмірал Цірпліц і г. д. Зусім ясна, што ўсе імпэрыялістычныя ўрады рыхтаваліся да вайны і зьяўляліся яе організатарамі.

Цяпер, калі імпэрыялісты зноў рыхтуюць інтэрвэнцыю супроць СССР, публікацыя докумэнтаў дыплёматыі павінна адыграць вялікую палітычную ролю.

Артыкул Е. Рубінштэйна „К характеристике германского фашизма“ мае значны інтарэс. Разьбіраючы розныя азначэньні фа-

шызму, Рубінштэйн паказвае іх няправільнасьць у розных аўтараў. Асабліва шкодна думка, што фашызм ёсьць рух дробнай буржуазіі і што ён зьяўляецца „надклясавай“ сілай. Фашызм узьнікае ў найбольш слабых зьвеньнях сусьветнага імпэрыялізму, у краінах найбольш абвостранай клясавай барацьбы і найменш устойлівага капіталізму — *„фашызм узьнікае не як праяўленьне нясьпеласьці капіталізму, а як прымета яго загніваньня і разлажэньня, як сродак наступу фінансавага капіталу на рэволюцыйны пролетарыят“* (стр. 84).

Далей падаюцца тэорытычныя і програмныя асновы германскага фашызму, яго соцыяльна-палітычная канцэпцыя і арганізацыйныя пытаньні і яго барацьба за масы. Фашызм глядзіць на масы, як на матар'ял, бо фашысты разумеюць, што для ўмацаваньня сваёй дыктатуры трэба заваяваць масы. Фашызм апявае барацьбу, націск, але для прыдушэньня тых-жа мас — *„Арудуючы моцнымі сродкамі, ствараючы ілюзію барацьбы за штосьці новае, фашызм пытаецца ўзбаламуціць масы і прывесьці іх кружным шляхам у старыя турмы фінансавага капіталу“*. Рубінштэйн яшчэ раз падкрэсьлівае правільнасьць тэзісу Комінтэрну, што наступ фашызму зусім не азначае наступ на буржуазію і яе партыі, а наступ буржуазіі на рэволюцыйны пролетарыят. Фашызм у Германіі лішні раз паказвае, што ніякай новай дзяржаўнай формы фашызм не нясе, што гэта найбольш агголеная форма буржуазнай дыктатуры.

Артыкул Абрамава „Японская оккупация на Дальнем Востоке“ знаёміць чытача з окупацыяй у 1918-19 гг. японцамі Сібіры і іх крывавымі мэтодамі. У сучасны момант і гэты артыкул зьяўляецца вельмі палітычна актуальным, паколькі японскі імпэрыялізм зноў марыць аб захопе Сібіры і стварае пагрозу вайны на Далёкім Усходзе. Артыкул знаёміць шырокія масы з крывавым сьледам, які пакінула пасьля сябе японская окупацыя. Артыкул ускрывае і работу азьвярэлай белагвардзейшчыны — атамана Сямёнава, барона Унгера, крэатуры Японіі, заліўшых крывёю рабочых і сялян Далёкі ўсход і Сібір.

У журнале вельмі багаты аддзел крытыкі і бібліографіі. Даецца крытычны агляд горскай гісторыографіі і Дагестану, дзе ўскрываецца цэлы рад вялікадзяржаўных і нацыяналістычных тэорый.

Даны крытычны агляд гістарычных прац Піонткоўскага, на кніжках якога доўга вучыліся ў комвузах і вузах. У яго працах ускрыты цэлы рад меншавіцка-трацкісцкіх і права-опортуністычных скажэньняў гісторыі рэволюцыі ў Расіі.

Даны агляд вельмі пашыранага падручніку па гісторыі клясавай барацьбы Бачарова, Іонісіані і інш., дзе ўскрыты цэлы рад грубейшых памылак і ўпрашчэнства гістарычнага процэсу. Гэтая крытычная работа па агляду прац і падручнікаў надзвычайна патрэбна і дасьць рэальную дапамогу настаўнікам масавай школы і тэхнікумаў пры праходжаньні курсу гісторыі. Трэба пажадаць, каб і надалей даваліся шырокія крытычныя агляды гістарычнай продукцыі асабліва па нацрэспублікам і абласьцям.

К журналу № 1-2 прыкладзена бібліографія прац М. М. Пакроўскага, стар. 216—248. Гісторыкі-марксысты яшчэ доўга будуць

вучыцца ў Пакроўскага марксысцкаму аналізу і карыстацца яго мэтодолёгіяй, таму выданьне бібліографіі яго прац зьяўляецца надзвычайна патрэбным, яно дапаможа гісторыку разабрацца ў літаратурнай спадчыне М. М. Пакроўскага.

Гістарчны фронт у даны момант зьяўляецца адным з адстаючых участкаў соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба праводзіць больш сугубую партыйнасьць у навуцы, трэба пераключыцца на творчую работу. Становішча гістарычнага фронту дана ў рэзолюцыі фракцыі, прынятай па дакладу т. Кнорына „Аб палітычных уроках ліста т. Сталіна і задачах гістарычнага фронту". Гісторыкі-марксысты павінны баявым тэмпам выканаць гэтыя рэзолюцыі ў барацьбе за марксысцка-ленінскую гісторыю, у барацьбе за стварэньне ленінскай гісторыі народаў СССР. А журнал „Гісторык-марксыст" мусіць узяць на сябе кіраўнічую ролю ў выкананьні гэтых задач.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

24—28 мая Акадэміяй БССР і Дзяржплянам БССР была склікана Ўсебеларуская конфэрэнцыя па навукова-дасьледчай рабоце ў 2-ой пяцігодцы. На конфэрэнцыі прысутнічала каля 180 прадстаўнікоў дзяржаўных, пляуючых, гаспадарчых і навукова-дасьледчых установаў, дэлегаты ад фабрык, савгасаў, колгасаў, чырвонаармейскіх часьцей і краязнаўчых організацый. На конфэрэнцыі былі заслуханы даклады: „Народна-гаспадарчы плян БССР у другой пяцігодцы" (старшыня дзяржпляну т. Шапіра), „Навукова-дасьледчая работа ў БССР у другой пяцігодцы" (Прэзыдэнт АН БССР т. Горын); працавалі сэкцыі: соцыяльна-эканомічная, прыродазнаўча-тэхнічных навук і працы і быту; сэкцыя па масавай навукова-дасьледчай рабоце і сэкцыя кадраў. Па дакладам і рабоце сэкцый вынесены рэзолюцыі. Вынікі работы зьмешчаны ў „Матар'ялах Усебеларускай конфэрэнцыі па навукова-дасьледчай рабоце ў 2-ой пяцігодцы" (выд. БАН, 1932).

У рабоце Конфэрэнцыі ў сэкцыі па масавай навукова-дасьледчай рабоце прымалі ўдзел ад Масавага сэктару і ЦБК т. т. Серафімаў, І. Шырай, В. Самцэвіч, Ф. Садоўскі, Т. Кулакоў, Позьняк; прадстаўнікі раёных краязнаўчых організацый: тт. Іваноў (Асьвея), Шчуцкі (Віцебск), Рабіновіч (Ветка), Сталовіч (Крычаў), Нікалаеў (Буда-Кашалёўская), Сінякоў (Мсьціслаў), Кныш (Полацак), Маргалік (Рагачэў), Карнееў (Уваравічы).

### Рэзолюцыя

Сэкцыі па масавай навукова-дасьледчай рабоце Ўсебеларускай конфэрэнцыі па навукова-дасьледчай рабоце ў 2-ой пяцігодцы па дакладу загадчыка Масавага сэктару Акадэміі Навук БССР тав. Серафімава „Масавая навукова-дасьледчая работа ў 2-ой пяцігодцы".

I. Вялізарныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, узьняцьце культурнага роўню і магутны творчы ўздым шырокіх рабочых і працоўных мас Савецкага Саюзу стварылі ўсе ўмовы для шырокага разгортваньня ў другой пяцігодцы масавай навукова-дасьледчай работы, неадрыўна зьвязанай з конкрэтнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

II. Разгортваньне масавай навукова-дасьледчай работы павінна ісьці па лініі організацыі масавых навукова-дасьледчых організацый па заводам і фабрыкам, у савгасах, МТС, колгасах, пры гаспадарчых установах, ВНУ, тэхнікумах і масавых школах з поўным ахопам да канца пяцігодкі ўсіх памянёных прадпрыемстваў і ўстаноў.

III. Асноўнымі формамі разгортваньня масавай навукова-дасьледчай работы павінны быць: а) краязнаўчыя ячэйкі па прамысловых прадпрыемствах, у савгасах, МТС, колгасах, у часьцях Чырвонай арміі, пры гаспадарчых установах, навучальных установах як асноўныя нізавыя зьвеньні ў сыстэме навукова-дасьледчых установаў; б) фабрычна-заводзкія, савгасныя і колгасныя лябораторыі; в) дасьледчыя станцыі і палі ў савгасах і колгасах; г) ячэйкі „ТЭХМАС", вынаходцаў і рацыяналізатараў; д) ячэйкі пролетарскага турызму; е) аб'яднаньні корэспондэнтаў-дасьледчыкаў навукова-популярных часопісаў. У масавую дасьледчую работу (у адпаведных галінах) павінны быць уцягнуты організацыі Асоавіяхэму, СВБ, Аўтодору і інш.

IV. Адной з неабходнейшых прадпасылак разгортваньня масавай навукова-дасьледчай работы зьяўляецца організацыя сыстэматычнай і плянавай навукова-тэхнічнай пропаганды, для чаго: а) пры бібліотэках павінны быць створаны спэцыяльныя навуковыя аддзелы, б) па лініі Радыёцэнтру організавана перадача спэцыяльных курсаў па розным галінам навукі і тэхнікі; в) па лініі Белдзяржкіно— створаны ў шырокім маштабе сэрыі кінофільмаў навуковага зьместу, якія-б паказвалі дасягненьні навукі ў розных галінах і навучалі-б працоўныя масы мэтодам дасьледваньня; г) неабходна разгар-

нуць выданьне насьценных і інш. наглядных дапаможнікаў у мэтах дапамогі шырокім працоўным масам па аўладаньню першапачатковымі ведамі. Па арганізацыі дасьледчай работы вялікую ролю павінны адыграць краязнаўчыя, тэхнічныя і політэхнічныя музэі, лік якіх павінен з кожным годам павялічвацца.

На буйнейшых заводах, пры МТС, саўгасах і колгасах да канца пяцігодкі павінны быць арганізаваны краязнаўчыя музэі з палітычнымі аддзеламі і ў кожным раёне—пабудаваны раённы краязнаўчы музэй.

V. Асноўныя проблемы масавай навукова-дасьледчай работы павінны поўнасьцю выцякаць з проблем сацыялістычнага будаўніцтва ў другой пяцігодцы, вызначаных у дырэктывах XVII партконфэрэнцыі па складаньню другой пяцігодкі і пастановы СНК БССР і ЦК КП(б)Б пра асноўныя ўстаноўкі для складаньня другога пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры БССР.

Сэкцыя лічыць, што ўся ўвага масавых дасьледчых арганізацый павінна быць сконцэнтравана на вырашэньні наступных проблем:

1. Вывучэньне тарфяных масываў на тэрыторыі ўсіх раёнаў БССР.
2. Вывучэньне карысных выкапняў БССР (жалезная руды, фосфарыты, будматар'ялы і г. д.).
3. Вывучэньне новых сельска-гаспадарчых культур у БССР.
4. Досьледы па разьвядзеньню тутавіцы і разьвіцьцю шаўкоўніцтва ў БССР.
5. Вывучэньне гарбоўных матэрый БССР.
6. Лекавыя і дзікарослыя расьліны БССР (ягады, грыбы).
7. Вывучэньне экономікі раёнаў і іх спэцыялізацыі.
8. Монографічнае вывучэньне фабрык і заводаў, МТС, саўгасаў і колгасаў, таварных фэрм.
9. Організацыя работ на прамысловых прадпрыемствах, у саўгасах, МТС і ў колгасах.
10. Організацыя рабочай сілы ў колгасах.
11. Проблема падвышэньня ўраджайнасьці ў колгасах і саўгасах (вывучэньне шкоднікаў сельска-гаспадарчых культур і жывёлы і барацьба з імі).
12. Разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі ў саўгасах і колгасах.
13. Вывучэньне глеб саўгасаў і колгасаў.
14. Лясная гаспадарка ў раённым разрэзе.
15. Рыбная гаспадарка ў раёнах БССР.
16. Соцыялістычная рэконструкцыя гарадоў і новыя прамысловыя цэнтры.
17. Клясавая барацьба на вёсцы ў новых умовах соцыялістычнага будаўніцтва.
18. Проблема ўнутрыраённых шляхоў зносін у сувязі з стварэньнем новых індустрыяльных цэнтраў соцыялістычнай перабудовы вёскі (рэчныя і грунтовыя шляхі).
19. Разьвіцьцё савецкага гандлю ў БССР.
20. Савецкае будаўніцтва.
21. Культурна-бытавыя ўмовы ў савгасах і колгасах.
22. Культурнае будаўніцтва ў БССР, політэхнізацыя школ, ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, падрыхтоўка кадраў, кіно, радыёфікацыя, музэйнае будаўніцтва і інш.
23. Вывучэньне рабочага і рэволюцыйнага руху.
24. Вывучэньне гісторыі грамадзянскай вайны ў БССР.
25. Бязбожны рух і сэктанцтва ў раёнах БССР.
26. Комунальнае і жыльлёвае будаўніцтва ў раёнах БССР.
27. Прымяненьне вынаходніцтва і рацыяналізатарства на прадпрыемствах, у савгасах і колгасах.
28. Вывучэньне дыялектаў БССР.

VI. Гэтыя проблемы ўсімі масавымі дасьледчымі організацыямі павінны вырашацца ў цеснай сувязі з адпаведнымі пляную чымі, гаспадарчымі і спэцыяльнымі навукова-дасьледчымі ўстановамі.

VII. Адзначаючы, што разгортваньні масавай дасьледчай работы павінны ісьці па лініі максымальнага выкарыстаньня ініцыятывы і творчасьці шырачэйшых працоўных мас, сэкцыя лічыць, што падвядзеньне матар'яльнай базы пад масавыя дасьледчыя організацыі зьяўляецца аднэй з неабходнейшых умоў выкананьня цьвёрдых плянавых заданьняў масавымі дасьледчыкамі організацыямі.

Матар'яльная база масавых дасьледчых організацый забясьпечваецца: шляхам каштарысных і мэтавых асыгнаваньняў адпаведных устаноў, заключэньня дагавароў з гаспадарчымі, плянуючымі ўстановамі.

VIII. Плянаваньне масавай дасьледчай работы ў другой пяцігодцы набывае актуальнейшае значэньне. Сэкцыя лічыць, што плянаваньне гэтае работы ў распубліцы павінна праводзіцца БАН і ў раёнах—раённымі плянавымі камісіямі.

IX. Разгортваньне масавай дасьледчай работы ў другой пяцігодцы неразрыўна зьвязана з проблемай кадраў для масавых дасьледчых устаноў і організацый. Асноўнымі крыніцамі папаўненьня кадраў

для масава-дасьледчай работы павінна быць: організацыя кароткатэрміновых курсаў і конфэрэнцый, сэмінараў, організацыя завочнага навучаньня, адчыненьне спэцыяльных стацыянарных устаноў для падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі (спэцыяльных аддзяленьняў або факультэтаў пры інстытутах і ВНУ), прымацаваньне рабочых-ударнікаў да навукова-дасьледчых устаноў і падрыхтоўка праз асьпірантуру.

X. У мэтах папулярызацыі дасягненьняў навукі ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва і рэалізацыі вынікаў дасьледчай работы масавых дасьледчых організацый трэба шырака разгарнуць выданьне спэцыяльных навукова-папулярных часопісаў і непэрыодычных выданьняў (монографій, зборнікаў) як у цэнтры, так і ў буйнейшых раёнах (краязнаўчымі бюро і інш).

XI. Для забесьпячэньня пасьпяховага разгортваньня масавай дасьледчай работы навукова-дасьледчыя ўстановы павінны максымальна дапамагчы масавым організацыям шляхам выданьня мэтодычнай і інструкцыйна-програмнай літаратуры, організацыі кароткатэрміновых курсаў, конфэрэнцый, консультацый і інш.

XII. Выкананьне задач, якія стаяць перад масавай навукова-дасьледчай работай, можа быць ажыцьцёўлена толькі на аснове бязьлітаснай барацьбы з малейшымі праявамі варожай пролетарыяту ідэолёгіі, на аснове рашучага ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі.

---

# ХРОНІКА

## Урочышча Барадзінцы Дубровенскага раёну магчыма прыгодна для санаторыя

Апрача вядомага ўжо на тэрыторыі БССР месца для санаторыя каля в. Баркаўшчыны Вушацкага раёну на месцы выхаду мінэральнай крыніцы, зьвязанай з старадаўнімі дэвонскімі адкладамі, заслугоўвае ўвагі мною папярэдне агледжаная крыніца каля б. Барадзінцы.

Апошняя знаходзіцца на правым узвышаным беразе р. Дняпра ў 7 км ад г. Дуброўны і ў 6 км ад ст. Асінаўка МББ.

Знаходзячаяся тут на дне глыбокага раўка (глыб да 16 м) крыніца мае ваду з надзвычайна добрымі фізычнымі ўласьцівасьцямі і, як відаць, моцна мінэралізаваную (жалезістую і нэўна сярчаністую)[1].

Як і Баркаўшчына, трэба думаць, гэтая крыніца таксама зьвязана з няглыбокім заляганьнем парод так званага дэвонскага часу.

Падставай для гэтай думкі зьяўляюцца выхады недалёка ад гэтага месца парод гэтага ўзросту (Кабелякі і Ворша ніжэй па цячэньню і паміж в. Гарманы і Іванашчына, у 4 км вышэй па р. Дняпру).

Апрача таго, гэтыя-ж пароды сустракаліся на глыб. 8 м, ніжэй роўню р. Дняпра, калі рабілася прабоіна № 27 сьвідравальным атрадам нашай геолёгічнай партыі ў мінулым годзе, на бічаўніку ракі побач з крыніцай, супроць дому аб'езчыка. Пры сьвідраваньні былі пройдзены наступныя пароды:

1) Супесь шэрая з жаўтаватым адценьнем . . . . . . . . . . 0,50 см.

2) Пясок шэра-жоўты, вельмі гліністы тонка-зярнёвы . . . . . . 2,50 м.

3. Суглінак жоўта-буры пяшчаны, шчыльны, які з глыб. 4,50 м пераходзіць у суглінак шэры з шызаватым адценьнем і моцна карбонатны . . . . 4.0

4. Гліна чакаляднага колеру, вязкая з галькай, моцна карбонатная . 4.0

5. Вапняк шэры долёмітызаваны, пройдзена . . . . . . . . 0,15 м.

агульная глыбіня . . . . . . 11,15 „

Усе адклады, уключна да № 4, па ўзросту адносяцца да чацьвярцёвых, а апошні трэба залічыць да адкладаў старадаўняга мора—так званага дэвонскага часу.

Судзячы па таму, што такога-ж характару крыніца, толькі меншых разьмераў, маецца і крыху вышэй (км на 3), каля парому ў Гарманы-Халеў'е, трэба думаць, што крыніца каля Барадзінцы ўяўляе сабой не адзіночны выхад, а, магчыма, цэлы рад іх, па шчылінах у дэвонскіх адкладах.

Паміж іншым, трэба адзначыць, што сярод вакольнага насельніцтва вада гэтай крыніцы была вядома як лекавая і нават яы „сьвятая".

Зроблены хэмічны аналіз (у лябораторыі Беларускай Акадэміі Навук)[2] дастаўленай пробы вады з гэтай крыніцы выявіў наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Колер | бяз колеру |
| 2. | Пах | звычайны |
| 3. | Смак | нормальны |
| 4. | Празрыстасьць | празрысты |
| 5. | Ападак 24,6 | |
| 6. | Рэакцыя | 4,2° шчолачная |
| 7. | Жорсткасьць (у нямецк. градусах) | |
| | а) агульная | 11,2° |
| 8. | б) сталая | 3,6° |
| | в) зьнікаючая | 7,6 |
| 9. | $CO_2$ агульная | 184,0 |
| 10. | „ вольная | 96,0 |
| 11. | „ паўзьвязаная | — |
| 12. | „ зьвязаная | 88,0 |
| 13. | $N_2O_5$ | ня знойдзена |
| 14. | $N_2O_3$ | 0,015 |
| 15. | $NH_3$ | 0,61 |
| 16. | $H_2S$ | няма |

[1] Навакол крыніцы па каменьнях назіраюцца моцныя адклады паўтаравокіснага жалеза.

[2] Аналіз выканала т. Бялевіч.

| | | |
|---|---|---|
| 17. | $SO_3$ . . . . . . . . | 40,0 |
| 18. | Сухая астача фільтраванай вады пры 110°С. . . . | 386,4 |
| 19. | Сухая астача фільтраванай пасьля пракалу. . . . | 299 |
| 20. | Страта ад пранальваньня. | 86,6 |
| 21. | $CO_2$ з сухой астачы . . | 14,2 |
| 22. | Органічнай матэрыі . . | 72,4 |
| 23. | $SiO_2$ . . . . . . . . | 13,4 |
| 24. | $Fe_2O_3$. . . . . . . . | сьляды |
| 22. | $Al_2O_3$ . . . . . . . . | 1.0 |
| 26. | $C_2O_5$ . . . . . . . . | 1,24 |
| 27. | CaO . . . . . . . . | 77,3 |
| 28. | $K_2O$ . . . . . . . . | ня знойдзена |
| 29. | MgO . . . . . . . . | 23,9 |
| 30. | Хлёр (Cl). . . . . . | 7,0 |
| 31. | $Na_2O$ . . . . . . . . | 16,4 |
| 32. | Акісьлялънасьць на холадзе ў mg. O . . . . . . | 0,16 |
| 33. | Акісьлялънасьць на холадзе пры награваньні . . . | 1,36 |
| 34. | Адносная вага пры 15°С. | 1.000 |
| 35. | Аналіз асадку (10% HCl) $Fe_2O_3$. . . . . . . . | 1.2 mg |

У даным аналізе зварачае на сябе ўвагу сапраўдная некалькі павышаная мінэралізацыя (павышаная колькасьць $SO_3$[1].

Таксама зварачае на сябе ўвагу выяўленая прысутнасьць азоцістай кіслаты, аміяку і фосфарнага ангідрыду, але гэта трэба[2] лічыць за выпадковы ўплыў аднаго з хэмічных компонэнтаў[3].

Але для канчатковай ацэнкі якасьці гэтай вады трэба зрабіць паўторны аналіз і ўжо ў спэцыяльнай лябораторыі Санітарна-гігіенічнага ін-ту, а ўлічваючы важнасьць гэтага пытаньня для курортнай справы БССР, пажадана гэта зрабіць на самым месцы знаходжаньня абедзьвюх крыніц.

Дадаючы да гэтага яшчэ, што: 1) гэтая мінэралізаваная крыніца знаходзіцца сярод дубовага гаю навакол раўку, а таксама што 2) амаль уся тэрыторыя б. ф. Барадзінцы занята лесам, пераважна хваёвым, і што, як гаварылася 3) яна знаходзіцца на самым беразе Дняпра, трэба адзначыць, што гэты раён зьяўляецца адным з найбольш маляўнічых куткоў, якія даводзілася назіраць на тэрыторыі БССР.

Калі яшчэ прыняць пад увагу нязначную адлегласьць ад станцыі такой бойкай чыгункі, як МББ, ад Дуброўны і такога значнага чыгуначнага вузла, як Ворша, то ў выпадку спрыяючай санітарна-гігіенічнай ацэнкі Барадзінцы могуць у бліжэйшым будучым зрабіцца санаторыем значнага маштабу.

Н. Кавалёў.

[1] Што датычыцца жалеза, то яго пры аналізе выяўлены толькі сьляды толькі таму, што за час паміж узяцьцем пробы і ўтварэньнем аналізу яно выпала з раствору, што часткай выяўлена пры аналізе ападку.

[2] Гэта магчыма пры такой малой колькасьці хлёру.

[3] На думку доктара П. В. Астапені.

# У ЦБК

На паседжаньні Прэзыдыуму Масавага сэктару і ЦБК ад 5 кастрычніка бягучага году абгаворана пытаньне аб організацыйнай перабудове апарату ЦБК. Выходзячы з конкрэтных запатрабаваньняў у разгортваньні краязнаўчага руху, у апараце ЦБК створаны наступныя сэктары: 1) організацыйна-інструктарскі сэктар у складзе: загадчыка т. Шырая і інструктароў Кулакова і Калечыца; 2) навукова-мэтодычны сэктар, загадчыкам якога вылучаны тав. Самцэвіч і 3) выдавецкі сэктар—загадчыкам якога вылучаны т. Садоўскі. Адпаведная перабудова павінна адбыцца і ў раённых бюро краязнаўства. Паказаньне ў гэтым кірунку распрацоўваецца і будзе апублікавана ў чарговым нумары часопісу „Савецкая Краіна“.

На тым-жа паседжаньні вырашана пытаньне аб правядзеньні месячніку краязнаўства па БССР. Распачата падрыхтоўчая работа па ўзгадненьню гэтага пытаньня з адпаведнымі дырэктыўнымі органамі і распрацоўка неабходных матар'ялаў да правядзеньня месячніку. Месячнік мяркуецца правесьці ў першым квартале 1933 г.

---

У мэтах падагульненьня работы краязнаўчых організацый за 1932 г., выяўленьня лепшае практыкі работы, лепшых ударнікаў-краяведаў, правядзеньня колькаснага і якаснага складу організацыі і падрыхтоўкі да складаньня пляпаў работы на 1933 г., ЦБК разаслала ўсім раённым бюро краязнаўства адпаведныя паказаньні аб правядзеньні гэтае работы да 20 сьнежня б/г. Да падагуленьня работы краязнаўчых організацый павінны быць прыцягнуты мясцовыя організацыі, установы і раённы друк і савецкая грамадзкасьць праз стварэньне праверачных брыгад, заслухоўваньне дакладаў раённых краязнаўчых бюро на шырокіх сходах рабочых, колгасьнікаў, профсаюзных і інш., а таксама асьвятленьне гэтай работы на старонках насьценных, раённых і цэнтральных газэт.

ЦБК зданы ў друк II зборнік програм і інструкцый па краязнаўству. У зборніку зьмешчаны наступныя програмы і інструкцыі: „Вывучэньне гарадоў", „Вывучэньне глеб БССР", „Вывучэньне вод", „Вывучэньне савгасаў сіламі школы", „Як організаваць краязнаўчую работу ў колгасе" і інш. Зборнік мяркуецца выйсьці з друку ў пачатку студзеня 1933 г.

———

Навукова-мэтодычным сэктарам ЦБК распрацаваны прыктычныя мерапрыемствы па лініі краязнаўства па рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) ад 25/VIII-1932 г. „Аб вучэбных програмах і рэжыме ў сярэдняй і пачатковай школе". Мерапрыемствы зацьверджаны Прэзыдыумам ЦБК на паседжаньні ад 22 лістапада б/г. і перададзены на ўзгадненьне ДВС, пасьля чаго будуць даведзены да раённых бюро краязнаўства.

## Што робіцца па краязнаўству ў раёнах

У пачатку кастрычніка бягучага году організавана новае раённае бюро краязнаўства ў г. Барысаве. У склад бюро ўваходзяць: т.т. Паярнік—старшыня бюро, Нікіфаровіч—намесьнік старшыні і Герцікаў—сакратар. Бюро распрацавала і ўзгадніла з адпаведнымі раённымі організацыямі і ўстановамі плян работы па разгортваньню краязнаўчай работы ў раёне. Галоўнейшымі пытаньнямі пляну работы зьяўляюцца: популярызацыя задач савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас раёну і ўцягненьне іх у навукова-дасьледчую работу, організацыйнае афармленьне краязнаўчай сеткі, організацыя краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у савгасах, колгасах, навучальных установах і інш., заснаваньне раённага краязнаўчага музэю і бібліотэкі. Бюро таксама правяло падрыхтоўчую работу да складаньня экономічна-геграфічнага апісаньня Барысаўскага раёну, складзена адпаведная брыгада, якая зьбірае патрэбны матар'ял да апісаньня раёну. Перад прэзыдыумам Барысаўскага РВК бюро краязнаўства ўзьняла хадайніцтва аб асыгнаваньні сродкаў на організацыю масавай навукова-дасьледчай работы і аб вызначэньні памяшканьня для краязнаўчага музэю.

У першай палове лістапада старшыня ЦБК т. Шырай выяжджаў у Жыткавіцкі раён для праверкі і абсьледваньня стану краязнаўчай работы ў раёне. На месцы аказалася, што на працягу апошніх двух год ніякай краязнаўчай работы і краязнаўчых організацый ня было. Раённыя організацыі і ўстановы зусім не займалася гэтым пытаньнем, не зважаючы на цэлы рад яскравых дырэктыў цэнтральных партыйных, савецкіх і профсаюзных устаноў і організацый па пытаньням разгортваньня краязнаўчага руху.

Па дагаворанасьці з мясцовымі організацыямі была склікана ў м. Жыткавічах шырокая нарада раённага актыву партыйных, савецкіх, профсаюзных, комсамольскіх організацый для абгаварэньня пытаньня па разгортваньню краязнаўчага руху ў раёне. На нарадзе тав. Шыраём зроблены даклад „Чарговыя задачы краязнаўчай работы ў раёне". Нарада вынесла пастанову аб важнасьці савецкага краязнаўства ў справе дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву і вылучыла з свайго складу організацыйнае бюро па разгортваньню краязнаўчага руху ў раене. Нарада даручыла вылучанаму бюро краязнаўства: правесьці популярызацыю задач савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас раёну, організацыйна аформіць краязнаўчую сетку і забясьпечыць разгортваньне сыстэматычнай і плянава-навуковай работы ў раёне. Бюро сумесна з т. Шыраём распрацавала конкрэтны плян у галіне краязнаўства і прыступіла да яго рэалізацыі.

Краязнаўчая ячэйка пры Магілеўскім пэдагогічным інстытуце налічвае ў сваім складзе 75 чалавек-студэнтаў і выкладчыкаў Інстытуту. Работа ячэйкі накіравана, галоўным чынам, на зьбіраньне матар'ялаў для ўсебаковага апісаньня Магілеўскага раёну, якое мае быць скончана ў пачатку 1933 г. Ячэйка таксама праводзіць вялікую работу па популярызацыі задач савецкага краязнаўства і падрыхтоўвае бюро краязнаўства, якога там яшчэ няма.

Т. К.

## Краязнаўчая работа ў школах Менску

На працягу верасьня-кастрычніка бягучага году організаваны і прыступілі да практычнай работы краязнўчыя ячэйкі ў наступных школах г. Менску: 2-я фабрычна-заводзкая сямігодка, 4-ая фабрычна-заводзкая дзесяцігодка і 20-ая ф. З. С. У першай з іх краязнаўчая ячэйка налічвае ў сваім складзе 142 чалавекі, у другой 46 і ў трэцяй 75. Ячэйкі ў сваім складзе яднаюць пераважна вучняў старэйшых груп і частку выкладчыцкага пэрсоналу. Усе ячэйкі склалі пляны работы на ўвесь навучальны год. Пляны работы прадугледжваюць наступныя моманты: вывучэньне прырод-

ных багацьцяў, організацыя фэнолёгічных і мэтэоролёгічных нагляданьняў, вывучэньне прадпрыемстваў, да якіх прымацаваны школы, організацыя вучнёўскіх краязнаўчых экскурсій і падарожжаў, правядзеньне краязнаўчых вечароў, выпуск насьценных газэт з мэтай популярызацыі савецкага краязнаўства, организацыя краязнаўчай работы на прадпрыемствах і інш.

Пляны работы ячэйкі разгледжаны і зацьверджаны школьнымі саветамі адпаведных школ і ўвязаны з програмным матар'ялам паасобных дысцыплін, якія выкладаюцца ў школе. Для мэтодычнае дапамогі ў рабоце ячэйкам школьнымі саветамі вылучаны адказныя кіраўнікі з выкладчыкаў школ. Комсамольскія і піонэрскія організацыі школ зьяўляюцца застрэльшчыкамі ў справе організацыі і разгортваньня плянаў работы краязнаўчых ячэек.

Работа ячэек праводзіцца брыгадным мэтодам. Увесь склад членаў ячэйкі падзяляецца на паасобныя брыгады, якім даручаецца выкананьне пэўнага заданьня паводле агульнага пляну работы ячэйкі. Пэрыядычна брыгады робяць інформацыі і справаздачы аб ходзе работы на пасяджаньні бюро ячэйкі. Брыгады паміж сабою разгарнулі социялістычнае спаборніцтва на сваечасовае і лепшае выкананьне сваіх заданьняў.

Т. К.

## Плян работы школьнай краязнаўчай ячэйкі пры Асіпавіцкай ФЗС—I

Краязнаўчая ячэйка пры Асіпавіцкай узорнай школе ФЗС - I існуе ўжо некалькі год. Ячэйка ў мінулым прарабіла значную работу, увязаўшы яе за апошні год з райплянам. У гэтым годзе ў сваім складзе ячэйка налічвае 26 чалавек вучняў розных груп другога концэнтру – большасьць шостых груп. Пераважнасьць вучняў 6-х груп мае некаторае значэньне ў сэнсе пераемнасьці работы, бо гэтыя вучні на будучы год застаюцца ў школе (будуць у 7 гр.), а тымчасам вучні 5 груп набудуць некаторую краязнаўчую практыку.

У аснову сваёй работы на 1932-33 навучальны год (зімовы і летні пэрыоды) ячэйка паклала два моманты: увязку з навучальнымі програмамі і ўвязку з райплянам па пытаньню адшуканьня сыравіны і вылічэньня яе колькасьці.

Выходзячы з вышэйпаказанага, работа ячэйкі намечана наступная:

### 1. Торф

Зімовы пэрыод. І. Экскурсія на торфазавод „Ізопліт—2“ за ўзорамі продукцыі. Зрабіць дыяграму складу торфу ($H_3$, С, О і г. д.), што зьвязана з курсам 7 групы. Паказаць, што дае торф пры апрацоўцы яго спосабамі хэмічным, тэрмічным і мэханічным (плякат). Падрыхтаваць карты раёну. Зрабіць рэльефную карту мясцовасьці, дзе пабудаваны Ізопліт—2. Ля дыяграм зьмясьціць фотоздымкі.

Летні пэрыод. І. Зрабіць дасьледчую экскурсію па раёну з мэтаю выяўленьня пакладаў торфу і прыблізнага вылічэньня колькасьці торфу. Намечаны экскурсіі:

1) Лочын—Пагарэлае (6 чал.), 2) Дзераўцоўскі с/с (5 чал.), 3) Навакол м. Асіпавічы (10 чал.), дзе таксама маецца торф. Вызначыць прыблізную колькасьці торфу і ўзрост. Зрабіць экскурсію на торфазаводы „Ізопліт—2“ і „Свобада“ (Ясень) з мэтаю азнаямленьня з работаю, машынамі, спосабамі распрацоўкі (вялікі гідраторф, элеватарны і інш.). Узяць моноліты торфглебы. Нанесьці на карту раёну торфамасывы.

### 2. Дрэваапрацоўчая прамысловасьць

Зьвязацца з Вяскім лясьніцтвам па пытаньню водпуску для школы ўзораў цьвёрдых і мяккіх парод дрэў нашага раёну. У працягу зімняга пэрыоду—перавезьці з лясьніцтва ў школу ўзоры. Зрабіць дыяграму—склад дрэўнага вугалю. Падрыхтаваць карту нашага раёну. Даведацца аб продукцыі лесазаводаў (Асіпавічы, Ясень, Лапічы) раёну. Нанесьці на карту лясныя масывы нашага раёну. Што дае дзерава нашаму раёну. Нанесьці на карту лесазаводы з паказаньнем вытворчасьці. Апрацаваць узоры цьвёрдых і мяккіх парод дрэў (2 разрэзы, паліроўка і інш.) для сталай выстаўкі ў клясе-музэі.

Зрабіць экскурсію на лесазаводы Ясень, Асіпавічы, Лапічы.

### 3. Выраб шкла

Зьвязацца з вучкомам школы ФЗС „Кастрычнік“ з мэтаю атрыманьня дапамогі пры зборы ўзораў вырабу гуты. Адначасна паставіць перад шкалькомам ФЗС „Кастрычнік“ пытаньне аб організацыі ў гэтай школе краязнаўчай ячэйкі, узаемнай дапамозе і абмене практыкай. Пабудаваць выстаўку вырабаў шклозаводу. Экскурсія на шклозавод для азнаямленьня з яго работаю. Узяць узоры складаных частак шыхты; параўнаць з мясцовай сыравінай. Зрабіць фотоздымкі заводу і замалёўкі і калі магчыма—модэль заводу.

**4. Гліна**

Падрыхтаваць карту раёну з паказаньнем ужо вядомых пакладаў гліны. Падрыхтаваць скрынкі для ўзораў гліны разьмерам 10×12×5 см.

Зрабіць экскурсію ў Ліпень для выяўленьня пакладаў гліны. Нанесьці на карту ўсе новыя месцазнаходжаньні гліны, дасьледваныя ў часе экскурсіі мінулых год.

Скласьці колекцыю глін.

**5. Мэргель**

Нанесьці на карту месцазнаходжаньні мэргелю.

Дасьледваць мэргель (плошчу заляганьня) у Нагарэльскім і Зборскім с/с—2 экскурсіі (10 чал.).

**6. Пясок**

Зрабіць карту раёну, падрыхтаваць скрынкі для ўзораў.

Зрабіць экскурсію—берагі ракі Сьвіслачы, у Дзераўцоўскі с/с з мэтаю дасьледваньня пяскоў.

Нанесьці на карту месцазнаходжаньне пяскоў, якія могуць быць скарыстаны ў шкляной прамысловасьці.

**7. Жалезная руда**

Зьвязацца па пытаньню абсьледваньня жалезнай руды з Сьвіславіцкімі школамі.

Экскурсія ў в. Пад'ямнае для высьвятленьня плошчы, занятай жалезнай рудой і колькасьці фарбы. Высьветліць у школьнай ляборатрыі якасьць фарбы.

**8. Каменны вугаль і нафта**

Азначыць ролю каменнага вугалю нашага раёну (транспорт) і нафты (электрастанцыя). Паказаць дыяграмамі іх цяплынёвую калёрыйнасьць. Сабраць узоры каменнага вугалю. Даведацца аб расходваньні каменнага вугалю і нафты на транспорце і электрастанцыі.

**9. Дасьледваньне глебы**

З раньняй вясны намечана работа па вызначэньню кісласьці глебы ў колгасах (работа з індыкатарам).

З гэтага-ж часу на прышкольным участку мяркуецца зрабіць пасадку соі і топінамбуру, для чаго гурток намеціў зьвязацца з ЦБК АН БССР.

Увесь сабраны за гэты час матар'ял будзе разьмеркаваны ў прыродазнаўчай ляборатрыі, куды будзе зьмяшчацца, апрача таго, яшчэ матар'ял, што наогул характарызуе наш раён—моноліты, акварыум, колекцыі шасьціножак, шкоднікаў і інш. і, такім чынам, створыцца кляса-музэй.

За зімовы і летні пэрыод бягучага навучальнага году, такім чынам, намечана зрабіць экскурсіі 1) дасьледчых—3, 2) для азнаямленьня з вытворчасьцю раёну—4-5

Лічачы, што ў дасьледчых экскурсіях будзе прымаць удзел у сярэднім кожны раз 8—10 чал., мяркуецца патраціць на гэтыя экскурсіі 450—500 р.; на вытворчыя экскурсіі—200 р.; разам 650—700 р. Невялікая частка гэтых грошай (40—50 р.) будзе рэалізавана школаю; у тым выпадку, калі ўрэшце пры РВК з 1/I-33 г. будзе створана краязнаўчае бюро, можна спадзявацца атрымаць крыху грошай і ад яго.

Работа зараз ужо распачата; адбылася экскурсія ў Татарку на торфзавод „Ізопліт—2", адкуль прывезена частка матар'ялу; ячэйка зьвязалася з шкалькомам Сьвіслацкай ФЗС, куды ў гэтым месяцы накіроўваецца бюро краязнаўчай ячэйкі для перамоў па пытаньням супольнай работы.

Н е м ц а ў

Пастановай ЦК УсеКП(б) ад 25/VIII г. „Аб вучэбных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе" асабліва падкрэсьлена роля і значэньне краязнаўства ва ўсёй рабоце пачатковай і сярэдняй школы. У пастанове ЦК гаворыцца:

„Прызнаць неабходным у вучэбныя програмы па грамадазнаўству, літаратуры, мовах, географіі і гісторыі ўвесьці важнейшыя веды, якія датычаць нацыянальных культур народаў СССР, іх літаратуры, мастацтва, гістарычнага разьвіцьця, а таксама элемэнты краязнаўства СССР (прыродныя асаблівасьці, прамысловасьць, сельская гаспадарка, соц. экономічнае разьвіцьцё і г. д.). Гэта пастанова абавязвае ўсе школы належным чынам заняцца пытаньнямі школьнага краязнаўства як у парадку програмнага выкладаньня, так і ў парадку гуртковай работы. Да гэтага-ж абавязвае школы і пастанова СНК БССР ад 1/VI г. г. „Пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху". Між тым да гэтага часу толькі асобныя школы (Рэчыцкі пэдтэхнікум, Асіпавіцкая ФЗС, 20, 2 і 5 Менскія ФЗС) часткова заняліся пытаньнямі школьнага краязнаўства, большасьць-жа школ да належнай рэалізацыі пастановы ЦК ў галіне школьнага краязнаўства не прыступілі.

Падацы ніжэй плян работы школьнай краязнаўчай ячэйкі Асіпавіцкай 1-ай ФЗС намячае ўжо пэўны кірунак і вызначае характар краязнаўчай работы школьнай краязнаўчай ячэйкі (праўда, толькі ў галіне вывучэньня прыродных асаблівасьцяў і прамысловасьці свайго раёну). Краязнаўчая работа ячэйкі ўвязваецца з школьнымі програмамі і падпарадкуецца вучэбна-выхаваўчым задачам школы. Вельмі патрэбна, каб школы на старонках часопісу „Савецкая Краіна" дзяліліся практычнымі вынікамі сваёй работы па рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК БССР аб пастаноўцы краязнаўчай работы.

Н е м ц а ў А.

## Да краязнаўчага дэкадніку ў Крычаўскім раёне

У мэтах популярызацыі задач савецкага краязнаўства, практычнай дапамогі мясцовым організацыям у справе разгортваньня масавай навукова-дасьледчай работы і падпарадкаваньня яе непасрэдным задачам соцыялістычнага будаўніцтва, ЦБК падрыхтоўвае правядзеньне краязнаўчага дэкадніку ў Крычаўскім раёне. У часе правядзеньня дэкадніку мяркуецца правесьці ў г. Крычаве на сходах раённага партыйнага, савецкага, комсамольскага і профсаюзнага актыву і шырокіх працоўных мас наступныя даклады:

1) Акадэмія навук і навукова-дасьледчая работа ў БССР—даклад віцэ-прэзыдэнта АН БССР т. Шчарбакова.

2) Глебавае акрыцьцё Крычаўшчыны і задачы ўздыму ўраджайнасьці—даклад акад. Афанасьева.

3) Карысныя выкапні Крычаўшчыны і іх далейшае вывучэньне—даклад вучонага спэцыяліста т. Маеўскага.

4) Другая пяцігодка БССР і краязнаўчыя організацыі—дакл. вучонага спэцыяліста т. Серафімава.

5) Політэхнізацыя школы і краязнаўства—дакл. вучонага спэцыяліста Самцэвіча.

Адначасна з правядзеньнем дэкадніку ў Крычаве падрыхтоўваецца скліканьне куставой нарады краязнаўчых організацый, у якой павінны прыняць удзел прадстаўнікі ад наступных раённых бюро краязнаўства: Крычаўскага, Мсьціслаўскага, Чэрыкаўскага, Касьцюковіцкага, Горацкага, Чырвонапольскага, Аршанскага, Чавускага і Клімавіцкага. На нарадзе будуць абмеркаваны пытаньні інструкцыйна-мэтодычнага характару работы краязнаўчых організацый і аб складаньні плянаў навукова-дасьледчай работы на 1933 год.

Правядзеньне дэкадніку мяркуецца з 10 па 20 студзеня 1933 г.

## Вывучым практыку лепшых барацьбітоў за высокі ўраджай

Галоўнейшай задачай, пастаўленай партыяй і ўрадам перад саўгасамі і колгасамі ў другой пяцігодцы, зьяўляецца барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці. Лепшыя колгасы СССР і БССР ужо паказалі прыклады сапраўднай барацьбы за высокі ўраджай. Так, напр., у комуне „Верны шлях“ (Дрысенскага раёну) ураджай азімай пшаніцы дасягнуў ужо 20 цэнт. з га; колгасьнікі с-г. арцелі „Прогрэс“ (Лёзьненскага р.) дабіліся 5 цэнтн. ураджаю ільну-валакна з 1 га, а комуна „Праца“ (Ельскага раёну) ураджай бульбы давяла да 300 цэнтн. з 1 га. Такія дасягненьні маюць і іншыя колгасы БССР, але аб іх ня ведае шырокая савецкая грамадзкасьць, практыка і дасягненьні. передавых па ўраджайнасьці колгасаў не перадаюцца іншым колгасам. А між тым абмен практыкаю ў барацьбе за высокі ўраджай у буйных соцыялістычных гаспадарках мае надзвычайна вялікае значэньне ў справе хутчэйшага вырашэньня проблемы павялічэньня ўраджайнасьці нашых соцыялістычных палёў.

У мэтах перадачы практыкі перадавых колгасаў у барацьбе за высокі ўраджай усім колгасам СССР Колгасцэнтар СССР разам з газэтай „Социалистическое земледелие“ і часопісам „Коллективист“, а таксама і Колгасцэнтар БССР разам з газэтай „Колгасьнік Беларусі“ і часопісам „Шляхі колектывізацыі“ організуюць сыстэматычны ўлік колгасаў, якія ўжо дабіліся і атрымоўваюць высокія ўраджаі, і ўлік тых агротэхнічных мерапрыемстваў, якія садзейнічалі і зьяўляюцца неабходнымі для дасягненьня высокіх ураджаяў. Улік перадавых колгасаў і іх дасягненьняў у галіне ўраджайнасьці будзе праводзіцца на падставе корэспондэнцый саміх колгасьнікаў, брыгадзіраў, агрономаў. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах, пры ШКМ і асобныя краяведы-колгасьнікі павінны таксама прыняць актыўны ўдзел у вывучэньні практыкі, дасягненьняў перадавых колгасаў у барацьбе за высокі ўраджай на колгасных палёх. Лепшыя колгасы, якія маюць ужо дасягненьні ў павялічэньні ўраджаю і якія будуць прызнаны найбольш узорнымі, будуць заносіцца *ў сьпіс гонару*. Гэты сьпіс будзе сыстэматычна друкавацца ў газэтах „Социалистическое земледелие“ і „Колгасьнік Беларусі“. Апрача таго, колгасы, якія будуць мець усесаюзнае значэньне, увойдуць у асобны альбом, які выдаецца Колгасцэнтрам СССР і газ. „Социалистическое земледелие“, колгасы-ж, дасягненьні якіх будуць мець рэспубліканскае значэньне, увойдуць у альбом, які будзе складацца Колгасцэнтрам БССР і газэтай „Колгасьнік Беларусі“. Колгасам, якія будуць занесены ў сьпіс гонару, будуць выданы атэстаты як барацьбітом за высокі ўраджай. У колгасах будуць організаваны спэцыяльныя агрогабінэты ў мэтах далейшага паглыбленьня работы па падвышэньню ўраджайнасьці. У альбоме-ж будуць зьмешчаны фотографіі лепшых колгасьнікаў, якія праявілі сябе як сапраўдныя барацьбіты за высокі ўраджай. Па СССР будзе вылучана 1000 і па БССР 200 лепшых колга-

саў, з якіх 20 колгасам па СССР і 4 колгасам па БССР будуць выданы сьцягі ўдарнікаў. Лепшыя корэспондэнцыі з узорнымі апісаньнямі колгасаў, дасягненьні якіх можна будзе пашырыць на ўсе колгасы СССР, Колгасцэнтрам СССР і газэтай „Социалистическое замледелие" будуць аплачаны ў суме 300 руб., а лепшыя апісаньні колгасаў, дасягненьні якіх будуць мець рэспубліканскае значэньне, будуць аплачаны Колгасцэнтрам БССР і газэтай „Колгасьнік Беларусі" ў суме 200 руб.

У кожным апісаньні колгасу, згодна запатрабаваньняў Колгасцэнтру, павінны быць высьветлены наступныя пытаньні:

1. Назва колгасаў і месцапалажэньне (сельсавет, раён). 2. Плошча пасеву і ўраджай у цэнтнерах па асобным культурам (і ў паасобных брыгадах) у параўнаньні з ураджаем мінулых гадоў і ў параўнаньні з ураджаем суседніх колгасаў, савгасаў (конкрэтна) і паасобных гаспадарак. Конкрэтныя мерапрыемствы, забясьпечыўшыя атрыманьне больш высокага ўраджаю чым у суседніх колгасах, савгасах і аднаасобных гаспадарках. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на дакладнае вывучэньне і высьвятленьне: а) агротэхнічных мерапрыемстваў, праведзеных у колгасе і забясьпечыўшых павялічэньне ўраджаю: тэрміны сяўбы, севазварот, спосабы апрацоўкі глебы, глыбіня ворыва, баранаваньне, ворыва і ачыстка папару, лушчэньне, ўгнаеньне (выкарыстаньне гною, торфу, мінэральных угнаеньняў, вапны, адкідаў), якасьць насеньня, нормы высеву, барацьба з сарнякамі, догляд за пасевамі, барацьба са шкоднікамі і інш.; б) організацыйных пытаньняў: організацыя брыгад і работы, ліквідацыя абязьлічкі, барацьба з стратамі (організацыя, спосабы і тэрміны ўборкі, абмалоту, вязка снапоў, возка і скірдаваньне, зёрнаўлаўлівальнікі, найлепшае выкарыстаньне машын і г. д.), ахова ўраджаю і спосабы хаваньня, рацыяналізатарскія мерапрыемствы, праведзеныя ў колгасе і інш.: в) у якіх мерапрыемствах зацікаўлены колгасьнікі і брыгадзіры для забесьпячэньня актыўнай барацьбы за высокі ўраджай; прэм'яваньне і іншыя спосабы заахвочаньня лепшых ударнікаў і брыгадзіраў да барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці; г) ролі брыгадзіраў, паасобных колгасьнікаў, колгаснага актыву, членаў і старшынь праўленьня ў барацьбе за высокі ўраджай. Разам з гэтым трэба даць біографіі і фотографіі найбольш актыўных колгасьнікаў, праявіўшых сябе ў барацьбе за высокі ўраджай.

Краязнаўчыя організацыі павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на вывучэньне практыкі лепшых колгасьнікаў у барацьбе за ўраджай, на пропаганду дасягненьняў лепшых колгасаў сярод іншых колгасаў і мобілізацыю колгасных мас на ўжываньне агротэхнічных і організацыйных мерапрыемстваў, якія павінны забясьпечыць павялічэньне ўраджаю ў колгасах. Краязнаўчыя організацыі павінны наладзіць сыстэматычную дасьледчую работу ў колгасе па вывучэньню мерапрыемстваў і сродкаў павялічэньня ўраджайнасьці розных, асабліва асноўных с-г. культур, уцягнуўшы ў гэту работу шырокія колгасныя масы.

Усе матар'ялы па вывучэньню практыкі і дасягненьняў лепшых колгасаў у барацьбе за высокі соцыялістычны ўраджай (артыкулы, заметкі, дыяграмы, фотоздымкі і інш.) краязнаўчыя організацыі павінны перасылаць для надрукаваньня ў рэдакцыю газэты „Колгасьнік Беларусі" (Менск, Савецкая, 68) і часопіс „Савецкая Краіна". В. С.

---

**Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук**

# ВЫДАНЬНІ

## Масавага сэктару Беларускай Акадэміі Навук і Ц. Б. Краязнаўства, якія вышлі ў сьвет у 1931 і 1932 гг.

### НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

1. **Баркоўскі С.**—Першае мая на Беларусі. (Гістарычны нарыс).—Масавы сэктар і Ін-т гісторыі, 3-е выд. дапоўнен. і перапрацаванае. М. 1932. Стар. 44. 1.000 экз. Ц. 60 к.
2. **Булыга С. М.** — Вапняковыя пароды БССР. (Да 3-яй бальшавіцкай вясны),—Масавы сэктар. М. 1932. Стар. 18. Карта 1. 1.000 экз. Ц. 20 к.
3. **Вывучай гісторыю грамадзянскай вайны.** Пастановы ЦК УсеКП(б) ЦК КП(б)Б, адозва М. Горкага і інструкцыі.—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 20. 3.000 экз. Ц. 7 к.
4. **Вывучай гісторыю заводаў.** Пастанова ЦК УсеКП(б). Артыкул М. Горкага.—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 11. 3.000 экз. Ц. 5 к.
5. **Ганчарык М.**—Аб культуры сої ў БССР.—Масавы сэктар і ЦБ Краязнаўства М. 1932. Стар. 15. 1.000 экз. Ц. 15 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна“ № 3 (17) 1932 г.).
6. **Грынблят М. і Ляўданскі А.**—Краязнаўчыя музэі і веснавая пасяўная кампанія.—Масавы сэктар і Ін-т гісторыі. М. 1932. Стар. 59. 1.000 экз. Ц. 45 к.
7. **За савецкае краязнаўства.** (Матар'ялы да краязнаўчай пяцідзенкі).—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 28. 2.000 экз. Ц. 25 к. (А обны адбітак з часопісу „Савецкая Краіна“ № 1-2 за 1930 г.).
8. **Магілеўчык З. К. д-р.**—Зрухі і задачы санітарнага аздараўленьня вёскі ў сувязі з соцыялістычнай яе рэконструкцыяй.—М. 1931. Стар. 15. 500 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая краіна“ № 7 (9) за 1931 г.).
9. **Маргелаў і Лойка.**—Програма экономіка-географічнага апісаньня раёнаў БССР.—Масавы сэктар і Ін-т экономікі. М. 1932. Стар. 16. 300 экз, Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна“ № 3 (17) 1932 г.).
10. **Монографічнае вывучэньне фабрык і заводаў.**—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 34. 2.000 экз. Ц. 30 к.
11. **Мяжэвіч Ул.**—Людзі зямлі. М. 1931. Стар. 20. 1.000 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна“ № 7 (9) за 1931 г.).
12. **Палажэньне аб раённым бюро краязнаўства.**—ЦБ Краязнаўства. М. 1932. Стар. 11. 3.000 экз. Ц. 10 к.
13. **Поляк А. П.**—Організацыя дашкольных дзіцячых установ. (Да 3-й бальшавіцкай вясны).—Ін-т біолёгічных навук і Масавы сэктар. М. 1932. Стар. 54, 1.000 экз. Ц. 40 к.
14. **Рагавы П.**—Кароткая інструкцыя да вывучэньня глеб БССР краязнаўчымі організацыямі.—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 16. 300 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкаа Краіна“ № 8 (10) 1931 г.).
15. **Рудзіцкі Л.**—Фашызацыя буржуазнай дзяржавы і соцыял-фашызм.—Масавы сэктар. М. 1932. Стар. 20. 1.000 экз. Ц. 25 к.
16. **Самцэвіч В.**—Як організаваць краязнаўчую працу на фабрыцы і заводзе.—ЦБ Краязнаўства. М. 1931. Стар. 20. 1.000 экз. 10 к.
17. **Самцэвіч В.**—Як організаваць монографічнае вывучэньне раёну.—М. 1931. Стар. 15. 500 экз. Ц. 10 к. (Адбітак з часопісу „Савецкая Краіна“ № 7 (9) за 1931 г.).

(гл. на адвароце)

